Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 30 (4625) 29 ліпеня 2011 г.

## У нумары:



# Сто год таму, у Ракуцёўшчыне…

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Анатоля Мяльгуя**

**Штогод на базе філіяла Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына" праходзіць Рэспубліканскае свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета". Сёлета святкаванне супала з адметным юбілеем. Роўна сто гадоў таму сюды, да гасціннага гаспадара, дробнага шляхціца Вацлава Лычкоўскага, завітаў Максім, каб пераджыць тут самы, напэўна, светлы перыяд свайго жыцця; каб адчуць яднанне з радзімай, пра якую ён марыў, якой трызніў удалечыні ад яе; каб стварыць цыклы вершаў "Старая Беларусь", "Места", вершаванае апавяданне "У вёсцы" і, між іншым, славутую "Вераніку".**



*Чым болі сходзіць дзён, начэй,*
*Тым імя мілае вышэй…*

Паэт казаў тое пра каханне. Мы паўтараем, суадносячы гэтыя словы з самім Багдановічам, з яго яркай і імклівай, як палёт каметы, творчасцю. Мы заўжды ведалі, што ў нас ёсць Багдановіч, талент якога быў заўважаны яшчэ пры жыцці. Нездарма яго так любілі і так берaглі сябры. Нездарма шчымлівым жалем да гэтага юнацтва, на якім занадта рана паставіла сваю пячатку няўмольная смерць, напаўняліся сэрцы ўсіх, каму даводзілася сысціся на жыццёвым шляху з Максімам. Мы ведалі, што ў нас ёсць Багдановіч, і калі яго не стала. Гэта там, у Крыме, на магіле яго было напісана сціплае: "студэнт". А тут ён быў геніем. У часы царскай Расіі яго вершы пяшчотна захоўваліся і рупліва збіраліся, каб не згубіць ніводнага. У савецкія часы яго творы вывучаліся ў школах. Але сапраўдную веліч постаці паэта, каштоўнасць яго ўнёску ў літаратуру, культуру і свядомасць беларусаў пазнаем мы толькі цяпер. Можа, менавіта таму з вялікай удзячнасцю ў Ракуцёўшчыну на свята з кожным годам з'язджаецца ўсё больш і больш людзей.

А першы раз свята прайшло 21 мая 1983 года. Тады яшчэ і філіяла музейнага тут не было, толькі па прапанове Мінскага абласнога краязнаўчага музея на ўскрайку вёскі былі ўсталяваныя два камяні. Адзін з іх, падобны да вялікай свечкі, — сімвал вечнай памяці. Другі, падобны да малітоўніка, прыняў на сябе радкі з верша М. Багдановіча:

*Хоць зернейкі засохшымі былі,*
*Усё ж такі жыццёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясенняй збожжа на раллі.*

Геолагам і містыкам вядома такое вызначэнне: "месца сілы". Далёкія продкі нашы вылучалі такія месцы і ладзілі на іх капішчы. "Месцам сілы" і паэтычнага натхнення палічылі Ракуцёўшчыну аматары паэзіі Максіма, бо гэта — сімвалічнае месца вяртання Багдановіча на Бацькаўшчыну. Своеасаблівым сімвалам стала і ўзнікненне ў 1981 годзе каля помніка першага на Беларусі пісьменніцкага парку з 70 дрэў, які назвалі "Максімаў сад". Музейны ж філіял "Фальварак Ракуцёўшчына" стаў стварацца толькі ў 1991 годзе. Затое цяпер тут ёсць што паглядзець, паказаць гасцям Беларусі, нашым дзецям ды ўнукам. Тут ёсць прастора для ўспамінаў, мар, уяўленняў. І ў прастору гэтую як нельга больш арганічна ўпісваецца "Ракуцёўскае лета".

Традыцыйна ўскладаннем кветак ля Камянёў Памяці і аглядам экспазіцыі музейнага філіяла распачалося свята. У квяцістым дворыку паміж Домам гаспадара Ракуцёўшчыны, у якім так шчыра сто гадоў назад прымалі Багдановіча, і Домам арандатара, у якім пасялілі паэта і ў якім, паводле яго ўласных слоў, надзвычай добра пісалася, гасцей сустракалі спевамі ансамбль народнай песні "Маладзея" і народны хор "Крынічанька". Хлебам-соллю гасцей частавала дырэктар музея Таццяна Шэляговіч. Каравай быў вялікім і смачным — кожнаму дасталася па кавалачку.

Галоўную ж святочную пляцоўку ўсталявалі на лузе нездалёк ад славутай Максімавай крыніцы, той самай, пра якую паэт пісаў:

*У родным краю ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваёй нуды.*

Канцэрт, у якім арганічна перапляталіся тэатралізаваныя моманты, музычныя нумары і паэтычныя выступленні, вялі артыст, радыёжурналіст Алег Вінярскі і тэлежурналістка Вольга Водчыц. Навум Гальпяровіч і Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Гілеп і Віктар Шніп, Людміла Рублеўская і Людміла Хейдарава, — літаратары, якія выходзілі на сцэну, каб аддаць даніну памяці Максіму Багдановічу. Агульны настрой добра ўдалося выразіць Навуму Якаўлевічу: "У мяне спыталіся сёння, ці буду чытаць вершы, прысвечаныя Багдановічу? Я падумаў, што ў беларускага паэта кожны верш можна лічыць прысвечаным Багдановічу".

Тое ж самае можна было сказаць і пра музыку. Далёка не ўсе песні, што выконваліся ў гэты дзень у Ракуцёўшчыне, былі напісаны на словы М. Багдановіча. Але дух яго паэзіі нябачна прысутнічаў у кожным выступленні музыкаў і спевакоў. Гэта быў дух чыстай любові да роднай зямлі, яе традыцый і гісторыі. Саліст "Песняроў" Андрэй Усанаў скарыў публіку сваёй лірычнасцю, маладая спявачка Алена Шэўчык надала прысутным энергіі і радасці, фолк-медыа гурт "Неруш" прымусіў гледачоў літаральна пусціцца ў скокі.

Між іншым, трэба заўважыць, што госці Ракуцёўшчыны наогул паводзілі сябе вельмі непасрэдна. Яны падпявалі выканаўцам, прыхлопваючы, вучылі дзяцей запускаць у нябёсы купленых тут жа паветраных цмокаў, плялі вянкі з лугавых кветак. Летуценныя надоўга застывалі з набытымі ў супрацоўнікаў музея томікамі вершаў паэта, чыталі, перачытвалі, прыгадвалі… Вясёлыя — заахвочвалі да танцаў сяброў і шчыра пляскалі, калі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка выйшаў таньчыць кракавяк.

Свята скончылася, але людзі не спяшаліся разыходзіцца. Ім хацелася як мага даўжэй пабыць у атмасферы зачараванасці і еднасці з паэзіяй, песняй, родным словам. А моладзь засталася чакаць прыцемкаў, каб пабачыць у небе самую першую, самую зіхатлівую зорку. Гэта не будзе "Зорка Венера". Гэта будзе зорка Багдановіча, яго светлая душа, узнятая паэзіяй ажно да Нябёсаў.

***На здымку:** адчуць атмасферу свята можна было ўжо пад'язджаючы да Ракуцёўшчыны.*

## Пункцірам

У Пінскім кафедральным касцёле Успення Прасвятой Панны Марыі, знайшоў вечнае супакаенне старэйшы з дзейсных каталіцкіх епіскапаў свету, першы беларускі кардынал Казімір Свёнтэк. У кастрычніку гэтага года яму павінна было споўніцца 97 гадоў. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выразіў шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю кардынала Канферэнцыі каталіцкіх епіскапаў Беларусі святарам і вернікам Рымска-каталіцкай царквы. “Для многіх пакаленняў святароў і вернікаў кардынал Свёнтэк стаў сапраўдным сведкам веры, настаўнікам і дарадцай”, — адзначана ў спачуванні.

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт накіраваў Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму, архіепіскапу Тадэвушу Кандрусевічу спачувальны ліст у сувязі зканчынай кардынала Казіміра Свёнтэка. У лісце падкрэслівалася, што кардынал зрабіў незвычайна многа для развіцця добрасуседскіх стасункаў паміж Беларускай праваслаўнай і Рымска-каталіцкай цэрквамі ў Беларусі.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Валянціну Гаявую. “Створаны Вамі ансамбль “Харошкі” стаў сапраўднай візітоўкай нашай культуры, яго творчасць шырока вядомая ва ўсім свеце”, — гаворыцца ў віншаванні.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеямі народную артыстку СССР Людмілу Чурсіну, народных артыстаў Расіі Ірыну Разанаву і Алега Газманава. У віншавальных лістах выказваецца спадзяванні, што творчасць гэтых папулярных у Беларусі артыстаў і надалей будзе садзейнічаць развіццю культурнага супрацоўніцтва брацкіх народаў.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, заслужанага архітэктара БССР Леаніда Левіна з 75-годдзем. У віншаванні адзначана дзейнасць юбіляра па ўмацаванні міру і згоды на зямлі, а таксама тое, што будынкі і помнікі, створаныя па праектах Левіна, увaходзяць у залаты фонд беларускага дойлідства.

Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб'яўлена супрацоўнікам розных сфер. У тым ліку рэктару Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута Тамары Алпеевай за вялікі ўнёсак у падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў; за высокі прафесіяналізм і актыўны ўдзел у рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі “Беларусь — гэта мы!” — 8 работнікам эстрады, у тым ліку Ірыне Дарафеевай, Іне Афанасьевай, Вікторыі Алешка і Ганне Шаркуновай; за шматгадовую плённую працу ў сродках масавай інфармацыі — 9 журналістам, у тым ліку дырэктару “Сталічнага тэлебачання” Ігару Пазняку, палітычнаму аглядальніку гэтага ж тэлеканала Алесі Высоцкай, намесніку галоўнага рэдактара газеты “Рэспубліка” Маі Шэндрык, галоўнаму рэдактару газеты “Знамя юности” Яўгену Мялешку, рэдактару аддзела газеты “Советская Белоруссия” Дзмітрыю Крату.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў вітанне ўдзельнікам X Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў папулярнай музыкі “Новая хваля”. Кіраўнік дзяржавы выразіў упэўненасць, што юбілейная “Новая хваля” будзе месцам творчых адкрыццяў і цікавых сустрэч, дасць свой унёсак ва ўмацаванне культурных сувязяў паміж народамі.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## За падзеяй

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА, фота Юрыя Пакроўскага**

# «Спадчына» не дзеліцца — яна яднае

**Сярод намінантаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2011—2012 гады — аўтары калекцыі паўлавапасадскіх шаляў “Спадчына”. На мінулым тыдні ім былі ўручаныя дыпломы намінантаў.**

Над калекцыяй “Спадчына” працавалі мастакі Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі ў галіне літаратуры і мастацтва заслужаны мастак Расійскай Федэрацыі Ірына Дадонава, Алена Жукава, Таццяна Сухарэўская, Валерыя Фадзеева, мастачка Алена Фаварытава, заслужаны мастак Расійскай Федэрацыі Віктар Зубрыцкі, а таксама мастак-тэхнолаг, ганаровы працаўнік тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці Уладзімір Стулаў і мастак-стыліст, заслужаны мастак Расійскай Федэрацыі Аляксандр Хопкін.

Варта адзначыць, што створаныя паўлавапасадскімі майстрамі вырабы неаднаразова адзначаліся на міжнародных і ўсерасійскіх выставах — нават і ў пазамінулым стагоддзі. Сярод узнагарод — Вялікі дзяржаўны герб на Усерасійскай мастацка-прамысловай выстаўцы (1896 год, Ніжні Ноўгарад), “Гран-пры” Міжнароднай выстаўкі (Парыж), залаты медаль сусветнай выстаўкі (Брусэль), прызы міжнародных выставак у Дамаску і Лейпцыгу. У 1997, 1999, 2001, 2005, 2008 і 2010 гадах Паўлавапасадская хустачная мануфактура атрымлівала Расійскую нацыянальную прэмію ў намінацыі “Лепшая праца года ў галіне дызайна” “Вікторыя”. А апошнім часам — што ні год, то новыя дасягненні і новыя ўзнагароды.

І вось чарговая ўзнагарода. Дыплом намінанта на прэмію Саюзнай дзяржавы творчаму калектыву мануфактуры ўручае намеснік Дзяржаўнага сакратара-член Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза.

— Гэта ўнікальнае прадпрыемства, — адзначыў Іван Міхайлавіч. — Думаю, ніхто з вас не ўяўляў, як робяцца хусткі і шалі. Вы бачыце, што ўвесь працэс доўгі і складаны. Але самае галоўнае — яго пачатак, калі спецыяліст, мастак нешта задумвае, а пасля ўвасабляе гэтую ідэю ў малюнку. І шалі, якія насамрэч з'яўляюцца мастацкім творам, становяцца таварам. І тое, што ўжо больш як 215 гадоў яны карыстаюцца попытам, гаворыць пра многае. Таму, калі разглядалася пытанне пра выбар намінантаў, камісія з прадстаўнікоў міністэрстваў культуры Беларусі і Расіі прайсці міма такіх высокамастацкіх твораў, якімі з'яўляюцца паўлавапасадскія шалі, канечне, не магла. Такія вырабы — гэта творчасць, традыцыі, гэта наша высокакультурная спадчына. Тое, што мы павінны несці ў будучыню, прадстаўляць нашым дзецям, унукам, каб і яны захоўвалі. Таму што гэта карані, з якіх, як гаворыцца, пачынаецца наша будучая гісторыя.

> *Гісторыя Паўлавапасадскай хустачнай мануфактуры налічвае не адно дзесяцігоддзе. У далёкім 1795 годзе селянін Іван Лабзін адчыніў фабрыку па выпуску шаўковых хустак. У сярэдзіне XIX стагоддзя яго праўнук Якаў Лабзін разам з кампаньёнам Васілём Грязновым пачалі вытворчасць баваўняных хустак з набіўным малюнкам. У 1853 годзе яны заснавалі “Гандлёвы дом пад фірмай “Якаў Лабзін і Васіль Гразноў”, які быў вядомы і ў Расіі, і за яе межамі.*

Калекцыя “Спадчына”, намініраваная на прэмію, — гэта больш як 50 унікальных і надзвычай прыгожых шаляў, створаных у розныя гады рознымі мастакамі. Некаторыя ўзоры добра вядомыя прыгажуням і карыстаюцца папулярнасцю не адно дзесяцігоддзе, а асобныя яшчэ зусім маладыя, але і яны паспелі знайсці сваіх прыхільнікаў. Дарэчы, яшчэ больш прыхільнікаў старадаўняга элемента нацыянальнага строю з'явілася пасля прадстаўлення шаляў на сёлетнім “Славянскім базары” ў Віцебску.



На першы погляд, “Спадчына” можа падацца вельмі разнароднай: традыцыйныя шалі з узорам з кветак ці ў спалучэнні з арнаментам, тэматычныя шалі — напрыклад, “Жыціе Святога Праведніка Васілія Паўлавапасадскага”, “Юбілейны Пецярбург”. Але калі прыглядзецца, разумееш: гэта на самай справе калекцыя, а не асобныя творы. Бо ўсе яны аб'яднаныя любоўю да Радзімы, ва ўсіх — нашы агульныя карані і традыцыі. Возьмем, да прыкладу, “Малінаўку”, што нагадвае летні сад — мноства кветак і колераў. Мастачка Валерыя Фадзеева расказвае гісторыю шалі:

— Калі ствараеш малюнак для будучай шалі альбо хусткі, бывае, што назва з'яўляецца раней за эскіз. Аднак не заўсёды. Часам усё зроблена, падрыхтавана, а назвы для ўзору ўсё няма. Так было і з гэтай шаллю. Ужо і з колерам вызначылася… Аднойчы пачула вядомую песню ў выкананні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча “Малінаўка”. Вось яно — тое, што на маім малюнку! Словы песні запалі ў душу і далі назву шалі — “Малінаўка”.

Гісторыя “Малінаўкі” — не адзіны прыклад таго, як удала ў мастацкім творы спалучаецца творчая думка розных, часам незнаёмых людзей. А ў выніку ствараецца калекцыя, што яднае народы і зберагае нашы агульныя — славянскія — традыцыі.

***На здымку: намеснік Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза падчас экскурсіі.***

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

**Сяргей КЛІМКОВІЧ**

# Па слядах гісторыі

**Буйніцкае поле… Яно — уражвае. Няма тут нейкіх асаблівых інжынерных пабудоў, як на гісторыка-культурным комплексе “Лінія Сталіна”, ды і экспанатаў не так багата, але гэта зямля — сама па сабе ўжо гісторыя. Геройчная гісторыя нашага народа.**

Наш, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, візіт сюды быў прымеркаваны да 70-годдзя геройчнай бітвы за Магілёў. Дэлегацыя ўсклала на адметных месцах мемарыялу ярка-чырвоныя гваздзікі ў даніну памяці і смутку. Прысутныя з цікавасцю і хваляваннем агледзелі 27-мятровую капліцу — знак велічы воінскага духу. Сцены капліцы распісаныя фрэскамі, у нішах размешчаныя мармуровыя дошкі з імёнамі абаронцаў Магілёва, а ў цэнтры ўсталяваны маятнік Фука, знак вечнага жыцця, руху і памяці пра ўсіх, хто загінуў на гэтым полі ў 1941-м. Ад імя дэлегацыі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, сакратар праўлення СПБ Міхась Пазнякоў пакінуў запіс у кнізе ганаровых гасцей. Потым мы наведалі невялікі штучны вадаём “Возера Слёз”, што сімвалізуе слёзы ўсіх жанчын, якія страцілі сыноў і мужоў у гады вайны. Ад капліцы разыходзяцца чатыры алеі. Адна з іх носіць імя вядомага пісьменніка Канстанціна Сіманава, які абессмяроціў у сваім рамане “Жывыя і мёртвыя” подзвіг байцоў і камандзіраў, што абаранялі Магілёў, і попелам упакоіўся пасля смерці сваёй, развеяны над Буйніцкім полем.

У нашай пісьменніцкай дэлегацыі быў і галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё, паэт Навум Гальпяровіч, таму адразу з Буйніцкага поля ў эфір пайшоў цікавы рэпартаж. Прынамсі, склад нашай дэлегацыі быў вельмі прадстаўнічы. У яе ўвайшлі празаікі і паэты Мінскага гарадскога і Магілёўскага абласнога аддзяленняў Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, Уладзімір Дуктаў, Яўген Каршукоў, Мікалай Іваноў, Аляксандр Цераохаў, Леанід Лукша, Мікалай Хобатаў і Андрэй Душачкін, ён жа — вядомы акцёр, які здымаўся ў ролі ваеннага ўрача ў фільме “Дняпроўскі рубеж”.

Заканамерным працягам паездкі быў агляд музея гісторыі Магілёва, які размяшчаецца ў будынку аднаўленага помніка архітэктуры XVII стагоддзя — гарадской Ратушы. Гэты будынак знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Магілёва і з'яўляецца месцам правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў і афіцыйных прыёмаў гарадскога выканаўчага камітэта.

Пасля наш “культурны дэсант” высадзіўся на тэрыторыі базы захоўвання і ўтылізацыі бранятанкавай маёмасці, дзе адбылася сустрэча з ваеннаслужачымі. І загучалі вершы… Прыгожыя вершы — гэта тыя, пасля чытання якіх лёгка становіцца на душы. Вершы, якія перадаюць прыгажосць душы чалавека, яго любоў да роднага краю, да родных людзей.

Аўтары былі ўзнагароджаныя шчырымі апладысментамі і кветкамі.

У другой частцы вечара перад прысутнымі выступіла творчая група Акадэмічнага ансамбля песні і танца Ўзброеных Сіл. Маленькі канцэрт не пакінуў нікога абыякавым.

…Мы вярталіся ў Мінск з цёплым пачуццём. Трапяткое стаўленне вайскоўцаў да гісторыі сваёй часці і адданасць сваёй справе нягледзячы на цяжкасці, якія заўсёды ёсць у аддаленых гарнізонах, — гэта добры знак таго, што ў грамадстве ёсць здаровыя сілы, якія здольныя годна адказаць на ўсе негатыўныя выклікі сучаснасці.

Літабсягі

Лізавета ВІХУРА,
фота Дзмітрыя Пятровіча

# Падыхаць паветрам паэзіі



**Традыцыйнае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў "З адною думкаю аб шчасці Беларусі", якое штогод праводзіцца ў Купалавай Вязынцы, гэтым летам было прысвечана не толькі 126-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, але і 60-годдзю першага філіяла Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы — мемарыяльнага запаведніка "Вязынка". Старанна падрыхтаванае супрацоўнікамі музея, Саюзам пісьменнікаў Беларусі і аддзелам культуры Маладзечанскага райвыканкама, свята сабрала некалькі соцень гасцей: паэтаў, музыкантаў, мастакоў, народных умельцаў, проста аматараў паэзіі.**

Узяўшы слова дзеля адкрыцця мерапрыемства, паэт Навум Гальпяровіч заклікаў прысутных на беларускай, Купалавай "прадвечнай мове з зямлёй і сэрцам гаварыць". Дарэчы, сярод выступоўцаў у той дзень было шмат паэтаў: Міхаіл Пазнякоў і Уладзімір Скарынкін, Людміла Рублеўская і Лізавета Палеес, Андрэй Скарынкін і Віктар Шніп. Яны чыталі свае вершы, прысвечаныя Купалу ці проста навеяныя сутыкненнем з яго творчасцю, дзяліліся пачуццямі, распавядалі пра тое, як Купала ўвайшоў у іх жыццё, каб застацца ў ім назаўжды светлым арыенцірам, прыкладам, сімвалам радзімы.

Шмат гучала на свяце і музыкі. Выступалі барды Аляксей Жбанаў і Раман Яраш, Наталля Сівухіна і Дзмітрый Пятровіч. У Вязынку прыехалі таксама некалькі фальклорных калектываў. Адзін з іх — маладзечанскі народна-этнаграфічны гурт "Крынічанька" — асабліва спадабаўся прысутным. Старажытныя беларускія напевы, якія так любіў Купала, гучалі ў суправаджэнні то сумнай жалейкі, то загадкава-задуменнай дуды…

Парадавалі публіку і майстры з віцебскага народнага клуба аматараў фларыстыкі "Анюта". Выстаўка іх работ "І зелень, і песні, і кветкі..." арганічна ўпісалася ў рытм і настрой свята, бо прадстаўляла работы, створаныя на купалаўскія сюжэты.

Тыя, хто раней гэтага не ведаў, пачулі, што Вязынка ўключана ЮНЕСКА ў маршрут міжнароднага турызму. Музей Купалы ў Вязынцы па-свойму ўнікальны. Адноўлены на падмурку дома, у якім у далёкім 1882 годзе нарадзіўся паэт, будынак музея захоўвае ў сваіх фондах больш як тысячу рэчавых, пісьмовых і выяўленчых рэліквій.

Безумоўна, большасць гасцей бывалі тут неаднаразова. Але зноў і зноў прыходзяць да Купалы ў Вязынку. Навошта? Ды хаця б проста пастаяць у густым ценю магутных дрэў ля сажалкі; дакрануцца да векавога дуба, які памятае, безумоўна, і Купалу, і яго бацькоў; падыхаць паветрам паэзіі, паразмаўляць з Нябёсамі, яшчэ раз пачуць роднае слова. Бо ж сказана: пакуль жыве слова — жывы і народ.

*На здымку: свае вершы на свяце чытае Лізавета Палеес.*

Артлінія

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота аўтара

# Радасны і яркі свет

**У Мастацкай галерэі "БелАрт" у Мінску адкрылася выстаўка карцін Вольгі Ярэські, якая працуе ў традыцыйнай тэхніцы беларускай маляванкі.**



Такое пачуццё бывае, калі заходзіш у дзіцячы пакой, напоўнены святлом, закіданы вясёлымі цацкамі і каляровымі, разгорнутымі на самай прыгожай карцінцы, кніжкамі. Згадзіцеся, сапраўды ёсць штосьці дзіцячае, непасрэднае, да замілавання шчырае ў карцінах мастакоў-наівістаў. І таму калі такі мастак пачынае раптам выплёхваць на парсуну ці дошку свой сум, крыўду, непаразуменне, глядзець на такое становішча нясцерпна балюча, як на дзіця, што горка плача. На шчасце, большасць сучасных наівістаў ствараюць свае работы ў светлым душэўным стане. І Вольга Ярэська з іх ліку — зачараваных жыццём, сонечным святлом, птушынымі спевамі, магічнасцю народных абрадаў, эпічнасцю паданняў.

— Я бачу і люблю яркі свет, — прызналася мастачка на прэзентацыі, — і не прымаю чорнага колеру наогул. Мне нават падаецца, што яго зусім няма, чорнага колеру…

І сапраўды, на работах Вольгі Міхайлаўны чорны не прысутнічае. Нават начное купальскае неба таямніча зіхаціць водбліскам загадкавай бэзавай Папараці. Папараць-кветка, відаць, адзін з найлюбімейшых вобразаў мастачкі. Яна прыдумала кветку з вялікім здзіўлена расплюшчаным сінім вокам на высокай бахматай сцяблінe. Папараць — гэта своеасаблівы абярэг. Іншы абярэг — вялікі чырвоны, сонечны леў з такімі ж сіняй добрымі чалавечымі вачыма.

— Надта люблю гэтага льва, — кажа Вольга Міхайлаўна. — Я думаю, ён сапраўды абараняе мяне ад усялякага зла, прагане цемру.

Леў у Вольгі Ярэські нейкі "карункавы". З поўсцю яго пераблыталася чырвоная трава і маленькія ўсмешлівыя кветачкі. Нібыта карункамі затканыя і іншыя работы мастачкі. Вось дрэва, пад кожнай галінкай якога птушыныя маці кормяць птушанятаў. А вакол іх — кіпельна-белыя разныя кветкі. Вось вясковая нявеста сярод дываноў, куфраў і кветак. А вось вам і Нясвіж часоў Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста — "карункавыя" сярэднявечныя домікі ўздоўж ракі — як уздоўж сіняй стужкі.

— У мяне няма спецыяльнай мастацкай адукацыі, — тлумачыць Вольга Міхайлаўна, — я не стылізую свае работы пад "наіўнае мастацтва". Я малюю так, як умею і адчуваю. І вельмі хачу, каб пачуцці мае — любоў, радасць, замілаванне — перадаваліся людзям.

*На здымку: вясёлыя рамонкі, якія падарылі мастачцы, цудоўна гарманіравалі з яе радаснымі карцінамі.*

Повязі

# Пад зоркаю Нурэева

**Традыцыйны, ужо сямнаццаты па ліку, Міжнародны фестываль балетнага мастацтва імя Рудольфа Нурэева адбыўся ва Уфе. Менавіта тут, у сталіцы Башкартастана, пачынаўся творчы шлях геніяльнага танцоўшчыка XX стагоддзя. Памяць пра яго штогод збірае сусветных зорак на сцэне Башкірскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, і сёлета ўдзельнічаць у фестывалі, ганаровым прэзідэнтам якога з'яўляецца легендарны балетмайстар, народны артыст СССР Юрый Грыгаровіч, меў гонар саліст нашага Вялікага акадэмічнага тэатра, народны артыст Рэспублікі Беларусь Ігар Артамонаў.**

Лана ІВАНОВА

Прадстаўнік Беларусі трапіў у яскравае міжнароднае сузор'е майстроў харэаграфічнага мастацтва. Хто ж яшчэ быў сярод удзельнікаў XVII Міжнароднага фестывалю балетнага мастацтва імя Рудольфа Нурэева? Прыма Нацыянальнага тэатра Штутгарта Алісія Аматрыян, саліст Берлінскай дзяржаўнай оперы Міхаіл Канiскін, зоркі Марыінскага тэатра Санкт-Пецярбурга Кацярына Кандаурава, Яўген Іванчанка ды Настасся Калегава, салісты Вялікага тэатра Расіі Андрэй Мяркур'еў ды Андрэй Еўдакімаў, лепшыя артысты Пермскага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя П. Чайкоўскага, Татарскага акадэмічнага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя М. Джаліля, Башкірскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета...

У межах яскравай праграмы фестывалю, які, паводле традыцыі, адкрыўся прэм'ерай (сёлета гэта была пастаноўка балета класіка азербайджанскай музыкі К. Караева "Сем прыгажунь"), адбыўся паказ чатырох класічных балетаў, у тым ліку спектакля "Баядэрка" на музыку Л. Мінкуса, дзе партыю Салора выканаў Ігар Артамонаў. Партнёркай нашага суайчынніка выступіла Наталля Салагуб, колішняя салістка Марыінскага тэатра, а цяпер — балетнай сцэны Дрэздана (Германія).



Каб паглядзець на танец свайго куміра ў родных сценах, прыхільнікам Ігара Артамонава, вядучага майстра сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, давядзецца чакаць надыходу восені: новы сезон тэатра пачынаецца 1 верасня.

*На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў Наталля Салагуб (Нікія) ды народны артыст Рэспублікі Беларусь Ігар Артамонаў (Салор) у фестывальным спектаклі "Баядэрка".*

З-пад пяра

Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" аб'явіла адкрыты маладзёжны конкурс, удзельнікам якога прапануюць стварыць сцэнар мультфільма, прысвечанага нацыянальнай тэматыцы. Удзел у конкурсе могуць прыняць паўналетнія маладыя людзі ва ўзросце да 31 года. Аргкамітэт будзе прымаць заяўкі да 1 кастрычніка 2011 года. Конкурс скіраваны на тое, каб развіваць традыцыі нацыянальнага кінематографа і ўзмацніць яго ўплыў на сацыяльна-культурнае жыццё грамадства. Вынікі аргкамітэт плануе падвесці ў лістападзе.

**Алена ГАЛАЙ**

У пасёлку Чэнкі Гомельскага раёна на набярэжнай ракі Сож проста з пяску нарадзіўся цуд. Храм вышынёй тры з паловай метры да болю падобны да славутай Старабеліцкай царквы, адной са старэйшых у Гомельскай вобласці. Аўтары пясчанага твора мастацтва — студэнты-архітэктары Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту, засталіся задаволеныя. Падзея, якой быў прысвечаны плэнэр, — 85-годдзе Гомельскага раёна, — не засталася незаўважанай. Можа, гэтак і трэба падыходзіць да святкавання юбілеяў — ярка і творча?

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Бібліятэка № 5 Партызанскага раёна Мінска праславілася як бібліятэка, якая рэгулярна ладзіць сустрэчы сваіх чытачоў з творцамі. За 55 гадоў яе існавання тут пабывалі многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. У тым ліку — кампазітар Яўген Цікоцкі, спевакі Віктар Чарнабаеў, Аркадзь Саўчанка, Тамара Шымко, мастак Іван Ахрэмчык, пісьменнікі Георгій Марчук, Кастусь Тарасаў, Раіса Баравікова, Вольга Аколава, актрыса Марыя Захарэвіч. Бібліятэка плённа супрацоўнічае з Мінскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдакцыямі літаратурных часопісаў. Арганізацыі сустрэч шмат у чым спрыяе зацікаўлены творчы падыход да работы супрацоўнікаў бібліятэкі. Іх няшмат, але яны — энтузіясты.

**Алёна КАЛЕЙНІК**

Творчы вечар салісткі Народнага хору ветэранаў вайны і працы "Радасць" Валянціны Баянавай-Шульгоўскай прайшоў у Навагрудку. Сабраліся прыхільнікі творчасці самадзейнай спявачкі, настаўнікі школы, увесь харавы калектыў. Спявачка расказала пра сябе, пра тое, як яна, дзяўчына з Цюмені, воляй лёсу апынулася ў Навагрудку, дзе жыве ўжо 20 гадоў. А пасля ў выкананні Валянціны Баянавай-Шульгоўскай гучалі народныя песні і рамансы, класіка савецкай эстрады і песні часоў Вялікай Айчыннай.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

Пісьменнікі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуюць з выпадку заўчаснай смерці пісьменніка і сябра, старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Рыгора САКАЛОЎСКАГА. Выказваем глыбокае і шчырае спачуванне родным і блізкім.

Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з выпадку смерці выдатнага чалавека, чулага сябра, таленавітага паэта, грамадскага дзеяча, сапраўднага патрыёта сваёй Радзімы, кіраўніка Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгора Васільевіча САКАЛОЎСКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

**Адразу хочацца прызнацца: я люблю сваё пакаленне пісьменнікаў, сярод якога ёсць імёны мне асабліва дарагія, гэта тыя творцы, з кім давялося поплеч, у адным часе, працаваць і поўніць сваім унёскам гэты самы вялікі цуд свету, што завецца літаратурай… У вядомага пісьменніка, драматурга Аляксея Дударава гэты ўнёсак вельмі важкі, і мне захацелася нейкім чынам пранікнуць у самыя што ні ёсць вытокі яго творчасці.**

# Творчасць — заўжды адзінота




Раіса БАРАВІКОВА,
фота Кастуся Дробава

**— Літаратура — вялікі цуд. Не будзь яе, як бы мы дазналіся пра ўсе астатнія цуды свету?! Дык, Аляксей Ануфрыевіч, давай здзейснім нашу літаратурную вандроўку, але пачнем не з літаратуры, а з цуду творчасці — як выспявае задума, што перашкаджае ці садзейнічае (гэта ўжо псіхалогія), ну і вынік… Зусім нядаўна ў выдавецтве “Літаратура і Мастацтва” выйшла цудоўная кніга тваіх кінааповесцей. Я прачытала “Радавыя”, добра ведаючы тваю аднайменную п'есу. Вельмі балючыя старонкі з эмацыянальнага боку, калі ж чыста як пра літаратуру — магутна! У Васіля Быкава — свая старонка пра мінулую вайну, як і ў Віктара Някрасава ці ў Георгія Бакланава, але яны былі там… штодня блізка да шалёнай кулі і да многага іншага… Ты — з пасляваеннага пакалення, дык пасля “Вечара” чаму “Радавыя”, “Дняпроўскі рубеж”, “Брэсцкая крэпасць”?**

— Але давай спачатку пра літаратуру як пра цуд. Сапраўды, калі згадваць класіку, таго ж самага Чэхава, міжволі задумваешся, адкуль усё гэта. З Космасу? Адтуль, куды і ідзе інфармацыя пра ўсё быццё чалавечае ад нас жа саміх? Мы ж, у прынцыпе, нічога пра сябе яшчэ не ведаем: хто мы? Што мы такое? Адкуль мы? Які я мы?

Але дакладна вядома, што са старажытных часоў літаратура праз найбольш дасведчаных людзей, якімі і з'яўляліся людзі мастацтва, інфармавала пра свет і ўвогуле пра ўсё жыццё чалавечае на розных этапах яго развіцця. Гэта была вельмі адказная роля, якая цягнулася тысячагоддзі, і стаўленне да пісьменніка было, як да грамадскага святара. За пісьменнікамі ішлі, ім верылі і іх слухаліся. І яны ж, пісьменнікі, часта адпраўляліся на вогнішча. Вось што нярэдка вынікала з цуду, чым гэты цуд абарочваўся…

Цяпер давай пра тое, што я — з пасляваеннага пакалення. Мне часта даводзіцца адказваць на падобнае пытанне: як гэта вы не ваявалі, а пішаце пра вайну? Дык вось, не робячы сабе кампліментаў, скажу, што маю здольнасць паставіць сябе сярод падзей, якіх не бачыў, але пра якія ведаю. Гэта, вядома ж, і ад расповедаў пра ваенное ліхалецце, і, падкрэсліваю, праз лепшую літаратуру пра вайну, якую стварылі пісьменнікі, якіх ты згадвала вышэй. Нельга адмаўляць і генетычную памяць. Яна проста існуе.

**— Мяне ўсё больш і больш апаноўваюць пачуцці, якім і назвы няма. Адчуванне нейкага пісьменніцкага Бермудскага трохкутніка. Быццам пісьменнікі правалiліся ў нейкі іншы час... Тая ж самая “Касмічная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў” для дзяцей, якая выйшла напачатку гэтага года ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Кніга цікавая, выдатна афармленая. Адзначаўся юбілейны Дзень касманаўтыкі, хто, дзе згадаў пра яе? А калісьці, я ўпэўнена, яна стане сапраўдным адкрыццём... Дык што ты думаеш наконт пісьменніцкага Бермудскага трохкутніка? Гэта парадокс ці нешта іншае?**

— Час змяніўся, і змяніліся каштоўнасці. Тое, пра што я казаў раней, людзі ўжо могуць атрымліваць не праз пісьменніка, а праз камп'ютар. Добра гэта ці дрэнна, можна колькі заўгодна разважаць, але гэта так і па-іншаму не будзе. Пісьменнік ужо не месія, не грамадскі святар, як гэта было на працягу многіх і многіх стагоддзяў… Але гэта не азначае, што пры такім жыццёвым раскладзе трэба махнуць рукой і здацца, прыняць як належнае ў наступе найноўшага тэхналагічнага прагрэсу. Ніякая тэхніка не зробіць тое, што зрабіў Чэхаў альбо Моцарт. Сапраўдны твор заўжды асветлены духам, а, скажам, апавяданне, напісанае праз камп'ютарную праграму, гэтага духу не мае. Таму ніякі камп'ютар не стане вышэй за чалавека, яго душу, яго розум, зрэшты, талент. Адсюль і чытач… Людзі, якія думаюць пра сваю душу, ашчаджаюць яе, яны заўжды будуць чытаць, цікавіцца лепшымі кнігамі, створанымі таленавітымі аўтарамі. Ва ўсе часы талентамі звычайна станавіліся, а лепш сказаць, нараджаліся, ды, на вялікі жаль, здараецца, што імі і прызначаюцца. Але ж толькі праз сапраўдную кнігу, праз энергію таленту, што сыходзіць ад яе, чытачы ўмацоўваюць свой уласны дух.

**— Люблю паварушыць памяць… Нават помню самую першую нашу з табой сустрэчу ў Доме літаратара ў Петруся Макаля, які недзе ў сярэдзіне семідзясятых працаваў у Саюзе пісьменнікаў літаратурным кансультантам. Пятрусь Міхайлавіч, помню, цябе прадставіў як маладога празаіка, у цябе выйшла ці рыхтавалася да выхаду кніжка апавяданняў. Пятрусь Макаль — выдатны паэт, мне заўжды любасна называць яго адным са сваіх літаратурных настаўнікаў. Цікава, а ў цябе быў гэты перыяд: вучань і настаўнік? Ці ты абмінуў яго — гэтак усё імкліва атрымалася: п'еса за п'есай, спектакль за спектаклем?**

— Я ўсё жыццё вучыўся і вучуся, і цяпер вучуся. Увогуле, я пачаў пісаць, калі пачытаў творы Шукшына, таму што нейкім чынам пабачыў у іх сваіх суседзяў у родных Клянах, дзе я нарадзіўся. Было ўражанне, што Васіль Макаравіч жыў у маіх Клянах.

Ну, а з нашых пісьменнікаў заўжды для мяне былі настаўнікамі і Васіль Быкаў, і Янка Брыль, і Андрэй Макаёнак… Усе пісьменнікі і паэты, якія пішуць душой, а не паркерам. І калі гаварыць пра дарагое з часоў маладосці, дык тым, дарагім, і застаецца сама маладосць, як, дарэчы, і часопіс пад такой назвай. У “Маладосці” я ўпершыню ў жыцці надрукаваўся — былі змешчаны два апавяданні — і большай радасці для мяне не было. Нават калі дзяржаўныя прэміі атрымліваў, так не радаваўся. З цеплынёй заўжды ўспамінаю Уладзіміра Дамашэвіча, які шмат гадоў загадваў аддзелам прозы ў часопісе “Маладосць”. Яго характар, манера размаўляць, нават яго слоўцы, якія перайшлі на Дзерваеда ў маіх “Радавых”, якога называлі Дзедам, як і Дамашэвіча ў нашай маладосці, які, зразумела ж, па ўзросце ніякім дзедам тады і не быў.

**— Нехта нядаўна сказаў, што цяпер пісьменнікі — як птушкі: усе паасобку, кожны ў сваім гняздзе. У прынцыпе, пісьменніцкая праца вымагае глыбокага адзінотства, і ўсё ж… На пачатку красавіка была такая цудоўная вечарына да 65-годдзя Валі Коўтун, а ў самым канцы красавіка яе не стала, і кажуць, што ў ноч перад пахаваннем з ёю ў пустой кватэры заставаўся толькі сын Міша… У “ЛіМе” я пачынаю весці рубрыку “Школа добрых пачуццяў”, якім і заклікана вучыць літаратура. Але я пра іншае…**

**На нейкім расійскім тэлеканале была даволі займальная перадача пра зайздрасць у асяродку зорак расійскага шоу-бізнесу. Чаго толькі там не расказвалі! Да гэтага можна скептычна ставіцца, ды разам з тым… Не абмінае гэтае пачуццё і творцаў. Аляксей, ты не проста таленавіты, славуты, знакаміты, ты заўжды навідавоку, поспех ад цябе ніколі не адварочваўся. А ці адчуваў ты ў адносінах да сябе чыюсьці зайздрасць і як ты на гэта ўсё рэагуеш?**

— Творчасць — гэта заўжды адзінота, у якім бы жанры пісьменнік ні працаваў. І чым больш яркі творца, тым больш ён адзінокі, і нічога дзіўнага тут няма. Вазьму на сябе смеласць сказаць, што Пушкін лічыўся “сваім хлопцам”, заўжды наўкол шмат сяброў… І ўсё гэта лухта! Не было ў яго сяброў, геніі пакутуюць усё сваё жыццё ў самоце. Так і Талстой, і Лермантаў, і наш Купала… Ад гэтага творца ніколі і не прыме натоўп, а натоўп ніколі не прыме сапраўднага творцу.

А ў творчым асяродку так, яму нехта можа і пазайздросціць… Толькі ж зайздрасць, калі яна некага напаткае, — гэта хвароба, іржа душы. Звычайна ж у нармальным творчым жыцці як бывае? Калі я захапляюся нейкім творам, калі хтосьці зрабіў лепш, чым гэта раблю я, дык па-добраму хочацца зрабіць яшчэ лепш, магчыма, выкарыстоўваючы яго вопыт.

Зусім нядаўна мне адзін чалавек сказаў, што калі ты адчуваеш, што на цябе пішуць ананімкі ці нейкія там даносы, адным словам, табе жадаюць зла, дык схадзі ў царкву і закажы малебен ва здраўе таго, хто гэта ўсё робіць, толькі ад чыстага сэрца. Ва здраўе душы чалавека, якая хворая, захварэла на зло. Можа, Гасподзь і пашле паратунак хоць бы ў выглядзе пакаяння.

**— У гісторыі літаратуры застаюцца не толькі творцы, а і постаці, услаўленыя ў неўміручых творах. Найчасцей жанчыны: тыя ж Лаура, Беатрычэ… Вось скажы, для цябе твая Валянціна не проста ж жонка, маці тваіх дзяцей. Вы разам пражылі вялікае жыццё, яна, напэўна, першая, хто чытае твой кожны новы твор. З ёю ты раішся, дзелішся ўсімі радасцямі, трывогамі і сумненнямі. Цікава, ці сказаў ты ёй усе самыя галоўныя словы, якія хацелася б сказаць. І ўвогуле, кім павінен быць для творцы той, хто ўвесь час побач, у самым што ні ёсць будзённым жыцці?**

— Творчасць — рэч інтымная, ва ўсялякім выпадку для мяне. І як гэта прыкра ні гучыць, але вобразы, якія я ствараю, іншым разам мне даражэйшыя і бліжэйшыя за рэальна блізкіх людзей. Гэта не ёсць добра, гэта кепска. Але мой Буслай з яго бацькамі, Васіль, Ганна і Гастрыт з “Вечара”, Дугін, Дзерваед, Адуванчык, Барбара Радзівіл, дзяўчаткі з “Не пакідай мяне” — гэта, па сутнасці, мая сям'я. Я з імі і жыву, і плачу, і смяюся… Думаю, маім жонцы, дзецям і ўнукам часам якраз гэтага і не хапае.

**— Здаўна існуе пагалоска, што творцы — людзі не ад гэтага свету, здатныя на любыя фантазіі і ўчынкі. Скажы, калі б цябе папрасілі нешта напісаць пра сябе, свае творы, зрэшты, увогуле пра нашу літаратуру, пра ўчарашні і сённяшні яе дзень, а потым напісанае ўкласці ў пляшку і куды-небудзь закапаць для далёкіх-далёкіх нашчадкаў, каб яны пра ўсё пачулі, што называецца, з першых вуснаў, што ты напісаў бы?**

— Адкажу коратка. Я нічога не стаў бы пісаць, а проста працытаваў бы: “Бог — ёсць любоў!” І не трэба пра нешта там распісваць, у гэтым выразе ёсць усё!

## У лабірынце часоў

Мікіта ХУКА



Чарговы, сёмы, нумар часопіса “Беларуская думка” адкрывае артыкул Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Рыгора Васілевіча, прысвечаны забеспячэнню большай свабоды прадпрымальніцкай дзейнасці, права кіраўнікоў прадпрыемстваў на дзелавую рызыку. Як працяг тэмы рэалізацыі Дырэктывы Прэзідэнта Беларусі № 4 — гутарка з лідарамі прадпрымальніцкай супольнасці Уладзімірам Карагіным і Рыгорам Бадзеем пра тое, што хвалюе беларускіх бізнесменаў, як улады спрабуюць дапамагчы ў сітуацыі, якая склалася на сённяшні дзень.

Як заўжды, у часопісе змешчаны блок артыкулаў па грамадска-палітычнай тэматыцы. Пра эвалюцыю сучаснай сям'і, асаблівасці дзяржаўнай дэмаграфічнай палітыкі расказвае журналіст Сняжана Міхайлоўская ў матэрыяле “Перавернутыя піраміды”.

Апошнім часам у шэрагу СМІ шмат абмяркоўваюць маральны стан грамадства. Эксперты Уладзімір Грозаў і Юрый Красноў прапануюць канкрэтныя крокі па адраджэнні духоўнай самасвядомасці, у першую чаргу маладога пакалення.

Герман Маскаленка, які наведаў Ушацкі раён Віцебскай вобласці, у матэрыяле “Непахіснасць вечнага” адлюстроўвае асноўныя напрамкі работы мясцовай выканаўчай улады, поспехі працоўных калектываў, культурныя і гістарычныя асаблівасці аднаго з найпрыгажэйшых куточкаў нашай Радзімы.

12 ліпеня споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння аднаго з вядомых даследчыкаў нашай гісторыі Лаўрэнція Абэцэдарскага. Кім ён быў: першаадкрывальнікам ці “прадстаўніком вульгарна-сацыялагічнага кірунку ў гістарычнай навуцы Беларусі савецкага перыяду”, як канстатуе “Энцыклапедыя гісторыі Беларусі” выдання 1993 года? З чым не згаджаліся апаненты Лаўрэнція Сямёнавіча па пытаннях руска-беларускіх узаемадносін XVI—XVII стагоддзяў, нацыянальна-вызваленчай барацьбы мас у XVII ст.? Пра перыпетыі жыцця патрыярха айчыннай навукі, яго навуковыя пошукі разважае доктар гістарычных навук, прафесар Мікалай Сташкевіч.

XVII Міжнародны кінафестываль “Лістапад”, які прайшоў у мінулым годзе, па сваёй сутнасці, унутраным напаўненні і змесце настолькі адрозніваўся ад папярэдніх кінафорумаў, што гэта стала нагодай для мноства неадназначных ацэнак як прафесіяналаў, так і шараговых гледачоў. Пра цярністы шлях развіцця беларускага кінематографа праз прызму якасна новага “Лістапада” расказвае заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, доктар філасофскіх навук, прафесар Вадзім Салееў.

У часопісе таксама змешчаны артыкул акадэміка НАН Беларусі Анатоля Свірыдзенка “Дзе знайсці інавацыі?”, аналітычны матэрыял доктара філасофскіх навук Уладзіміра Калмыкава “Народ і асоба — велічыні пераменныя”, артыкул кандыдата гістарычных навук Вадзіма Гігіна “Палітычныя рэсурсы” і шэраг іншых матэрыялаў.

*Асоба ў гісторыі*

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

# Век кардынала Свёнтака

**Памёр адзін з найстарэйшых каталіцкіх кардыналаў свету Казімір Свёнтак — наш вялікі суайчыннік. Пакутнік і праведнік. Строгі настаўнік і мудры дарадца. Сапраўдны рупліўца і патрыёт. Чалавек незвычайнага, чулага сэрца. Па яго жыцці можна вывучаць гісторыю Беларусі апошняга стагоддзя: рэпрэсіі, пагрозы расстрэлу з-за рэлігіі, турмы і лагеры, узнаўленне разбураных і разрабаваных касцёлаў.**



Казімір Свёнтак нарадзіўся 21 кастрычніка 1914 года ў горадзе Валга, што ў Эстоніі, ахрышчаны ў Рызе. Калі яму было тры гады, яго сям'ю выслалі ў Сібір. Адтуль ён вярнуўся ў Беларусь. Пасля заканчэння Пінскай Вышэйшай духоўнай семінарыі працаваў у Пружанах. Там яго арыштавалі "за шпіянаж" і асудзілі. Два месяцы знаходзіўся ў камеры смертнікаў. Толькі вайна перашкодзіла выканаць прысуд. Праўда, у 1943 годзе яго арыштавала гестапа. А ў 1944-м за ім зноў прыйшлі "свае". Маладога святара — "ворага народа" на дзесяць гадоў адправілі ў Сібір, затым па этапу ў Інту, што ля Варкуты. Голад, холад, здзекі, рабская праца на лесапавалах і ў шахтах. Многія таварышы па няшчасці не вытрымлівалі такіх жудасных умоў. Казімір выстаяў, перамог.

Што давала яму сілы? Пазней у часопісе "Наша вера" пастыр адказаў на гэтае пытанне: "Мяне ўтрымлівала і пры жыцці, і пры Богу мая моцная, непахісная вера. Часам здараліся сітуацыі (з людскога пункту погляду) сапраўды безнадзейныя. Хоць бы і тыя два месяцы, праведзеныя ў камеры смерці брэсцкай турмы, адтуль кожную ноч а 12-ай гадзіне людзей выводзілі на расстрэл. Я чакаў, калі адчыняцца дзверы ў маю камеру… Але ў душы быў перакананы, што выжыву. Зразумела, калі на тое будзе Божая воля. І нават на допытах, з прыстаўленым да скроні пісталетам, я не губляў надзеі… Не губляў надзеі і ў перасыльным лагеры ў Оршы, дзе сярод вязняў панавала крывавая дызентэрыя… Ляжачы на бетоннай падлозе, паўпрытомны, я не пераставаў маліцца. Звяртаўся ў думках да Маці Божай і да Яе Сына і верыў, што Яны не пакінуць мяне, не дадуць прапасці…"

Пасля смерці Сталіна Казімір Свёнтак зноў апынуўся ў горадзе над Пінай, там, дзе ўпершыню пачуў і прыняў Божы покліч, дзе спачываў ягоны апякун і заступнік біскуп Лазінскі. У катэдры не было святара. Яна як бы чакала Казіміра Свёнтака. На тое была Божая воля. Але каб яе выканаць, трэба было зноў прайсці праз цяжкія выпрабаванні і цярпенні. Не адну ноч ксёндз правёў у будынку КДБ: ваяўнічым атэістам вельмі не хацелася, каб Пінская катэдра займела свайго пробашча. Яго ўгаворвалі, прапаноўвалі іншыя пасады, пагражалі саслаць назад, у Варкуту. Нічога не дзейнічала. Пяць месяцаў цягнулася процістаянне. Нарэшце, у канцы 1954 года, ксёндз атрымаў дазвол на рэгістрацыю і пачаў працу.

Колькі сіл забрала рэстаўрацыя катэдры, колькі ён нацярпеўся, аднаўляючы дах святыні, перабіраючы сваімі рукамі кожную чарапічыну… Ён рабіў усё магчымае, каб адрадзіць жывы касцёл — народ Божы, жывыя камяні якога — вернікі. І такі час нарэшце настаў. Канец 80-х і пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя прынеслі рэлігіі доўгачаканую свабоду.

Пастырская актыўнасць ксяндза прэлата Казіміра Свёнтака, яго адданасць справе Касцёла, незвычайныя арганізатарскія здольнасці, аўтарытэт і пашана сярод святароў не засталіся незаўважанымі Апостальскаю Сталіцаю: Святы Айцец Ян Павел II у 1991 годзе прызначыў яго першым Мітрапалітам новаствoранай Мінска-Магілёўскай мітраполіі і Апостальскім адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.

У 77 гадоў мітрапаліт распачаў сваё біскупскае служэнне. Ён візітуе парафіі, устанаўлівае дэканаты, бароніць правы вернікаў, актыўна ўдзельнічае ў пасяджэннях рады Канферэнцыі біскупаў Еўропы і іншых міжнародных касцёльных арганізацыях.

У 1994 годзе Папа рымскі надаў Казіміру Свёнтаку тытул кардынала, а ў 1999-м уручыў яму спецыяльную ўзнагароду "Fidei testis" (Сведка веры), прысуджаную Інстытутам Паўла VI.

Пакліканне да святарства — адно з найпрыгажэйшых і таямнічых. Чым яно з'явілася асабіста для Казіміра Свёнтака? Два гады назад, падчас агульнабеларускай сустрэчы святароў, кардынал растлумачыў: "Ужо 70 гадоў я нясу святарскае служэнне. Гэты час быў вельмі глыбокім перажываннем майго паклікання. Жыццёвы і святарскі досвед сфарміравалі ўва мне адносіны да Бога, да людзей і да сябе. Беларусь ужо багатая на родных святароў, якія нарадзіліся на гэтай зямлі, якія скончылі семінарыі ў Гродне, Пінску і ў іншых месцах. Яны — наша сіла. Пройдзе некаторы час і, дзякуючы Богу, у Беларусі будзе дастаткова святароў мясцовага паходжання… Я ведаю, што ніводны волас не ўпадзе з маёй галавы без Божага Провіду".

У гэтыя жалобныя дні не толькі каталікі, але і прадстаўнікі іншых канфесій, кіраўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый успамінаюць заслугі першага кардынала Беларусі перад Бацькаўшчынай. Іх цяжка пералічыць. Дзякуючы намаганням Казіміра Свёнтака, Касцёл узняўся з руінаў. Адраджэнне Мінскай архікатэдры. Стварэнне Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў — вышэйшага прадстаўнічага органа лакальнага Касцёла. Развіццё каталіцкага друку. Адкрыццё духоўных семінарый. Каранаванне трох цудадзейных абразоў маці Божай — у Брэсце, Лагішыне і Будславе. Актыўнае развіццё добрасуседскіх стасункаў паміж Рымска-каталіцкай і Беларускай праваслаўнай царквамі ў рэспубліцы. І, бадай, ці не самае галоўнае — у каталіцкіх храмах загучала беларуская мова, спачатку ціха, асцярожна ў пінскай катэдры, а пасля і ў іншых храмах. Ксёндз-кардынал разумеў, што родная мова, як цэмент, звязвае людзей, дае ім найлепшы спосаб зразумець адзін аднаго, адною думкаю жыць. Яна — векавая праца многіх пакаленняў, невычэрпная крыніца, бязмежная народная скарбніца, таму яе нельга не паважаць.

Яго Эміненцыя, першы кардынал Беларусі Казімір Свёнтак пахаваны ў крыпце катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай панны Марыі. У старажытным Пінску, дзе пачаўся і скончыўся яго святарскі шлях. Шлях цяжкі, але шчыры, адданы Богу і людзям.

*Зваротная сувязь*

# Кароткае шчасце і памяць на ўсё жыццё

Расціслаў БЕНЗЯРУК

Ад той хвіліны, як трапілі ў рукі №№ 6—9 "ЛіМа", я "жыву" Караткевічам. У іх было змешчана даследаванне, прысвечанае гісторыі кахання Уладзіміра Караткевіча і Ніны Молевай, якая на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве чытала лекцыі па гісторыі мастацтваў.

Сваё даследаванне "Рэканструкцыя адносін" Дзяніс Марціновіч правёў, абапіраючыся на творы Караткевіча, і ў першую чаргу на раман "Нельга забыць", які ў часопісным варыянце меў назву "Леаніды не вернуцца да Зямлі". А таксама паводле перапіскі паэта з Н. Молевай, Я. Брылём і Ю. Гальперыным. Марціновіч лічыць раман аўтабіяграфічным і сцвярджае, што аўтар наўмысна ў самым пачатку напісаў: "Усе імёны і падзеі ў гэтым рамане — выдуманыя. Усякае падабенства з рэальна існуючымі людзьмі з'яўляецца выпадковым". Бо, на думку даследчыка, "такія фразы звычайна пішуцца тады, калі падабенства больш чым відавочнае".

Галоўныя героі "Леанідаў…" — Андрэй Грынкевіч ды Ірына Горава, у якіх угадваюцца сам аўтар і Ніна Молева. Аўтабіяграфічнасць вобразаў падкрэсліваў і Адам Мальдзіс у кнізе "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча". Ён згадвае маскоўскую выкладчыцу М., імя якой не раскрывае, бо гэтак хацеў сам Караткевіч.

Тое даследаванне, што правёў Д. Марціновіч, змусіла мяне перачытаць раман У. Караткевіча "Нельга забыць". Першы раз чытаў "Леанідаў…" у студэнцкія гады, калі ў педінстытуце рыхтавалася абмеркаванне рамана. На чытацкую канферэнцыю меўся прыехаць і сам аўтар, але нешта затрымала Уладзіміра Сямёнавіча ў сталіцы.

Прайшлі гады. 20 снежня 1980 года Уладзімір Караткевіч браў удзел у чытацкай канферэнцыі ў Брэсцкім педінстытуце. Калі ў канцы вечарыны многія падышлі да стала, каб узяць аўтограф, я папрасіў, каб Уладзімір Сямёнавіч распісаўся на зборніку "Вячэрнія ветразі". Караткевіч, узяўшы ў рукі кніжку, нечакана падняў на мяне вочы і прагаварыў:

— О, гэта мая любімая кніга! І няспешна вывеў: "Мілы Расціслаў Бензярук, высока трымайце ветразі".

І тады, і многія гады пасля я меркаваў, што Караткевіч, гаворачы гэтыя словы, падкрэсліваў, наколькі дарагі яму любы твор. Трэба было мне дажыць да 2011 года, пазнаёміцца ў "ЛіМе" з даследаваннем "Рэканструкцыя адносін", перачытаць раман "Нельга забыць" і зборнік "Вячэрнія ветразі", аповесць-эсэ А. Мальдзіса, каб нарэшце ўсвядоміць, якую ролю ў Караткевічавым жыцці і творчасці сыграла Н. Молева.

У "Вячэрніх ветразях" ёй прысвечаны чатыры вершы, у тым ліку і "Дзіва на Нерлі", які з'явіўся пасля паездкі студэнтаў з Н. Молевай ва Уладзіміраўскую вобласць, дзе ў У. Караткевіча адбылося знаёмства з дзіўнай царквой Пакрава. Светлыя пачуцці да Ніны Міхайлаўны пісьменнік захаваў да свайго апошняга ўздыху. Сапраўды, кароткім было шчасце, а памяць засталася на ўсё жыццё…

# Месца прапіскі таленту

**Іван РОЎДА,
дэкан філалагічнага факультэта БДУ, доктар філалагічных навук, прафесар**

**Хутка Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт адзначыць сваё 90-годдзе. Гэта свята для ўсіх факультэтаў БДУ. Тым не менш для некаторых з іх дадзены юбілей набывае асаблівую важкасць, значнасць, калі гісторыя факультэта вядзе свой адлік з першых гадоў існавання ўніверсітэта. Да такіх факультэтаў адносіцца і філалагічны.**

У 1921 годзе (першым годзе існавання БДУ) у складзе ўніверсітэта быў факультэт грамадскіх навук з этнолага-лінгвістычным аддзяленнем, дзе і пачалі сваё навучанне 86 студэнтаў. У 1922/23 навучальным годзе факультэт грамадскіх навук быў рэарганізаваны: на базе этнолага-лінгвістычнага і педагагічнага аддзяленняў створаны педагагічны факультэт, дзе паўстала літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне з беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай секцыямі.

У 1923 годзе на педагагічным факультэце пачаў працаваць Якуб Колас, які стаў першым старшынёй дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па літаратуразнаўчых і лінгвістычных дысцыплінах. У Музеі гісторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта знаходзіцца заява Якуба Коласа з просьбай аб прызначэнні яго асістэнтам кафедры беларускай мовы. У гэтым жа годзе беларускую мову і літаратуру выкладаў пісьменнік, літаратуразнаўца, лексікограф М. Гарэцкі. У 1923—1927 гг. курс беларусазнаўства і беларускай дыялекталогіі чытаў першы старшыня Інбелкульта С. Некрашэвіч. Беларускую мову выкладаў аўтар шматлікіх падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў Я. Лёсік.

У першае дзесяцігоддзе існавання ўніверсітэта яго закончылі многія ў будучым вядомыя пісьменнікі: П. Броўка, П. Глебка, П. Галавач, А. Звонак, Т. Кляшторны, Кандрат Крапіва, Ф. Куляшоў, М. Лужанін, Я. Скрыган, М. Хведаровіч і інш.

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны ўніверсітэт часова перапыніў сваю дзейнасць, але ўжо ў 1943 годзе было прынята рашэнне аб аднаўленні працы ўніверсітэта на станцыі Сходня Хімкінскага раёна Маскоўскай вобласці. Дэканам быў прызначаны М. Ларчанка. У гэтым жа годзе студэнтам філфака стаў І. Мележ, які сумяшчаў вучобу з працай выкладчыка ваеннай справы. У 1944 годзе разам з іншымі студэнтамі ён прымаў актыўны ўдзел у пераездзе БДУ ў Мінск.

Нягледзячы на цяжкасці канца 1940-х гадоў, выкладчыкі і студэнты знаходзілі час займацца не толькі вучобай, але і навукай: на факультэце распрацоўвалася 11 навуковых тэм. Выходзіла насценная газета "Слова філолага", якая праіснавала да канца 1980-х гадоў і была пляцоўкай для развіцця творчага таленту многіх пісьменнікаў. Напрыклад, у 1950-я гады на філфаку вучыліся М. Мушынскі, П. Ткачоў, М. Стральцоў, М. Арочка, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, М. Матукоўскі, В. Адамчык, І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў, А. Клышка, В. Чамярыцкі, К. Цвірка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Ю. Свірка і інш.

Развівала творчы талент студэнтаў і створанае ў 1964 годзе літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", на пасяджэнні якога прыходзілі не толькі філфакаўцы, але і студэнты іншых факультэтаў БДУ і іншых ВНУ. Добрай традыцыяй філфака стаў злёт студэнтаў і выкладчыкаў у Вязынцы. Пачаткам гэтага цудоўнага мерапрыемства сталі 1970-я гады. Пасля перапынку ў 1990-я і пачатку новага стагоддзя гэтая традыцыя зноў адназілася з 2006 года.

Да 1990-х гадоў мінулага стагоддзя асноўнымі спецыяльнасцямі факультэта былі "беларуская мова і літаратура", "руская мова і літаратура". Пасля распаду Савецкага Саюза змяніліся задачы, што сталі перад філалагічным факультэтам БДУ. Нам неабходна было рыхтаваць сваіх славістаў, спецыялістаў па класічных і заходнееўрапейскіх мовах. На пачатку XXI ст. наспела патрэба ў падрыхтоўцы спецыялістаў па кітайскай мове і літаратуры. У сувязі з адзначаным ў 90-я гады былі адкрыты новыя спецыяльнасці, у якія ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу нядаўна былі ўнесены істотныя змены.

Як бачым, наш факультэт дае магчымасць развіць разнастайныя моўныя і літаратурныя таленты студэнтаў. Падтрымліваюцца традыцыі, закладзеныя заснавальнікамі творчага аб'яднання "Узлёт". Шмат сучасных вядомых паэтаў абавязаны яму пуцёўкай у вялікую літаратуру. Сёння традыцыі ўзлётаўцаў працягвае вядомы крытык, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Лада Алейнік. Яе факультатыў "Літаратурная творчасць" наведваюць студэнты розных аддзяленняў. На факультэце праце і літаратурна-творчы гуртох "Альтанка", які ўзначальвае паэтэса, літаратуразнавец, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры І. Багдановіч. На пасяджэннях гуртка чытаюцца і абмяркоўваюцца творы ўдзельнікаў, даюцца парады па культуры творчасці, архітэктоніцы, вобразнасці паэтычных твораў, па ўдасканаленні і шліфоўцы радка.

Сёння, як і раней, філалагічны факультэт рады вітаць у сваіх аўдыторыях новых таленавітых творчых студэнтаў, якім па добрай філфакаўскай традыцыі будуць створаны ўсе ўмовы для творчага росту.




# «Што можна новага сказаць?»

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Паэтычныя старонкі чэрвеньскага нумара часопіса "Полымя" прадстаўлены імёнамі пяці творцаў. Усіх іх яднае як традыцыйнасць, вернасць класічнай паэзіі, так і наяўнасць спрэчных момантаў у творах.

Вершы Віктара Шніпа вабяць лірызмам, тонкасцю, багаццем вобразаў ("І сузор'і расы, што ад сонца растануць, // Калі чорнае золата знікне ў траве, // І, як дым, камары затанцуюць свой танец, // І заплачуць крыжы на драўлянай царкве", "І вясны беларукай пчала залатая // Выглядае з вулля нібы з хмары прамень"). Але чарговая порцыя балад, прысвечаных знакамітым дзеячам беларускай культуры, выклікае пытанні. Складваецца ўражанне, што падчас іх напісання паэт ходзіць па коле. Большасць твораў у такім жанры на дзіва падобныя. Больш за тое, у шэрагу выпадкаў можна памяняць загалоўкі і творы, а чытач і не заўважыць розніцы.

Уладзімір Мазго найбольш вядомы чытачам як самабытны дзіцячы паэт. Таму прыхільнікі яго творчасці заўважаць у падборцы адметнасці індывідуальнага почырку, а вось крытыкі — не "дарослы", а "дзіцячы" і падарожны настрой: "Нашчадкам адрадзіла // Багацці Радзівілаў", "Чароўная мелодыя, // Кірылы і Мяфодзія", "Дзівы // Клічуць на Мальдзівы, // Цуды // Вабяць да Піцунды".

Вельмі расчароўваюць урыўкі з паэмы "Зямлі і людзям", створаный Любоўю Русілкай паводле ўспамінаў Элізы Ажэшкі. Па сваёй стылістыцы яны нагадваюць банальную рыфмоўку біяграфіі знакамітай пісьменніцы без аніякага сэнсавага і вобразнага абагульнення ("я зноў світанню веру, // І да сябе заву, // Ад спісанай паперы // Ўздымаю галаву").

Разнастайнай па жанравай тэматыцы атрымалася падборка Тамары Красновай-Гусачэнкі (у перакладзе на беларускую мову Андрэя Цяўлоўскага). Тут знайшлося месца творам пра прыроду, прашчураў, паэзію, патрыятычным вершам ("Боль за Радзіму — больш чым проста боль. // У ім жыццё маё. І мой прысуд. // Яго я атрымала як пароль, // Які да скону ў сэрцы пранясу"). Лепшым сярод прапанаваных вершаў падаецца "Памяці сына": "Цішыня // Ў сусвеце цэлым, // Белым полем снег. // Там душа злятае з цела // Раніцай навек. // Развіталася, // Трымцела, // Трызніла адно, // На імгненне // Заляцела // У роднае акно".

Асобна хацелася б звярнуць увагу на няўважлівасць творцаў, сэнсавую непрадуманасць радкоў, у якіх словы выкарыстоўваюцца толькі для рыфмы. Напрыклад, "Нябачны хтось іграе на раялі, // Ці сам раяль іграе, як жывы, // Каб вы, вясновая, не сумавалі, // Як у нябёсах мёртвых журавы" ("Нябачны хтось іграе на раялі…", В. Шніп). Чаму гэта нябёсы сталі "мёртвыя"? Памерлыя людзі ўсё ж такі сыходзяць у зямлю, а на неба адлятаюць іх душы. Тым больш, там жа, згодна хрысціянскаму веравызнанню, знаходзіцца і Бог. "Нібыта былы кардынал, // Што веру не здаў паняверцы, // Прыйшоў Аўгустоўскі канал, // Злучыўшы стагоддзі і сэрцы" ("Аўгустоўскі канал", У. Мазго). Відавочна, што слова "кардынал" цудоўна рыфмуецца са словам "канал". Але ў чым жа сэнс радкоў? Паперш, калі ён былы, значыцца, якраз адмовіўся ад веры. Па-другое, як канал мог прыйсці? Нарадзіцца? Атрымаць прысвячэнне? "Ёй у труне – букецік бэзу. // Падкрэсліў хтосьці боль імпрэзы" ("Зямлі і людзям", Л. Русілка). Цікава, з якога часу пахаванне стала імпрэзай? "Мой дзед, прабач, што не магла я // Тады малітвам спагадаць: // Як жыць, калі мо сам чакаеш, // Ці не назаўтра паміраць" ("Дзед Даніла", Т. Краснова-Гусачэнка). Паколькі размова ідзе пра дзядулю лірычнай гераіні, відавочна, што падчас дзеяння верша яна была ці маладой, ці, прынамсі, сярэдніх гадоў. Няўжо ў такім узросце людзі чакаюць смерці? Але калі такія думкі і ёсць, ад іх, наадварот, хутчэй прыходзяць да Бога.

Найбольш яркае ўражанне ў мяне засталося ад аднаго з вершаў Міколы Кандратава, які стаў своеасаблівым сімвалам разглядаемай "палымянскай" паэзіі: "Што можна новага сказаць // у свеце, што стары, як мора, // калі пагас былы азарт, // калі прамоўлена так многа // слоў, што згарэлі на кастры // ці патанулі ў водах Стыкса?.. // Магчыма толькі паўтарыць // з таго, што свет паспеў забыць".




# Алімпійскі спакой аглядальніка

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

Важнасць публікацый архіўных гісторыка-літаратурных матэрыялаў, думаю, нікому тлумачыць не трэба. У нашых часопісах яны рэдкія госці, нягледзячы на тое, што матэрыялу больш чым дастаткова па кожным перыядзе.

У іншыя часы публікацыі Г. Кісялёва, С. Александровіча, Г. Каханоўскага, Р. Платонава, У. Міхнюка, А. Гесь, а на сённяшні дзень — В. Селяменева, В. Скалабана, А. Сідарэвіча, М. Токарава, Я. Кісялёвай, Г. Запартыка, В. Жыбуля, Я. Янушкевіча, С. Шапрана займалі і займаюць адметнае месца ў асэнсаванні прамінулай літаратурнай эпохі.

З'яўленне ў чэрвеньскім нумары часопіса "Нёман" перапіскі Максіма Лужаніна і Яўгеніі Пфляўмбаўм зацікавіла мяне з розных прычын: у лістах можа захоўвацца каштоўны фактaлагічны пласт літаратурнага жыцця 1920 —1930-х гадоў, сведкамі і актыўнымі ўдзельнікамі якога былі абодва персанажы; эпістaлярый зазвычай раскрывае асаблівасці мовы, а праз гэта — і псіхалогіі творцы.

З апошнім усё так і ёсць. Лірычны стыль Лужаніна перадае не факты і падзеі, а настрой. Дэталізацыі ў лістах, можна сказаць, няма, і гісторыкам літаратуры застанецца толькі прыняць дадзеную публікацыю "да ведама". Тое ж, што можна было б "выцягнуць", часта зашыфравана ў ініцыялах.

Відома, добра, што такая публікацыя адбылася (і працягнецца ў наступным нумары). Аднак нельга не зрабіць публікатару шэраг заўваг.

Найперш трэба адзначыць поўную адсутнасць навуковага апарату. Няма ні каментарыяў, ні пазнакі на паходжанне дакумента. Варта было б узяць любое з навуковых выданняў, каб упэўніцца, што так справа не робіцца. Можна сказаць, што часопіс не месца для навукі. Але публікацыя дакумента мае свае правілы. Па-першае, трэба агаварыць дакладныя сігнатуры дакумента (дзе знаходзіцца, у якім фондзе, вопісе, справе, на якіх аркушах). Па-другое, ахарактарызаваць дакумент з пункту гледжання захаванасці, асаблівасці напісання ці почырку. Па-трэцяе, тэкст дакумента павінен перадавацца вельмі дакладна. Калі неабходна сталая дапамога графолага ці дасведчанага ў рукапісах чалавека, то яе не варта адкідаць, спяшаючыся (у выніку кожны ліст у "нёманскай" публікацыі мае адну, дзве, тры лакуны — менавіта праз паспешлівасць). Па-чацвёртае, кожны тэкст трэба падаваць як асобную адзінку, аддзяляючы дакументы адзін ад аднаго нумарамі ці загалоўкамі. Па-пятае, патрэбна вызначыць пазіцыі для каментавання і запоўніць іх. Калі ёсць ваганні ў сваёй праваце, то неабходна зноў жа звярнуцца да спецыяліста ў дадзенай галіне і атрымаць параду, дзе шукаць матэрыял для каментарыя.

Калі спытаць, якія з гэтых элементарных патрабаванняў выкананыя ў публікацыі ліставання Максіма Лужаніна з Яўгеніяй Пфляўмбаўм, то мы апынемся ў цяжкім роздуме. Што да месца знаходжання дакументаў, гісторыі фонда Лужаніна, то гэта апісана ў важкай прадмове Марыны Ліс, супрацоўніка ЦНБ НАН Беларусі. Але зноў жа — дакладных адрасных пазнак няма. Лісты не падзелены паміж сабой, не маюць загалоўкаў. Пазіцыя для каментавання на 30 старонках публікацыі толькі адна: заўвага зроблена да ініцыялаў "Вл. Раф." — "отчим Евгении". Сказаць, што гэта дужа лаканічна — значыць пашкадаваць публікатарку. Найперш у квадратных дужках павінны быць расшыфраваныя ініцыялы, пасля — пададзеныя біяграфічныя звесткі пра чалавека. Да літаратурных персанажаў і гістарычных асоб, імёны якіх сустракаюцца ў лістах, таксама мусілі б быць заўвагі і тлумачэнні.

Няправільна аформлена і датаванне. Прыкладная дата бярэцца ў квадратныя дужкі [1938]; тут жа, напрыклад, чытаем — "1938 (Без дакладнай даты — **Т. К.**)". Падаraю, што і афармленне дакладных дат зазнала пераўвасабленні. У даваенны час яны афармляліся прыкладна так: "19/VIII – 34". Тут жа паўсюль — "19.08.34", сучаснае напісанне. Але я магу і памыляцца. Калі не пазначаны год, варта не пісаць "год не пазначаны", а паспрабаваць вызначыць прыкладны час напісання дакумента, атрыманую дату трэба зноў жа залучыць у квадратныя дужкі.

Афармленне подпіса таксама няправільнае, паўсюль так і пішацца — "подпіс". Хочацца спытацца, а каб пад дакументам стаяла 8 подпісаў, то што рабіць тады? Хіба паставіць 8 разоў слова "подпіс"? Адсутнасць прозвішча пад дакументам без загалоўка ўвогуле пераўварае публікацыю ў суцэльны тэкст, і вельмі складана разабрацца, дзе канец і дзе пачатак ліста, хто каму піша і што з адрасатамі насамрэч адбываецца.

У якога дбайнага гісторыка літаратуры магло б разарвацца сэрца ад такога відовішча, але аўтар гэтых радкоў ужо прывык да падобных публікацый і ўспрымае іх з алімпійскім спакоем.




# Вершы з нечаканымі сэнсамі

**Алеся ЛАПЦКАЯ**

Новы нумар часопіса "Маладосць" стаўся сапраўды новым: змянiўся дызайн вокладкі, побач з фотаздымкам аўтара і біяграфічнымі звесткамі, якія рэдка могуць зацікавіць чытача, з'явіліся кароткія разважанні сучасных літаратараў пра змешчаныя творы. Гартаць часопіс стала цікавей, бо новая канцэпцыя дазваляе пазнаёміцца не толькі з аўтарам тэксту, але і з меркаваннем кагосьці з першых чытачоў, між іх — і супрацоўнікі рэдакцыі, ацэнка якіх часцяком бывае вызначальнай пры публікацыі. Разам з тым, з'яўленне міні-рэцэнзій у самім часопісе зусім не сведчыць пра тое, што агляды "Маладосці" ўжо непатрэбныя: водгукі на змешчаныя творы не толькі вельмі сцiслыя, але і надзвычай добразычлівыя.

У шостым нумары часопіса звяртае на сябе ўвагу найперш паэзія, якая хоць і не вылучаецца выключнай адмысловасцю, але можа падштурхнуць да развагі. Бо ад вершаваных падборак, што змяшчаюцца ў самых розных перыядычных выданнях, найчасцей застаецца адчуванне незадаволенасці, крыху больш складанае за звычайнае падабаецца — не падабаецца. Чаго чакаю я (і яшчэ, пэўна, значная частка чытачоў) ад сапраўднага верша? Галоўнае, каб на імгненне ахоплівала нейкае новае адчуванне жыцця, разуменне новага сэнсу, каб апаноўвала хаця б ненадоўга іншае бачанне свету. І для паэта гэтае новае будзе хутчэй вынікам натуральнай уласнай самасці, а не настойлівага памкнення да арыгінальнасці.

Мастацтва — гэта абавязкова вобразнасць, таму ў добрым вершы новы сэнс, асабістае бачанне выяўляецца найперш праз вобразную мову твора. Вобразы, якія не нясуць новага, адметна-аўтарскага — "неспазнаная мара", "гучна груквулі дзверы", "калі ўжо больш няма чаго губляць", "заблытаны шлях" і гэтак далей — толькі засмечваюць, абясцэньваюць твор і раздражняюць прыдзірлівага чытача.

Безумоўна, у кожнай вершаванай падборцы з "Маладосці" можна знайсці і выдатныя паэтычныя знаходкі — найболь іх, бадай, у Анатоля Брусевіча ("Чалавек — // Гэта адбітак хворы // Уяўлення Бога // Пра чалавека"), якому да таго ж належаць найвыдатнейшыя ў гэтым нумары вершы "П'ю малітву, нібы віно…" і "12 верасня". Падборка Брусевіча падаецца найбольш цэласнай, найбольш завершанай, — магчыма, галоўным чынам з-за засяроджанасці аўтара на тэме адзіноты і жыццёвых пошукаў, вынікам якой сталася празмернасць "канцоў і пачаткаў", "злых парадоксаў" і "абсалютных ісцін". Стан напружанай разгубленасці ды страты сэнсу, верагодна, можна выявіць і больш апасродкавана.

Трэці найцікавейшы верш гэтага нумара — "Свеціць неба шчымлівасцю верасня…" Андрэя Гуцава, у якім можна спатыкнуцца толькі на радку пра "час файны і цэласны". У астатніх творах гэтай падборкі багата цікавых вобразаў, але прасветленасці новым чамусьці не адбываецца, — можа, таму, што назвы вершаў часам кепска вяжуцца з самімі тэкстамі, можа, з-за лаканізму і недагаворанасці: аўтару здаецца, што ён сказаў дастаткова, а чытачу нечага не хапае, каб спалучыць, каб адшуглхнуцца… Калі згадзіцца з тым, што "У радках — // Толькі абрыс мэты" (А. Брусевіч), то ўсё нібыта няблага, але так хочацца, каб хоць зрэдку ў вершах напоўніцу ўвасаблялася вялікая мэта творцы сказаць штосьці адметнае калі не чытачу (які згадваецца тут, магчыма, часцей, чым сустракаецца ў беларускай рэчаіснасці), дык наогул Сусвету.

Даволі цьмянымі падаюцца напачатку і вершы Ехе Кім Урга —аднаго з пераможцаў літаратурнага конкурсу "Брама мар". Аднак з эннага чытання падборкі робіцца зразумелым, што першыя чатыры страфы складаюць асобны верш і аб'яднаныя адной тэмай. Смерць пілота ("уражлівасць цела — // дэмiурга дурота"), бог ("металічны рогат — // бы неўміручы смех"), канец сусвету ("Тэхнасвет — дзіцячая цацка, // лабірынт навырост") і яшчэ выдатна прамаляваны ў двух радках спалены самалёт ("Крылле цяжка // штурхае наперад абгарэлы жывот") — калі ўчытацца ў твор, то з'яўляецца ўпэўненасць, што Ехе Кім Ург можа стаць вельмі арыгінальным беларускім паэтам. Праўда, у наступным вершы зноў банальна незразумела, што хацеў сказаць аўтар — у адрозненні ад іншых твораў удзельнікаў конкурсу, дзе ўсё больш проста і часам даволі не блага.

Кажучы пра Уладзіміра Гуніча — дэбютанта "Маладосці" — трэба пагадзіцца з Навумам Гальпяровічам, які адзначыў у міні-рэцэнзіі, што "вернасць традыцыям айчыннай паэзіі" — "гэта і дадатны бок, і пэўная небяспека". Вершы нібыта прыгожыя, але прыгажосць гэтая лубачная, акрамя радкоў пра тое, што "край вячэрні поўніць // цішыня далёкіх зор", тут амаль і няма чаго цытаваць. З іншага боку, здольнасць адчуваць хараство, натхнёнасць і паэтычнасць натуры вельмі часта выяўляюцца ў нескладанай пейзажнай лірыцы, з якой можа пачацца сапраўдная цікавасць да літаратуры.

Уладзімір САЛАМАХА

# Служэнне літаратуры




У рускай мове ёсць цудоўнае слова **служить.** Яго беларускі адпаведнік вядомы кожнаму з нас (маю на ўвазе найперш тых, хто хоць як спрычыняецца да літаратуры). Несумненна, да нас, беларусаў, яно прыйшло з рускай мовы, з усімі тымі паняццямі, якія ў гэтым слове заключаныя. Ад самых высакародных, калі дзейнасць чалавека (незалежна якая ў яго прафесія, які род дзейнасці, справа ўвогуле) накіравана на сваю карысць, карысць свайму блізкаму акружэнню, людзям, народу, Айчыне, да тых паняццяў, пра якія не заўсёды хочацца гаварыць — на дабро не скіраваны… Хаця, як ведаем, яны, як і першыя, былі, ёсць, будуць, а ў асобныя перыяды жыцця грамадства, народаў, краін, свету жахліва ўздзейнічаюць на іх лёс.

Між гэтымі двума паняццямі **служэння** (тут найперш звяртаю ўвагу на дзейнасць чалавека: хлебароба, рабочага, палітыка, мастака, пісьменніка, далей размова будзе ісці пра яго) стаіць, мацуецца, існуе — вызначайце, як вам хочацца — такое паняцце, як мужнасць.

Не будзем закрываць вочы: даўно ўжо і мэтанакіравана высакародны сэнс служэння, асабліва ў дачыненні да пісьменнікаў, да іх дзейнасці высмеяны, зганьбаваны, растаптаны, і калі ў той або іншай літаратуры з’яўляецца асоба, якая сваёй творчасцю імкнецца адрадзіць яго, яна, — асоба тая, часта “не в чести”. Але, з жыцця, тыя сілы, якія “служат” працэсам разбурэння такіх паняццяў, як сумленне, спагада, дабрыня (і ўсяму, што з імі звязана), такіх літаратараў выцясняюць, ставячы на іх месца “пісьменніц” і “пісьменнікаў”, якія не маюць ніякага дачынення да літаратуры ў яе спрадвечным паняцці, робячы з іх нейкіх “культавых” асоб, “зорак” і г.д. Словам, усё мы гэта ведаем, але часцей маўчым, а часам і апладзіруем таму, што нясе разбурэнне чалавечаму духу, самому чалавеку. Аднаму, другому, трэцяму… Людзям, народу, народам, якія палітыкі часта называюць масамі, выводзяць іх (разам з іншымі сродкамі прапаганды, і ўсім тым, што ўздзейнічае на чалавечую свядомасць), так бы мовіць, з гістарычнага працэсу…

Такія думкі ўзнікаюць пасля прачытання кнігі выдатнага расійскага пісьменніка, публіцыста, філосафа, грамадскага дзеяча, урэшце сябра беларускай літаратуры Аляксандра Казінцава “Вяртанне мас”. Выданне выйшла ў “Нашем современнике” (Москва, 2010) тыражом усяго ў 1000 экзэмпляраў, і ў нас вельмі рэдкае, набыць яго даволі цяжка. Кніга мае падзагаловак “Дзённік сучасніка”. У анатацыі да яе гаворыцца, што “гэта — палітычная хроніка нашых дзён, эпохі на зломе тысячагоддзяў”. А таксама, што яна “заснаваная на дакументах— выказваннях лідараў дзяржаў, сведчаннях відавочцаў, дадзеных статыстыкі”. А ў яе “цэнтры ўвагі — нарастаючая пратэстная актыўнасць мас, якія вяртаюцца на сцэну гісторыі…”

Таксама, але ўжо з аўтарскага слова да выдання, атрымліваеш інфармацыю (не ўсе маюць магчымасць чытаць расійскі часопіс “Наш современник”), што кніга стваралася на працягу чатырох гадоў і выходзіла асобнымі раздзеламі ў часопісе, у якім, дарэчы, Аляксандр Казінцаў працуе ўжо тры дзясяткі гадоў і які, падкрэслю, штогод свой 12-ты нумар амаль цалкам аддае беларускай літаратуры, публіцыстыцы, культуры.

Больш за тое, калі вярнуцца зноў да кнігі, наогул публіцыстычнай дзейнасці Аляксандра Казінцава, трэба адзначыць, што публіцыстыка — гэта від грамадска-палітычнай дзейнасці, яна вядома нам з часоў Дабралюбава, Герцэна, Чарнышэўскага, ёю займаюцца і многія нашы сучаснікі ў рускай і беларускай літаратурах.

Дык вось, Аляксандр Казінцаў працуе ў ёй добрых тры дзясяткі гадоў. У “Нашем современнике” ён вядзе аўтарскую рубрыку “Дневник современника”, у якой ужо апублікаваў больш як сто пяцьдзясят артыкулаў, як сам прызнаецца, “на самыя вострыя, небяспечныя тэмы”.

Так, у тым, што публікацыі Аляксандра Казінцава такія, што ўся яго публіцыстычная дзейнасць звязана з асабістай рызыкай і як творцы, і як чалавека, пераконваешся, прачытаўшы “Вяртанне мас”. Асабліва — даследчыя і аналітычныя матэрыялы, змешчаныя ў раздзелах “Асноўныя праблемы нашага часу”, “Расія, бедная Расія”, ды і “Удар Зальфікара”, і “Лацінаамерыканская альтэрнатыва”. (Дарэчы, пра гэта сведчаць і папярэднія кнігі Аляксандра Казінцава — “Тварам да гісторыі”, “Новыя палітычныя міфы”, “Расія над безданню. Дзённік сучасніка. 1991—1996”, “У пошуках Расіі”, “На што мы прамянялі СССР?”, “Сімулякр, або Шкляное царства”.

Словам, Аляксандр Казінцаў на працягу, як ужо адзначалася, трох дзясяткаў гадоў, як літаратар, публіцыст, зрэшты, як грамадзянін сваёй краіны, па прыкладзе сваіх вялікіх папярэднікаў, рускіх пісьменнікаў, а таксама многіх старэйшых сучаснікаў і сваіх равеснікаў, згуртаваных вакол часопіса “Наш современник”, служыць праз літаратуру людзям…

Я знарок не паглыбляюся ў разгляд кнігі Аляксандра Казінцава “Вяртанне мас”, а толькі абазначаю яе некаторыя агульныя для краін, “мас”, якія іх насяляюць, аспекты. У прыватнасці, у выданні вельмі дакладна прасочваецца тэндэнцыі “народнага супраціву экспансіі” не толькі ў краінах, далёкіх ад нас, але і блізкіх нам. Ды і карціны сучаснага жыцця краіны, грамадзянінам якой з’яўляецца пісьменнік, асабіста я, як лічу, магу толькі ўспрымаць або не ўспрымаць: самі са сваім разберуцца… Але пры гэтым не магу не засяродзіцца на тым, што асабіста мне, і як чытачу, і як чалавеку, які мае нейкае дачыненне да літаратуры і публіцыстыкі, імпануе ў асобе Аляксандра Казінцава як літаратара. Так, гэта ягонае служэнне справе “мас”…

Вось тут зноў з’яўляецца такое паняцце, як мужнасць. Як чалавек Аляксандр Казінцаў несумненна мужны. І не толькі таму, што не баіцца шматлікіх пагроз у свой адрас. Пагроз за тую праўду пра стан сучаснага свету, якую шмат дзе “власть имущие” ўтойваюць ад “масс”, якія, няшчадна эксплуатуючы, даводзяць да абяздоленасці, прысвойваючы сабе не толькі вынікі іх працы, а і агульнанародныя багацці.

> *“Аляксандр Казінцаў цікавы яшчэ і тым, што, безумоўна, нягледзячы ні на якія абставіны, што ўзнікаюць вакол яго творчасці, застаецца мужным у сваім служэнні аднойчы абранай сабе справе і як пісьменнік. А такое паняцце, як мужнасць пісьменніка, у рускай і нашай літаратуры прысутнічала ва ўсе часы.*

Наогул жа Аляксандр Казінцаў цікавы яшчэ і тым, што, безумоўна, нягледзячы ні на якія абставіны, што ўзнікаюць вакол яго творчасці, застаецца мужным у сваім служэнні аднойчы абранай сабе справе і як пісьменнік. А такое паняцце, як мужнасць пісьменніка, у рускай і нашай літаратуры прысутнічала ва ўсе часы. Пра мужнасць пісьменніка, задумваліся і задумваюцца многія сапраўдныя рускія і нашы літаратары, што вельмі не падабаецца ўсёй той выпадковай калялітаратурнай брацыі, якая з прычыны адсутнасці творчых здольнасцей фактычна разбурае яе.

Але, калі ўжо так, мабыць, гаворачы наогул пра мужнасць пісьменніка як чалавека і творчай асобы, трэба прыгадаць цудоўнага рускага празаіка Юрыя Казакова. У прынцыпе, кардынальна, у сваёй творчасці ён нічым не падобны да Казінцава, зрэшты ўвогуле ні на каго (хоць сучаснікі параўноўвалі яго з Буніным), Юрый Казакоў у сваім артыкуле “Пра мужнасць пісьменніка” (1966) сфармуляваў пра гэтую мужнасць сваё паняцце.

Яно, між іншым, у многім супадае з сённяшнім разуменнем пісьменніцкай мужнасці значнай часткі тых сапраўдных пісьменнікаў (тэрмін “сапраўдны пісьменнік” бяру з яго ж артыкула), якія працуюць у сапраўднай літаратуры.

Артыкул той у свой час быў шырока вядомы сярод літаратараў і чытачоў (чаго варта яго публікацыя ў “Раман-газеце”, № 12 за 1977 год тыражом больш як паўтара мільёна экзэмпляраў), хаця замоўчваўся ўладамі, мабыць, з тае прычыны, што там усё зводзілася да служэння пісьменніка людзям, усяму свету і не ўпаміналася роля кіруючай тагачаснай партыі краіны, у якой жыў Юрый Казакоў.

Нагадаю, што артыкул заключае “Паўночны дзённік” Юрыя Казакова і пачынаецца з таго, што гэты непаўторны майстар рускай прозы паведамляе, маўляў, піша ён яго “пасля цяжкай, непатрэбнай спрэчкі пра літаратуру” з яе адным “местным знатоком”.

“Пісьменнік павінен быць мужным, думаў я, — піша Ю. Казакоў, — таму што жыццё яго цяжкае. Калі ён адзін на адзін з чыстым аркушам паперы, супраць яго рашуча ўсё. Супраць яго мільёны раней напісаных кніг (…) і думкі пра тое, навошта ж яшчэ пісаць, калі пра ўсё гэта ўжо было…”

Стоп! Далей ідзе размова пра галоўны боль і няўпэўненасць у сабе (рыса, якая адсутнічае “напрочь” у графаманаў), і шмат пра што іншае, скажам так, бытавога плану.

І вось тут у сувязі з А. Казінцавым у мяне вымалёўваецца наступнае, што не датычыць “бытавізму” — супраць яго, як публіцыста, шмат якія добра арганізаваныя сілы. Тыя сілы, як кажуць, і тут і там, якія не хочуць распаўсюджвання праўды Казінцава пра сённяшнюю арганізацыю свету.

Юрый Казакоў далей разглядае праявы пісьменніцкай мужнасці з розных “бакоў”, якія ахопліваюць увогуле працу літаратара як такую. Тут і тое, што трэба быць мужным, што “яму (пісьменніку. — **У. С.**) ніхто ніколі не дапаможа (…) не напіша за яго, не пакажа, як трэба пісаць. Гэта ён павінен сам”. Сёння ж нямала хто з так званых пісьменнікаў піша за іншых. Існуюць нават цэлыя калектывы, якія выдаюць “нагара” “літшэдэўры”, і, здаецца, нікому няма справы да таго, што “гэта (пісаць, ствараць. — **У. С.**) ён павінен сам”. І тут жа дадае: “І калі ён сам не можа, значыць усё згінула — ён не пісьменнік. Нікому няма справы да таго, хворы ты ці здаровы, ці за сваю справу ты ўзяўся, ці ёсць у цябе цярпенне, — гэта найвышэйшая мужнасць”.

У А. Казінцава — пісьменніка і публіцыста, калі судносіць з працытаваным, мужнасць сапраўдная. Да яго, без сумнення, можна аднесці ўсе наступныя, пералічаныя ў артыкуле Ю. Казакова, праявы пісьменніцкай мужнасці: і чаканне, калі надрукуюць, і водгукі крытыкі, зычлівай, а найчасцей нядобразычлівай, з пагрозай фізічнага знішчэння яго, як чалавека, і праўда жыцця ў творах, “калі ён разумее, што трэба пісаць праўду, што толькі ў праўдзе выратаванне”, і шмат іншага, што не пазначана ў артыкуле цудоўнага рускага празаіка, які, мабыць, нават не ўяўляе, што наступіць час, у якім быць “сапраўдным пісьменнікам” трэба будзе мець мужнасць толькі “важкую”, больш “грунтоўную”, чым у яго, казакоўскі час…

Але, падкрэслю, ва ўсе вядомыя нам часы літаратуры пісьменнік пераставаў быць пісьменнікам, калі пераставаў **служыць** людзям, народу, Айчыне…

Наш сучаснік Аляксандр Казінцаў з той нешматлікай кагорты сапраўдных пісьменнікаў, хто служыць. Служыць, бо хоча, “каб усе людзі на зямлі сталі нарэшце шчаслівыя і свабодныя, каб зніклі няроўнасць, войны, расізм і беднасць, каб праца стала неабходнай усім, як неабходнае паветра”.

“Як усё гэта сёння гучыць наіўна”, — можа ўсклікнуць іншы чытач. То хай, як сцвярджаюць мудрыя людзі, часам і праз наіўнасць прабіваецца ісціна. Так, у пісьменніка няма “власти перестроить мир” так, як ён хоча. Але ў яго ёсць ПРАЎДА і яго СЛОВА, і ён, зноў жа, па-казакоўску, урэшце рэшт павінен “гаварыць бясконца, што свет павінен быць лепшым”.

Дзеля гэтага і служыць у літаратуры наш сучаснік Аляксандр Казінцаў.

## Новае выданне

Сяргей ЧЫГРЫН

# Дачка ружы любіць сонца

Вельмі прыемна, што крыніца беларускай паэзіі на Беласточчыне з гадамі не змялела. На змену старэйшым майстрам паэтычнага слова прыходзяць юнакі і дзяўчаты, якія па-новаму адкрываюць свет паэзіі. Сярод іх і маладая беларуская паэтэса з Беласточчыны Кацярына Сянкевіч. Дзяўчына нядаўна дэбютавала кнігай вершаў “Дачка ружы”, выдадзенай Беларускім літаратурным аб’яднаннем “Белавежа” пры фінансавай падтрымцы Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы пад рэдакцыяй Галіны Тварановіч.

Зборнік вершаў “Дачка ружы” Кацярыны Сянкевіч складаецца з двух сшыткаў. Кожны сшытак — гэта філасофскія разважанні паэтэсы пра дух і люстра, дождж, ваду, самоту, неба, анёлаў і г.д. Але найбольш у яе вершах радкоў пра сонца. Так яно і павінна быць, бо ружы любяць сонца. А сама аўтарка, як і ўсе людзі на зямлі, жыць без сонца не зможа. Але дзяўчына не толькі шчаслівая жыве пад сонцам, але яшчэ хораша яго апявае, захапляецца ім, па-юнацку шчыра і радасна. “Свяціў дождж, ішло сонца...” — піша паэтка ў адным вершы. У другім прызнаецца, што “хачу быць вашым сонцам, а вы хочаце, каб была чарвяком”. У трэцім — аўтарка тужліва перажывае: “На канцы дажджу, дзе мокрае сонца, там мае слёзы тужаць...”. І такіх “сонечных” разважанняў шмат.

Хораша Кацярына Сянкевіч піша і пра чалавечае жыццё наогул: “Калі паміраюць мары, паміраюць таксама душы людзей...”. Вядома ж, якая душа без мары?..

Лірычная гераіня зборніка “Дачка ружы” вельмі асцярожная, але радкі яе адкрытыя, па-дзявочаму шчырыя. Вядома, прадстаўлена ў кнізе і інтымная лірыка. Разважанні К. Сянкевіч пра каханне няпростыя, шчымлівыя.

У маладой паэтэсы багата прыгожых, моцных вобразаў, параўнанняў: “драбіна думак”, “ледзяністая звалка жалю”, “трускаўкавае марозіва маны”, “тканіна нерухомага святла”, “капялюш успамінаў”, “мелодыі вуснаў”, “мокрае сонца” і г.д.

Сэрца яе слухае свет, пра які яна арыгінальна разважае ў сваіх вершах. Вядома, розныя гэтыя разважанні. Ім не заўсёды хапае смеласці, шырыні, прасторы. Але гэта з часам прыйдзе. Галоўнае, каб паэтэса не пакідала пісаць, думаць, радаваць чытачоў сваімі адкрыццямі. А адкрыццяў у першым зборніку Кацярыны Сянкевіч шмат. Хаця на самай апошняй старонцы кнігі дзяўчына папярэджвае:

*Я — дачка ружы.*
*Паколеш сабе пальцы.*

Цікавы вобраз. А калі да гэтага дадаць, што Кацярына яшчэ і добрая мастачка — яна сама афармліла кнігу, — то застаецца толькі захапляцца маладым беларускім талентам з Беласточчыны і шчыра яго вітаць, чакаючы новых адкрыццяў і кніг.



Мікола Чарняўскі

## Цяльняшка Платона Галавача

“На будаўніцтве канала працавала некалькі дзясяткаў тысяч чалавек — былых зладзеяў, бандытаў, кулакоў, шкоднікаў... І дзясяткі тысяч іх... перакавалі, зрабілі людзьмі”.
“Няспынна грае аркестр... Гавораць прамоўцы... Я спяшаюся занатаваць у запісной кніжцы пачутае і бачанае. Дрыжыць у руцэ аловак,
і літары выходзяць з-пад алоўка няроўныя, раскіданыя...”

**(З нарыса П. Галавача “Ад Мядзведжай гары да Белага мора”)**

*Гляджу і не веру вачам,*
*Гляджу, ад здзіўлення нямею:*
*Цяльняшка*
*Платона Галавача,*
*Адкуль ты ўзялася*
*У школьным музеі?*
*Адкуль ты ў яго,*
*Дараваная кім*
*Нашчадку сялянскіх загонаў?*
*Я ж ведаю добра:*
*Ён “воўкам марскім”*
*Ніколі не быў —*
*Не ў натуры ягонай.*
*А ў школу прывёў*
*юбілейны год.*
*Сутоніцца марыўна дзень вераснёвы.*
*Дзяўчынка расказвае —*
*экскурсавод —*
*Свайго земляка жыццяпіс адмысловы.*
*Адсюль, з Гарбацэвічаў, —*
*шлях юнака*
*У свет, у жыццё, у сталіцу,*
*Дзе мудрасцю ведаў,*
*Дзе шчасцем радка*
*Хацела крынічна душа наталіцца.*
*У заціш ад позваў жыцця*
*не ўцякаў,*
*У новае ранне акрылена верыў.*
*Кастрычніка сын,*
*Рана воляй ЦК*
*Ён фрэнч важака камсамола прымераў.*
*Пад маршы вяла маладосці пара*
*У заўтра, што днела ў плакатах,*
*Ды прагна цягнула*
*Руку да пяра,*
*Як жней да сярпа,*
*Як да плуга — аратых.*
*Заўважаны ўладай,*
*узвышаны ёй,*
*Быў служкам яе і... прыгонным,*
*Ды роднае слова ўсё ж брала сваё,*
*Як выспелы колас,*
*Рабілася плённым.*
*А дзесьці ў Карэліі,*
*смокчучы кроў,*
*Не горай гулагаўскай зграі,*
*З дня ў дзень*
*Табуны машкары й камароў*
*Жыццё ў паднявольных людзей адбіралі.*
*Ішла “перакоўка” гулагам, турмой —*
*На сталінскі лад*
*Шчасце-долю кавалі.*
*... З брыгадай пісьменнікаў*
*Жніўнай парой*
*Яму выпаў гонар праплыць па канале.*
*Каб цуд Беламорска-Балтыйскі*
*тут ён*
*На ўласныя вочы*
*Мог зблізку пабачыць:*
*Глядзіце, як, працы адведаўшы плён,*
*Былыя злачынцы расчулена плачуць.*
*Ні слова гасцям,*
*Колькі ў муках сканала,*
*Бы ў прорве,*
*На дне душагуба-канала.*
*Ад маршаў, прамоў*
*Ноччу ў скронях гуло —*
*Прадумана ўсюды ім голаў дурылі.*
*А каб не астыла ўспамінаў цяпло —*
*Цяльняшкі прадбачліва ўсім падарылі.*
*Няўжо ён не бачыў,*
*Дзе праўда, дзе зман,*
*Пісьменнік, які жыць сумленна імкнуўся?..*
*Душой пакрывіць не мог Янка Скрыган:*
*Дзяліўся ўспамінам,*
*Бы ў час той вярнуўся.*
*Па святах*
*Ад мора ўдалечыні*
*Прымерваў Платон сувенір дараваны...*
*А з хваляў рэпрэсій,*
*Што Сталін чыніў,*
*Не выплыў у ёй,*
*Збіты ўшчэнт, змардаваны.*
*Нібы паўтарыўся*
*Дзень жніўеньскі той,*
*Ды ў камеры ўжо,*
*Не на тым параходзе —*
*Алоўкам Платон*
*І дрыжачай рукой*
*На шэрым абрыўку*
*Знямогла выводзіў:*
*“Даруйце... — збягала з алоўка,*
*Як стогн, —*
*Калі вінаваты я чым перад вамі,*
*Гісторыя скажа ўсю праўду. Платон”.*
*І — знік,*
*Нібы змыты мутнечай цунамі.*
*Дзе след адшукаць бы?*
*І ў чым вінаваты?*
*Хто ведае праўду?*
*Няўжо Курапаты?..*
*Цяльняшку,*
*У куфар схаваўшы, як страх,*
*Хоць голад з галечай блукалі,*
*Змагла зберагчы*
*Праз гады ўсе сястра, —*
*Ніхто не знасіў яе,*
*Злыдні не ўкралі...*
*...Вярталіся ў Мінск.*
*Кожны ўражаны быў.*
*Не чулася смеху раскатаў.*
*Раз-пораз Скрыган курткі рог церабіў,*
*Нібыта цяльняшку музейную кратаў.*
*— Сястры мала, хлопчыкі,*
*Дзякуй сказаць,*
*Не жарт — з трыццаць сёмага года*
*Цяльняшку хаваць,*
*Каб людзям паказаць:*
*Ёй брат быў — не “вораг народа”.*
*А часта ж было, —*
*Гэта ўжо не сакрэт, —*
*Цураліся іх, зганьбаваных...*
*Ён сам бы ў кашулі радзіўся на свет:*
*Не быў, як Платон Галавач, расстраляны.*
*Жыццё праз ГУЛАГ, як праз пекла, вяло,*
*Хоць свету з Крамля падавалася святам...*
*Жыццё ў іх было,*
*Быццам лёсу назло,*
*Такім, як цяльняшка, —*
*Усё паласатым.*
*Туман недаверу, што душы сцінаў,*
*Над лёсам вісеў, як над пожняй,*
*Ён цёмным і белым жыццё маляваў,*
*Ды цёмным палоску правёўшы*
*Апошняй...*
*Хоць тузаў Скрыган*
*прыпыняцца ля крам —*
*Гаркоту разбавіць у горкіх ста грамах,*
*Ды марна:*
*“Сухмень”, што намножыла драм,*
*Як лагерны шмон той,*
*Прайшлася па крамах.*
*Крамлёўская кузня*
*і тут рэй вяла —*
*Бы ў клешчы ўхапіць, як падчас “перековак”.*
*Пад корань сячы —*
*Дырэктыва была...*
*А людзі, іх лёс?*
*Будзе зноў “памылкова”?*
*А як, на каго ўсе ахвяры спісаць,*
*Той жах, што ўладарыў паўсюдна?*
*Як праўду вярнуць?*
*І каго пакараць*
*За здзек, што над людам*
*чыніўся бяссудна?!*
*Платон Галавач...*
*На радзіму, сюды,*
*Дзе груша, што ён пасадзіў, сірацее,*
*Нас памяці смутак*
*Прывёў ПРАЗ ГАДЫ,*
*Як слова, жывы,*
*Як цяльняшка ў музеі.*

1988, 2010 гг.



Фота Віктара Кавалёва



Рыгор Сакалоўскі

**Рыгор Сакалоўскі, якога днямі мы праводзілі ў апошні шлях, у сваёй шчырай паэзіі быў тонкім лірыкам, хаця не цураўся ён і так званай грамадзянскай тэмы, што і зразумела, бо яго жыццёвы лёс надоўга быў звязаны з арміяй. За час творчай працы выдаў зборнікі вершаў “Зоры і сэрца”, “Афганскае рэха”, “Даверыўшыся толькі пачуццю”. У знак павагі да памяці паэта — вершы Рыгора Сакалоўскага ў перакладах М. Шабовіча.**

* * *

*Пачынаю дзень*
*З малітвы,*
*Шлю з душы*
*Вітанне-спеў*
*Вабна-чыстаму*
*Блакіту,*
*Што надзеямі*
*Сагрэў,*
*Ветру*
*З водарнасцю хвоі,*
*Сонцу,*
*Грывам-коўдрам хмар —*
*Іх трымценне*
*Незямное*
*Закалыхвае*
*Зямшар, —*
*Журавам,*
*Што над ракітай*
*Не самоцяцца*
*Ў журбе...*
*Пачынаю дзень*
*З малітвы...*
*Пачынаю дзень*
*З цябе!*

* * *

*Твае сцяжынкі*
*Замяло туманам,*
*Нібы трывогай*
*Даўнюю віну.*
*Магчыма, я прыехаў*
*Вельмі рана,*
*А мо спазніўся*
*Хвілю на адну.*
*І хтосьці іншы*
*Там, за рэдкалессем,*
*Не толькі пацалункі*
*Раздае:*
*Маіх пачуццяў*
*Заглушае песню,*
*Ды ўсё адно*
*Душа мая пяе.*
*І прадчуванне*
*Песціцца, хоць квола:*
*Калі туману*
*Згорнецца сувой,*
*Мы паварожым, любая,*
*Як колісь,*
*На кветцы лёсу,*
*Кветцы палявой.*
*І мы на міг*
*Забудзем пра няўдачы,*
*Свае далей*
*Адпрэчыўшы гады...*
*І дзесьці ў небе*
*Жаўранак заплача*
*Ад радасці...*
*Ці, можа, ад бяды...*

### Ручнікі

*Ручнікі,*
*Як іконы,*
*Ў нашай хаце*
*Вісяць...*
*Белаквецяць*
*Чаромхай,*
*Як цюльпаны,*
*Гараць.*
*Мама іх*
*Вышывала*
*Пры вячэрнім*
*Акне,*
*Нібы песню*
*Складала*
*На гадоў*
*Палатне.*
*Дні былыя*
*Ўваскрэснуць*
*У прадранішнім*
*Сне...*
*Нібы дзіўныя*
*Фрэскі —*
*Ручнікі*
*На сцяне.*

* * *

*Слухаем музыку*
*Жніўня мядовага:*
*Рдзеюць рабіны*
*У кроплях расы,*
*Тонкай вясёлкі*
*Крыло каляровае,*
*Гучнага грому*
*Раскаты-басы;*
*Спелых парэчак*
*Сузор'і чырвоныя,*
*Непараўнальны*
*Антонаўкі смак*
*Ды пералівы вады*
*Светлазвонныя,*
*Што наталяюць*
*Мелодыяй нас;*
*Сонца і сінь*
*Разліліся да краю,*
*Бусел кружляе,*
*Рачулка бяжыць...*
*Сэрца любоў*
*Беражэ незямная,*
*Хочацца музыку слухаць*
*І жыць!*

Марына ВЕСЯЛУХА

# Дзейнічаць па розуме

**Мінская фабрыка каляровага друку шырокаму чытачу больш вядомая як паліграфічнае прадпрыемства. Але сёння яна выступае і як выдавец і, варта адзначыць, мае сур'ёзныя поспехі ў гэтым аспекце дзейнасці. Праекты калектыва неаднаразова адзначаліся дыпломамі Нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі”, ёсць на рахунку выдавецтва і замежныя ўзнагароды, у прыватнасці дыплом Бельгійскай акадэміі мастацтваў. Пра адметнасці працы прадпрыемства як выдаўца, самыя яркія праекты і кнігі, што толькі рыхтуюцца да выпуску, — наша гутарка з начальнікам рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Яўгенам Малашэвічам.**

**— Яўген Васільевіч, з чаго пачыналася выдавецкая дзейнасць?**

— Самастойнай выдавецкай дзейнасцю Мінская фабрыка каляровага друку занялася год 12—14 таму, тады мы самі сталі выдаваць, рыхтаваць кнігі, шукаць заказчыкаў, шляхі рэалізацыі, распаўсюджання прадукцыі. Ад самага пачатку гэтая праца склалася вельмі добра. Пачынала ж выдавецтва з дзіцячай літаратуры. У асноўным гэта былі казкі: рускія народныя, замежныя казкі Ганса Хрысціяна Андэрсена, Шарля Перо. Але тэксты твораў усім і так добра вядомыя, таму наша задача стаяла ў наданні новым кнігам са старым зместам прывабнай формы. І гэта ў нас атрымалася даволі ўдала ў супрацоўніцтве з варонежскай мастачкай Аленай Дзідкоўскай. Дадзены кірунак развіваўся інтэнсіўна, ды і сёння, калі казаць пра грашовыя вылічэнні, дзіцячая літаратура дае фабрыцы палову прыбытку ад усёй выдавецкай дзейнасці.

**— І вы спыніліся толькі на дзіцячай кнізе?**

— Не. Было б смешна, калі б, атрымаўшы права на самастойнае выданне літаратуры, мы не ўзяліся за ўвасабленне ў жыццё іншых ідэй. Чаму б не карыстацца гэтым правам больш шырока? Так узнікла ідэя выпуску навукова-папулярнай рарытэтнай літаратуры, што сёння знаходзіцца ў архівах Мінска, Масквы, прыватных кніжных зборах у невялікай колькасці экзэмпляраў. Яны не перавыдаваліся ўжо 100—150 год. А сваёй актуальнасці і каштоўнасці ў якасці крыніцы вывучэння гісторыі яны не страцілі. Вынікам стала серыя грунтоўных прац “Народы зямлі: гісторыя, рэлігія, культура”. Гэтыя кнігі карыстаюцца попытам. Ужо выйшла каля двух дзясяткаў назваў кніг, і ёсць напрацоўкі на такую ж колькасць выданняў. У ліку выдавецкіх праектаў — і іншыя галіновыя кірункі: духоўная, рэлігійная літаратура. Паспяхова працуем і ў галіне стварэння альбомнай прадукцыі. Дзякуючы добрай тэхнічнай базе можам забяспечыць найлепшую якасць пры выданні такіх кніг.



**— З якімі аўтарамі супрацоўнічаеце? Як ажыццяўляецца іх пошук?**

— У нас ужо склалася супрацоўніцтва з многімі аўтарамі, не толькі беларускімі, але і расійскімі. Часам яны нас шукаюць самі. Звяртаюцца на міжнародных кніжных выстаўках, прапаноўваюць рукапісы. Часам самі шукаем аўтараў, маладых і сталых, якія хацелі б выдаваць за кошт спонсараў ці за свой уласны кошт. Так мы далі “зялёнае святло” маладой пісьменніцы Наталлі Карнілавай выданнем яе па-жаночы цёплага зборніка “Па сакрэце ўсяму свету”. Другая аўтарка, Алена Дзюбайла са Смаленска, беларуска па паходжанні, свой раман “Жоўты горад, або Дзеці індыга” напісала яшчэ калі вучылася ў 11-м класе, а выдала яго ў нас. Звярнуўся да нас папулярны ў Расіі беларускі аўтар Андрэй Астравумаў з творамі пра наш час “Сляды апосталаў”, “Дудзі-Дубі-Ду”.

**— Вы адразу можаце даць адказ аўтару, што яго рукапіс прыняты да працы ў выдавецтве?**

— Так, калі з вопыту фабрыкі бачым, што кніга будзе папулярнай, адразу кажам: “Гэта мы бяром”, і не заводзім гутарку пра дадатковыя грошы. Але ў нас ёсць патрабаванне — прыносіць кнігу ў тым выглядзе, у якім хацеў бы яе бачыць сам аўтар, то бок яе гатовы арыгінал-макет з ілюстрацыямі, каб мы маглі аператыўна ацаніць, наколькі кніга можа быць запатрабаванай на рынку. Грашовыя адносіны вымушаюць дзейнічаць не па пачуцці, а па розуме.

**— Колькі часу звычайна праходзіць з моманту падачы рукапісу да яго выдання?**

— Тэрміны выдання кніг у нас бываюць незвычайна кароткія, бо рукапіс або запускаецца ў вытворчасць адразу, або вяртаецца аўтару. Ёсць яшчэ варыянт, што месяц-два мы можам падумаць, варта выдаваць гэтую кнігу ці не. А бывае, што і аўтар месяцамі не дбае пра сваю кнігу, не цікавіцца яе лёсам. Дзіўна, праўда?

**— Падзяліцеся, калі ласка, планамі на будучыню. Якія кнігі цяпер рыхтуюцца ў выдавецтве?**

— Мы амаль закончылі цыкл літаратуры па нумізматыцы, яго, дарэчы, вельмі добра сустрэлі. Ужо выйшлі кнігі Аляксандра Арлова “Манеты. Даведнік для калекцыянераў-пачаткоўцаў”, “Папяровыя грашовыя знакі ў Беларусі”, пасля — “Другая сусветная вайна. Манеты”. У планах — адлюстраваць грашовы абарот на тэрыторыі Беларусі пасля распаду СССР, мы ўжо маем рукапіс гэтай кнігі, і, магу адзначыць, што ў ёй шмат інфармацыі, якой многія сёння не валодаюць. Да прыкладу, мала хто бачыў талеры, што павінны былі ўвайсці ў абарот на тэрыторыі Беларусі.

Магчыма, выдадзім кнігу да 200-годдзя вайны 1812 года. Праўда, даведаліся, што падобны праект рыхтуецца ў “Мастацкай літаратуры”, таму пакуль адклалі гэтую ідэю. Хутка пабачыць свет праца “Гісторыя будучыні: падручнік мудрасці” — дзве глыбокія філасофскія кнігі, у якіх паказаны незвычайныя погляды на ўклад свету, космас, зямлю, чалавека, у якіх абвяргаецца тэорыя адноснасці Эйнштэйна. У серыі “Народы зямлі” рыхтуецца кніга пра жыццё яўрэяў на Беларусі. Працуем і над рарытэтнай кнігай пра развіццё зносін паміж Беларуссю і Літвой, напісанай у 1887 годзе. У ёй аналізуецца гісторыя краю з пазіцыі вучоных таго часу. Але і сёння матэрыял дае глебу для разваг.

**— Якімі выдавецкімі праектамі вы асабліва ганарыцеся?**

— Безумоўна, гэта кніга Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча “Спадчына Беларусі”. Яна мае найбольшы тыраж з усіх навукова-папулярных кніг, што мы выдавалі. Гэта быў наш самы першы вялікі поспех, падмацаваны выданнем наступнай кнігі “Скарбы Беларусі”. Асабліва прыемна, што мы з гэтымі аўтарамі знайшлі адно аднаго, і толькі ў нас яны адчулі, што такі праект можна зрабіць на вельмі высокім узроўні.

*Прэзентацыя*




## Шлях у неба праз краіну Артанію

Вольга ПАЛОМЦАВА

РВУ “Літаратура і Мастацтва” падарыла маленькім чытачам новае падарожжа ў краіну казак. На карце гэтай краіны дакладна вызначаны і шлях у неба, і таемная Артанія, і лабірынты падзямелляў, і дом цётачкі Руф, ад якой і пачула безліч цікавых гісторый пісьменніца Наталля Голубева. Цётачка Руф атрымлівае казкі ў падарунак за добрыя ўчынкі і не шкадуе іх для добрых людзей, што завіталі ў яе лясны дамок. У кнізе “Казкі цётачкі Руф” гісторыі “Пра падступную рапуху-агу Сірму, мудрую Эрму і яе сяброў”, “Нерпа — царыца ільдоў” і іншыя можна прачытаць не толькі па-руску, але і на англійскай мове. А як выглядае чароўная краіна і яе жыхары — сябры цётачкі яжыха Чыфа, зайчыха Трасіс, ліса Эка, пінгвіны, залатавалосы паж і астатнія героі — дапамогуць уявіць ілюстрацыі, зробленыя мастачкай Рытай Цімохавай.

*У падтрымку чытання*

**Дырэктар інфармацыйна-прававога агенцтва “Рэгістр” Анатоль Атнагулаў:**

## «Захапляюся краязнаўствам»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

— Не магу не прыгадаць школьную настаўніцу, якая вяла факультатыў па рускай літаратуры і прыносіла нам цікавы дадатковы матэрыял. Вучнем захапляўся прыгодніцкімі раманамі. А вось “Яўгена Анегіна” Пушкіна прачытаў у студэнцкія гады: у школе мы адставалі па праграме, а мне пашанцавала з пуцёўкай, і я паехаў у піянерлагер “Зубраня” ў лютым, а там ужо вывучалі творчасць Лермантава. Так і заставаўся “Анегін” непрачытаным, пакуль мне, студэнту апошніх курсаў, не стала сорамна.

Скончыў ВНУ, прыйшоў з арміі, да ўладкавання на працу быў вольны месяц. У гаспадыні, якая здавала мне пакой, была “Бібліятэка сусветнай літаратуры”. Тамоў 20 я прачытаў запар, і больш за ўсё мне падабаўся Шандар Пецёфі, венгерскі паэт-дэмакрат.

Апошнім часам захапіўся краязнаўствам. (Анатоль Ільбекавіч — аўтар-укладальнік кнігі “Хроніка Убарцкага Палесся”, якая ўбачыла свет у выдавецтве



“Тэхналогія” ў 2001 годзе. Пад яе вокладкай у храналагічнай паслядоўнасці змешчаны найважнейшыя факты і падзеі з гісторыі Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці. — **В. П.**) Спрабую чытаць мемуары людзей, якія маюць карані ў тых жа мясцінах, што і я, — на Палессі.

# За зачыненымі дзвярыма: архіў друку

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

**Пра ўзровень інтэлектуальнага развіцця нацыі прынята меркаваць па колькасці выданняў, што пабачылі свет у краіне. Таму пра нас, беларусаў, добра раскажа фонд архіва, што размешчаны па адрасе завулак Інструментальны, 11. Гэта Архіў друку Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Звычайна яго дзверы зачыненыя, і, каб трапіць у будынак, наведвальнік, які ўжо мае дазвол на працу з фондамі, павінен націснуць кнопку званка, але мяне на ганку ўжо чакаюць дырэктар Кніжнай палаты Алена Іванова і загадчык філіяла "Архіў друку" Святлана Цадзілка.**

## У каралеўстве кнігі

Архіў друку — трохпавярховы будынак амаль у цэнтры Мінска. І паўсюль на паліцах — кнігі, часопісы, газеты… Але не так, як у бібліятэках — выстраеныя ў радкі карэньчыкамі да чытача. Кнігі і часопісы тут змешчаныя ў спецыяльныя картонныя скрыначкі (па гадах выдання і ў адпаведнасці з інвентарным нумарам); газеты захоўваюцца ў выглядзе падшывак; плакаты, карты — у спецыяльных папках.

Мяне асабліва вабіць даўніна. Таму разам са Святланай Цімафееўнай адкрываем скрыначку № 1 даваеннага фонду. А там — кнігі Бядулі-Ясакара "На зачараваных гонях" (Мінск: "Савецкая Беларусь", 1923), "Буралом" (Мінск: "Белтрэстадрук", 1924)… З самых першых газетных падшывак — яшчэ больш даўнія "Могилёвские ведомости" (1880 — 1912), "Известия Гомельского губернского комитета" (1920), першая падшыўка "ЛіМа" за 1932 год. З першых беларускіх часопісаў — "Асвета" (1924). Дарэчы, менавіта тут упершыню быў апублікаваны бібліяграфічны спіс "Летапіс беларускага друку", што змяшчаў 92 назвы. Ёсць і асобныя нумары "Крывіча", што выдаваўся Вацлавам Ластоўскім.

## 1924 год. Пачатак

Паняцце "архіў друку" ўпершыню з'яўляецца ў 1924 годзе, калі выходзіць пастанова Саўнаркама БССР "Аб Беларускай кніжнай палаце". У ёй ёсць такая фраза: "Захаванне аднаго экзэмпляра твораў друку ў архіве Палаты". Першапачаткова Кніжная палата ўваходзіла ў структуру Беларускай дзяржаўнай і універсітэцкай бібліятэкі і да 1977 года функцыянавала як асобны яе аддзел: тут апрацоўваліся выданні, размяркоўваліся па атрымальніках, вызначаных урадам. Пры гэтым адзін экзэмпляр заставаўся ў архіве друку. Цікава адзначыць, што пастановай на Кніжную палату таксама былі ўскладзеныя абавязкі па "паднагляду непасрэдна альбо праз органы Упраўлення па справах друку судовага праследавання проці асоб, вінаватых у парушэнні паказаных правіл".

Гісторыя сучаснага будынка архіва (у завулку Інструментальным) пачалася ў маі 1977 года, калі па ініцыятыве Дзяржаўнага камітэта па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР, Беларуская кніжная палата, вылучаная з бібліятэкі як самастойная ўстанова "Дзяржаўная кніжная палата БССР", перайшла ў распараджэнне Камітэта. На яе ўскладзеныя функцыі дзяржаўнага бібліяграфічнага і статыстычнага ўліку друкаваных выданняў і фарміравання архіва друку. Крыніца камплектавання — абавязковы бясплатны экзэмпляр.

Першапачаткова частка аддзелаў Кніжнай палаты знаходзілася тут, у Інструментальным завулку, частка — на тагачасным праспекце Машэрава (цяпер праспект Пераможцаў). Тады будынак архіва быў двухпавярховым, у 1997 — 1998 гадах праведзена яго рэканструкцыя — надбудаваны трэці паверх. Акрамя асноўных фондасховішчаў, сёння ў гэтым будынку знаходзяцца паліграфічны і пераплётны ўчасткі. Ёсць і вялікае падвальнае памяшканне, дзе таксама размяшчаецца архіўны фонд — у пакоях непрыстасаваных для захоўвання дакументаў. Але пакуль што іншага выйсця няма — архіў стаў цесным для той колькасці выданняў, якія штогод выпускаюцца ў Беларусі — гэта каля 80 тысяч адзінак.



## Дапамога навукоўцу і следчаму

У фондах архіва — усе беларускія выданні — кнігі, часопісы, буклеты, афішы, лістоўкі, карты, паштоўкі, выданні шрыфтам Брайля. Аднак бібліяграфічную апрацоўку праходзяць не ўсе. Да прыкладу, у статыстыцы лічыцца кожны экзэмпляр газеты, але рэгістрацыйна-бібліяграфічнай адзінкай з'яўляецца толькі гадавая падшыўка.

Усяго архіў налічвае каля 4 мільёнаў адзінак захоўвання. З іх кніг — 300 тысяч. Цяпер тут ажыццяўляецца важны праект — зверка фонду з інвентарнымі кнігамі, летапісамі, картатэкамі. Ужо прайшла інвентарызацыя кніжнага фонду 1923 — 1957 гадоў — гэта 20 814 адзінак. Выяўлена, што адсутнічае каля аднаго працэнта кніг, палова з якіх у свой час была перададзеная ў "спецхран" — сістэму, што існавала ў часы СССР. У гады Вялікай Айчыннай амаль увесь архіўны фонд 1917 — 1940 гг. быў страчаны. Да сённяшняга дня ідзе яго ўзнаўленне. Ужо дакамплектавана каля 13 500 выданняў, але калі кнігі яшчэ можна нейкім чынам узнавіць, то перыядычны друк страчаны незваротна.

— Тыя, хто ніколі не сутыкаўся з Кніжнай палатай, лічаць, што Архіў друку — вялікая бібліятэка, — распавядае дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова. — Але розніца ёсць: бібліятэка ў асноўным абслугоўвае чытача. Захаваць асобнік, што ўвесь час у працы, вельмі складана. Наша ж мэта — пакінуць для нашчадкаў не толькі інфармацыю, змешчаную ў выданні, але і яе матэрыяльнае ўвасабленне — у кнізе, газеце, часопісе. Не ўсе ахвотныя могуць трапіць у гэты архіў, бо кожны зварот да кнігі — шкодны для самога асобніка. Мы дазваляем навукоўцам, аспірантам карыстацца фондам для правядзення даследавання. Звяртаюцца і з мэтай перавыдання кнігі ці іншай друкаванай прадукцыі. Але часцей за ўсё выконваем запыты без непасрэднага звароту да фондаў — праз базы дадзеных, каталогі. Часта да нас звяртаюцца і дзяржаўныя, і праваахоўныя органы, аднойчы мы нават дапамагалі ў вядзенні крымінальнай справы: на месцы забойства знайшлі кавалачак газеты. Для следства шукалі цэлы асобнік, давалі інфармацыю пра тое, калі выйшла газета і дзе яна распаўсюджваецца.

## Балючая кропка архіва

Як і ўсе архівы і бібліятэкі, архіў друку сутыкнуўся з праблемай недахопу плошчаў. Пытанне ўжо ўздымалася на калегіі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ў 2007 годзе. І сёння трэба шукаць магчымасці змены сітуацыі, што склалася. Першы крок у гэтым кірунку ўжо зроблены — у Дзяржаўную праграму інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011 — 2015 гг. уключаны праект, што мае назву "Рэканструкцыя архіва друку Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі з мадэрнізацыяй матэрыяльна-тэхнічнай базы на аснове сучасных камп'ютарных і тэлекамунікацыйных тэхналогій і абсталявання".

— Пакуль цяжка сказаць, што атрымаецца ў выніку ажыццяўлення дзяржаўнай праграмы — усё залежыць ад фінансавання. Мы хацелі б атрымаць новы будынак, правесці рэканструкцыю і таго, што маем, — тлумачыць Алена Вітальеўна. — Запланавана павелічэнне архіўных плошчаў на 2000 квадратных метраў. Гэта дазволіла б на прагу яшчэ 50 год, пры ўмове захавання тэмпу выдавецкай дзейнасці ў краіне, размясціць яшчэ 4 мільёны адзінак друкаванай прадукцыі.

Праект інавацыйны, таму яго мэтай з'яўляецца не толькі будова, але і шырокі спектр мадэрнізацыі тэхналагічных сістэм і абсталявання архіва. Напрыклад, стацыянарныя стэлажы плануецца замяніць на мабільныя, што дазваляе эканоміць да 70 працэнтаў плошчы. Таксама ў планах — стварэнне страхавой копіі архіва на альтэрнатыўных носьбітах, распрацоўка адпаведнага праграмнага забеспячэння.

Асабліва хочацца падкрэсліць, што архіў друкаваных выданняў — гэта сапраўды наша нацыянальная спадчына, "кніжная памяць" Беларусі. Можа, не так хутка, але ўпэўнена Беларусь рухаецца ў інфармацыйнае грамадства: у краіне распрацавана Стратэгія развіцця інфармацыйнага грамадства. Усё менш месца ў гэтай віртуальнай прасторы адводзіцца паперы і традыцыйнай кнізе ў прыватнасці. Напрыклад, французскі футуролаг Ж.К. Кар'ер яшчэ ў 2008 годзе прадказаў, што праз 15 год друкаваная кніга знікне зусім. Напэўна, у будучыні яна стане элітарным і вельмі дарагім таварам. Таму захаванне гэтага багацця для нашчадкаў — наша агульная справа і наш святы абавязак.

***На здымку: вядучы бібліёграф Архіва друку Таццяна Падгайная гартае падшыўку "Звязды" за 1925 год.***

---

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● Да 15 жніўня ў зале беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць выстаўка "Сталасць даследчыцай думкі", прысвечаная 75-годдзю літаратуразнаўца, крытыка, тэкстолага, перакладчыка Вячаслава Чамярыцкага. На выстаўцы прадстаўленыя яго асноўныя даследаванні, калектыўныя работы, пераклады, выкананыя Вячаславам Антонавічам, а таксама публікацыі іншых аўтараў, што распавядаюць пра жыццё і дзейнасць даследчыка.

▬ Упершыню па-беларуску выйшла кніга перакладаў твораў Эдгара Алана По. Зборнік "Маска чырвонае смерці" пабачыў свет у выдавецтве "Кнігазбор". У кнігу ўвайшлі 24 апавяданні, паэма "Тамерлан", больш як палова ўсіх вершаў аўтара (некаторыя ў двух варыянтах перакладу) і два найбольш знакамітыя эсэ — "Філасофія кампазіцыі" і "Паэтычны прынцып". Над кнігай працавалі 19 перакладчыкаў, у якасці яго ўкладальніка выступіў Андрэй Хадановіч, аўтар прадмовы — кандыдат філалагічных навук Нарынэ Шахназаран. Большасць перакладаў, што ўвайшлі ў том, рабіліся спецыяльна для гэтага выдання, якое ўключае каментарыі да тэксту.

● Анансаваны новы расійскі выдавецкі праект "Умляўт". Слова для назвы выбрана не выпадкова. "Умляўт" — вынік трансмутацыі важнейшых імёнаў з рамантычнай традыцыі, якая цягнецца да гэтага часу: "Ліліт", "ілюмінаты", "Улялюм". Новы праект створаны з мэтай сур'ёзнага вывучэння і публікацыі мадэрніcцкіх тэкстаў і бачанняў мінулага і сучаснасці, якія да гэтага часу не асвоеныя расійскім кнігавыданнем. Выхад першай кнігі выдавецтва запланаваны на восень.

▬ У Празе прайшоў шосты Сусветны кангрэс Шэкспіра. На мерапрыемства з'ехаліся каля 600 літаратараў, тэатразнаўцаў, гісторыкаў. Кангрэс з назвай "Рэнесанс Шэкспіра: Шэкспір Рэнесанса" праходзіў пад эгідай прэзідэнта Чэхіі Вацлава Клаўса. Фестываль у Празе прапанаваў гледачам п'есы драматурга ў сапраўдных гістарычных умовах, у інтэр'еры самых прыгожых чэшскіх і славацкіх замкаў.

● Лаўрэатам Шукшынскай літаратурнай прэміі 2011 года стаў курскі пісьменнік Міхаіл Яськоў. Яна прысуджана яму за зборнік аповесцей і апавяданняў "Дзень, які адышоў". У гэтым годзе на суісканне прэміі прэтэндавалі 12 аўтараў з розных гарадоў і рэгіёнаў Расіі. Узнагарода была ўручана на гары Пікет, падчас мастацка-публіцыстычнай праграмы "З вышыні Шукшынскага Пікета".

▬ Рукапіс рамана "Уотсаны" (*The Watsons*) англійскай пісьменніцы Джэйн Осцін прададзены на аўкцыёне ў Лондане за 993 тысячы 250 фунтаў (1,6 млн долараў). Паводле дадзеных аўкцыённага дома, рукапіс набыў прыватны калекцыянер, які пажадаў застацца невядомым. Мяркуюць, што Осцін напісала некалькі раздзелаў рамана ў 1804 годзе. Рукапіс вельмі важны, бо многія раннія працы Осцін не захаваліся да нашых дзён. Ён налічвае 68 старонак, спісаных дробным почыркам. Раман завершаны толькі на чвэрць, аднак нават такі аб'ём дазволіў крытыку Маргарэт Драбл заключыць, што гэта "хвалюючы і цудоўны" твор.

# Судьба, проспект, история

Юзефа ВОЛК,
Ольга ПОЛОМЦЕВА

**В прошлом выпуске "Кніжнага свету" мы знакомили читателей с книгами Михаила Веллера. Но, согласитесь, чтобы рассказать о произведениях автора такого уровня популярности, одной газетной полосы мало. Тем более, что мы сами очарованы Веллером, да и ООО "Харвест" на белорусском рынке представляет широкий ассортимент книг писателя. Поэтому сегодня мы продолжаем рассказ о произведениях Михаила Иосифовича.**
















## Последний из викингов

У Михаила Веллера отлично получается работать не только в жанре рассказа, имеющего глубокую философскую основу, но и в жанре исторического боевика. Доказательство тому — кинороман **"Жестокий"**, давший название сборнику повестей.

"Середина XI века — конец эпохи викингов. "Веер викингов" накрыл всю Северную Европу, Испанию, Италию, Византию, Русь, Каспий. Лучшие бойцы мира — они жили мечом и сдавали его внаём", — так описывает Веллер историческую обстановку, в которой происходит действие повести. Её главный герой — Харальд Хардероде (реальная историческая личность Харальд Хардрада, Гарольд Суровый). И он на самом деле суров — духом и телом. Всю жизнь мстит за смерть своего отца, норвежского конунга (князя), находится на службе у Рогера Сицилийского, Ярослава Мудрого, хитростью, силой и умом завоёвывает города и земли, покоряет неприступные замки. В его жизни есть измена (Зои Великой, императрицы Византийской), любовь, женитьба на Элисив (Елизавете), дочери Ярослава Мудрого. Возвращение на трон, 20-летнее правление на родине, в Норвегии, и смерть от стрелы неизвестного воина в Англии в 1066 году. Последними словами Хардероде были: "Передайте человеку, что сделал эту стрелу, — он хорошо знает своё дело..." После смерти Харальда закончилась эпоха набегов и бесконечных побед викингов.

Смог ли Веллер всё это отобразить в романе? Да, смог. Викинги — жестоки и немногословны, беспощадно убивают и собирают добычу. Сам Харальд — мудрый, смелый, но в то же время романтичный, он, как скальд, слагает висы (песни), играет на гуслях, подолгу, "медитируя", смотрит в небо. Вроде бы всё хорошо, но некоторые эпизоды слишком пафосны, диалоги — прямолинейны, в убийствах и нападениях нет элемента неожиданности. Да и такая деталь, как амулет — белый жребий, вытащенный Харальдом ещё в молодости, и, конечно, его случайная потеря перед смертью, выглядит слишком уж банально. Но, с учётом того, что повесть написана в жанре боевика, всё становится на свои места — и пафосно-романтичные сцены, и амулет… Тем более, что и актёра для исполнения роли главного героя романа писатель выбрал сам. Как? В посвящении Веллер написал: "Дольфу Лундгрену, родившемуся на свет, чтобы исполнить эту роль". Хотя, мне кажется, он не очень-то и похож на Харальда.

И ещё: обратите внимание на обложку книги. Это я так, ради установления исторической логики в образе "на обложке". Сильный воин? — Да! Красный плащ и шлем в русском стиле? — Да, в соответствии с сюжетом. Тяжёлые стальные доспехи, полностью покрывающие тело воина? — Ни в коем случае! Так мог быть вооружён европейский воин в XV веке, то есть, через четыре столетия после смерти Хардероде.

В сборник "Жестокий" вошли также пьеса "Ничего не происходит", повести "О дикий запад!", "Москва бьёт с носка" (русский роман в форс-мажоре).

## Легендарное издание о легендарном проспекте

"Сначала появились стиляги. Сначала — в очень небольшом количестве.

Пиджаки они носили короткие, а брюки — легендарно узкие. Рубашки — пёстрые, а туфли — на толстой подошве. И стриглись под французскую польку, оставляя впереди кок; а лучших мужских парикмахерских было две: одна — в "Астории", а другая — на Желябова, рядом с Невским", — так начинается одна из частей российского национального бестселлера **"Легенды Невского проспекта"**.

Это сборник замечательных и неожиданных по повороту сюжета юмористических рассказов о нелёгких трудовых буднях представителей разных профессий и социальных слоёв — военных, фарцовщиков и просто обыкновенных граждан. Герои попадают в дикие ситуации, комичность которых — комичность нашей жизни. Если болит голова, или нет денег, или опускаются руки от неурядиц, если хочется отвлечься от тяжелой повседневности — эта книга для отдыха и хорошего настроения. В чём причина её успеха? Видимо, в лёгкости, ироничности. Ничего чёрного, мрачного, никакой крови, преступлений, государственных афёр. Сальвадор Дали издевается над Арамом Хачатуряном, профессор-историк падает в рыцарском доспехе, и его ловят сторожа. И всё это выглядит правдой, но невероятно смешной.

## Путеводитель по Веллеру

В книге "Баллада о бомбере" читатель найдёт "Путеводитель по Веллеру", согласно которому можно выбрать из произведений писателя роман для хорошего настроения, для ума, для знания… (Для хулиганства, например, рекомендуется "Забытая погремушка"). Для поддержки духа — "Приключения майора Звягина". А ещё летние путешествия скрасят удобного формата сборники "А вот те шиш", "Кавалерийский марш", "Игра в императора". Неистощимый на выдумку автор блеснёт перед вами во всех жанрах — от рассказа до киносценария, порассуждает при этом о высоких и низких жанрах литературы, критериях её оценки и героях.

Итак, поговорим о героях. Ведь призвание литературы — создание таких образов, черты которых хочется у себя воспитывать, развивать и проявлять в подходящих ситуациях. В прозе Михаила Иосифовича примеров предостаточно. Взять хотя бы встреченных автором участников Второй мировой войны, которым посвящена **"Баллада о бомбере"**, вошедшая в одноименный сборник повестей и в книгу **"Кавалерийский марш"**.

Или раскроем книгу **"Игра в императора"**. Не знаю, как вы, читатель, а я влюбилась в героя с первого взгляда — безусловно и безоговорочно. Судите сами — в прошлом кадровый офицер, десантник, мужественный, зеленоглазый, со шрамиком на волевом подбородке, обладатель роскошного баритона и аналитического ума. Майор Звягин работает врачом "Скорой помощи", не превращает свои лёгкие в фильтр для табака, а печень — в фильтр для алкоголя. Он пьёт молоко из холодильника через соломинку и мурлыкает "Турецкий марш". Женат, имеет сына и дочь. И хобби — любую встреченную им судьбу он волен переписать по собственному сценарию. При этом, заметьте, ничего личного. Тот самый пресловутый dues ex mahina — совершенно бесстрастен. Ставит цель, продумывает средства, действует. Сердце читателя вздрагивает и замирает, и бьётся с утроенной силой. Мозг не успевает со шкалой "хорошо-плохо".

Дочь и жена возмущённо обсуждают статью в газете о подлеце, который скрылся от возмездия и в роли персонального пенсионера благоденствует. "Я бы его убила!" — кричит дочь. Звягин реализует её желание, тщательно спланировав каждый шаг. Не успеет читатель, совершенно согласный с дочерью, осмыслить случившееся, автор уже втягивает его в следующую историю. Семью майора изводит соседка-старушка. Изводит методически и целенаправленно. Жена готова на обмен хорошей квартиры… Настороженный читатель с опаской представляет развязку а-ля Раскольников. Не тут-то было! Майор, провернув многоходовую комбинацию, делает блокадницу-соседку счастливой. Ложь во спасение, проработанная в духе шпионских операций, помогает ей обрести потерянного в годы войны сына. Конечно же, это не её сын, а мальчик с такой же искалеченной судьбой, но разве оно того не стоило?!

Задачи, которые он ставит перед собой, практически неразрешимы: посудите сами, можно ли сделать баловня судьбы и героя из конченого неудачника Анатолия Епишко, почти героя анекдота, над которым потешаются прохожие. Или телеведущую из безвкусно одетой кривоногой Клары с кривыми зубами, огромным носом и отвратительным голосом. Или нормального человека из алкоголика Анучина. А заставить обычного погасшего к сорока годам Володю почувствовать второе дыхание, бросить всё и уехать в Нью-Йорк? Откройте начало и конец каждой истории. Скажите, опираясь на свой жизненный опыт: "Это невозможно". Прочтите текст, пройдите по чужой судьбе вместе со Звягиным. И вы поймёте — ничего невозможного нет.

## Не прошло и полвека

Вообще-то настоящим погремушкам, да и другим детским забавам, везёт куда меньше. Найти через 25 лет игрушки своего раннего детства где-нибудь в коробке на бабушкином чердаке практически нереально. С рукописями всё намного сложнее. Предупреждал же Булгаков: "Рукописи не горят!" Вот первый литературный опыт М. Веллера нашёлся…

Ах, пионерия! Красный галстук, пилотка, строгая вожатая в мешковатом костюме, за столом с красной скатертью ветераны при медалях, а на переднем плане, естественно, девушка с веслом. Такое фото украшает обложку этой книги. Рядом — почти слёзное: "автор просит не покупать эту книжку, грехи юности, издали в обход авторского права, стёб для внутреннего пользования"…

У книги **Михаила Веллера "Забытая погремушка"**, если верить предисловию от издателя, интересная история. Однажды в редакцию пришла папка цвета "вырви глаз" с ботиночными тесёмками, за ней вторая, потом третья. Первая была датирована 30 января 1978 года. Печатать это было, сами понимаете, совершенно невозможно. "Буйная фривольность текстов выходила за все рамки допустимого", – пишет издатель. Впрочем, отмечает, что оторваться и не хохотать тоже невозможно. Доморощенный "Декамерон" нашёлся случайно в архиве редакции при очередном переезде, и на этот раз фамилия Веллер на канареечных папках была известна всем. Ну а сегодня… Да ничего особенного, видали мы много разного. Всё-таки четверть века прошло.

**Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 29.**

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «РИА-Натали», ООО | 220141, г. Минск, ул. Купревича, д. 7, к. 328 | 190598132 | 0131898 выд. 3.01.2007 №1 | 8, 9 | 3.01.2012 |
| «Свободный стиль», ТП ЧУП | 220039, г. Минск, ул. Чкалова, 12, к. 416 | 690026009 | 0131899 выд. 3.01.2007 №1 | 9 | 3.01.2012 |
| «Высший государственный колледж связи», УО | 220114, г. Минск, ул. Ф. Скорины, 8/2 | 100211963 | 0131902 выд. 3.01.2007 №1 | 2, 6, 8 | 3.01.2012 |
| «БиРинг», ТП УП | 220002, г. Минск, ул. Коммунистическая, 17-7 | | | 8, 9 | |
| «Национальный центр интеллектуальной собственности», ГУ | 220034, г. Минск, ул. Козлова, 20 | 190310695 | 0131906 выд. 3.01.2007 №1 | 1, 3, 4, 8, 9 | 3.01.2012 |
| «Форт Принт», ООО | 220040, г. Минск, ул. М. Богдановича, 155-9-2 | 190712804 | 0131904 выд. 3.01.2007 №1 | 8, 9 | 8.02.2012 |
| Информационно-аналитический центр при Администрации Президента Республики Беларусь | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 7 | 102314393 | 0131908 выд. 8.02.2007 №24 | 2, 3, 4, 8 | 8.02.2012 |
| «Объединенный институт машиностроения Национальной академии наук Беларуси» | 220072, г. Минск, ул. Академическая, 12, к. 210 | 190410065 | 0131910 выд. 8.02.2007 №24 | 2, 4, 8 | 8.02.2012 |
| «Институт переподготовки и повышения квалификации Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь», УО | 222131, Минская обл. Борисовский район, пос. Светлая Роща | 600398296 | 0131909 ан. 08.01.09 | 4, 6, 8 | |
| «Свято-Успенский Жировичский ставропигиальный мужской монастырь д. Жировичи Слонимского района Гродненской области Белорусской Православной Церкви», религ. организация | 231822, Гродненская обл. Слонимский район, п. Жировичи, ул. Соборная, 57 | 500009676 | 0150223 выд. 8.02.2007 №24 | 8, 12 | 8.02.2012 |
| «Могилевский государственный университет продовольствия», УО | 212027, г. Могилев, пр. Шмидта, 3 | 700036606 | 0131913 выд. 8.02.2007 №24 | 3, 4, 8 | 8.02.2012 |
| «Водолея», ООО | 220050, ул. К. Либкнехта, 45–10 | 190615984 | 0131911 выд. 8.02.2007 №24 | 8, 9 | 8.02.2012 |
| «Нить Ариадны», рекламно-произв. ЧУП | 220030, г. Минск, пр. Независимости, д. 23, к. 1 | 100706973 | 0131914 выд. 8.02.2007 №24 | 8, 9 | 8.02.2012 |
| «Редакция ордена Красной Звезды газеты «Белорусская военная газета. Во славу Родины», ГУ | 220034, г. Минск (Ф-2), ул. Фрунзе, 19 | 100262333 | 0131917 ан. 14.04.2010 № 51 | 8, 10 | |
| «Ольнита», ремонтно-строит. ЧУП | 220114, г. Минск, пр. Независимости, 157, оф. 212а, к. 8 | 101175946 | 0131921 выд. 12.03.2007 №41 | | 12.03.2012 |
| «Белорусский союз музыкальных деятелей». ОО | 220030, г. Минск, ул. Я. Купалы, 17/30 | 102305079 | 0131924 выд. 12.03.2007 №41 | 8, 9 | 12.03.2012 |
| «Белэлектро-М», ПТ ЧУП | 220033, г. Минск, пр. Партизанский, 2 (литер В 5/кп), к. 502 | 190080025 | 0131925 выд. 12.03.2007 №41 | 4, 8, 9 | 12.03.2012 |
| «Информационные современные технологии 2000», НП ЧУП | 220025, г. Минск, ул. Слободская, 128, к. 2 | 190565112 | 0131932 выд. 10.04.2007 №59 | 4, 8 | 10.04.2012 |
| «Издательский дом «РеалПресс», ООО | 220108, г. Минск, ул. Казинца, д. 90, корп. 3, ком. 42 | 101555454 | 0131933 ан 11.10.2010 № 164 | 8 | |
| «Издательство «Адукацыя і выхаванне», РУП | 220070, г. Минск, ул. Буденного, д. 21 | 100626241 | 0552540 выд. 10.04.2007 №59 | 2, 3, 6, 8 | 10.04.2012 |
| «Сестричество в честь Святого апостола Иоанна Богослова в г. Новогрудке Новогрудской епархии Белорусской Православной Церкви», РО | 231400, г. Новогрудок, ул. Гродненская, 6 | 500593919 | 0150225 выд. 10.04.2007 №59 | 3, 10, 12 | 10.04.2012 |
| «Пара Ла Оро», научно-консульт. ЧУП | 220024, г. Минск, ул. Захарова, д. 40, к. 11 | 190615070 | 0150117 выд. 10.04.2007 №59 | 3, 6, 8, 9 | 10.04.2012 |
| «Нью Алан», рекламно-производ. ЧУП | 220074, г. Минск, ул. Одоевского, д. 73, кв. 62 | 190735743 | 0131938 выд. 10.04.2007 №59 | 8 | 10.04.2012 |
| Ряднова А.А., ИП | 220075, г. Минск, ул. Ротмистрова, д. 34, кв. 56 | 190739989 | 0131939 ан. 09.07.2009 №78 | 3, 9 | |
| «Рекламно-информационное агентство «Вечерний Брест», ООО | 224005, г. Брест, ул. Ленина, д. 22, оф. 43 | 200566913 | 0552971 выд. 7.05.2007 №79 | 8 | 7.05.2012 |
| Игнаток В.В., ИП | 211389, г. Орша, ул. Могилевская, д.85 | 390444773 | 0131947 выд. 7.05.2007 №79 | 8, 9 | 7.05.2012 |
| Местный Литературный Фонд | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 11, комн. 1108 | 194900297 | 0131944 ан 25.03.10 №37 | 2, 6, 9, 10 | |
| «Институт мелиорации», научное дочернее РУП | 220040, г. Минск, ул. М. Богдановича, 153, к. 406 | 100363825 | 0131953 выд. 25.05.2007 | 2, 3, 4, 8 | 25.05.2012 |
| «Четвертый Рим», ООО | 220113, г. Минск, ул. Восточная, 133, к. 302, 303 | 100932203 | 0131974 выд. 7.07.2007 №108 | 9 | 7.07.2012 |
| Михайлов М.И. | 213404, г. Горки, ул. Якубовского, 11-36 | 790333882 | 0131976 выд. 7.07.2007 №108 | 2, 3 | 7.07.2012 |
| «МАЭН», автономное отделение международной ОО | 220070, г. Минск, ул. Радиальная, 11А-9 | 102304468 | 0131977 выд. 7.07.2007 №108 | 2, 3, 8 | 7.07.2012 |
| «Неон-икс», ООО | 223044, Минский район, д. Касынь, ООО «Белинтертранс», контора, к. 7 | 690602227 | 0131972 выд. 7.07.2007 №108 | 8, 9 | 7.07.2012 |
| «Энергетическая стратегия», НП РУП | 220029, г. Минск, ул. Киселева, 22, к. 1, 2 | 190415360 | 0131978 ан. 08.04.2009 №39 | 2, 4, 8 | |
| «Дизайн-студия В-52», ООО | 220030, г. Минск, ул. Кирова, 19, п. 6, к. 5 | 190759796 | 0131979 выд. 7.07.2007 №108 | 8 | 7.07.2012 |
| «АРС-Идея», ПЧУП | 220026, г. Минск, пр. Партизанский, д.56, к. 2, к. 1а | 190790701 | 0131982 выд. 7.07.2007 №108 | 3, 4, 8, 9 | 7.07.2012 |
| «Редакция газеты «Толока», ЗАО | 212030, г. Могилев, ул. Первомайская, 42 | 700007727 | 0131984 выд. 7.07.2007 №108 | 8, 9 | 7.07.2012 |
| «ПОСТ», ПЧУП | 211840, г. Поставы, ул. Вокзальная, д. 41, к. 1 | 390023373 | 0131986 выд. 7.07.2007 №108 | 3, 8, 9 | 7.07.2012 |
| Белорусская торгово-промышленная палата | 220029, г. Минск, ул. Коммунистическая, 11 | 100116880 | 0131989 выд. 7.07.2007 №108 | 8 | 7.07.2012 |
| Прищепова Т.И., ИП | 220028, г. Минск, ул. Роменская, д. 16, кв. 1 | 190829423 | 0131991 ан.09.10.2008 №122 | | |
| «Полесский государственный университет», УО | 225710, г. Пинск, ул. Днепровской флотилии, 23 | 290473286 | 0131992 выд. 7.07.2007 №108 | 2, 3, 4, 6, 8 | 7.07.2012 |
| «ДИОН-Телесервис», ООО | 212030, г. Могилев, . Тимирязевская, д. 11, к. 901 | 790158805 | 0131993 выд. 7.07.2007 №108 | 8 | 7.07.2012 |
| «Научно-исследовательский институт физической культуры и спорта Республики Беларусь», ГУ | 220020, г. Минск, пр. Победителей, 105 | 101122989 | 0131994 выд. 7.07.2007 №108 | 2 | 7.07.2012 |
| «Эльсагра», торгово-изд. УП | 220000, г. Минск, ул. Лобанка, д. 13, корп. 1, кв. 434 | 190533908 | 0131995 выд. 7.07.2007 №108. | | 7.07.2012 |

# Шэрыя гусі



Мікола Мятліцкі

Жонка на Каляды прыдбала фаршыраванага гуся. Аздоблены рознымі кулінарнымі выкрутасамі — ружамі з рэзанай стужкамі морквы, белымі лілеямі з распатрашанага радысу, уквечаны зяленівам пятрушкі і сузор'ямі калінавых гронак, гусь ляжаў на шыкоўным беласнежным падносе, ужо загадзя пакроены на кавалачкі невядомым майстрам кулінарнае справы, запаўняючы кухню пахам і звабнаю смакатой. І сапраўды, шэдэўр кулінарнага майстэрства пераўзыходзіў усе пажаданні — кавалак за кавалкам быў хутка расцяганы сямейнікамі і з'едзены з непрыхаваным апетытам. За паўдня на падносе засталася ўсяго сумная горка костак. Глянуўшы на яе, пачуў, як сціснулася сэрца. Не супакоілі пачутага хвалявання і белізна снягоў за акном, і зеленаверхія сосны ляска — пружыстай хваляй неслася з далечы даўно прызабытае.

У вёсачцы, хаты якой цягліся ланцужком уздоўж балаціны, многія трымалі гусей. Догляду небагата — выпхнуў з двара крыклівую пярэстую чараду, і яна ўжо купаецца-плавае сярод плюшніку, скубе зялёны мурог на прыбалотным поплаве, разнатраўе на тарфяных астравах і на ўзбярэжжы. А ты, шчаслівы і самазадаволены малы, назіркам сачы з агароду ці саду, каб вечарам дабавіць яе назад на падворак.

У гусіных пастухах хадзілі ўсе суседскія хлапчукі, адмыслова, спрактыкавана пастрэльваючы хвацка закручанымі пужкамі. Двое Біранавых хлапцоў, мае пагодкі, Коля і Васіль, Шопнікавы Саша, Валодзя і Лёня, яшчэ тры Васілі — Раменнага, Брагідаў і Якубаў.

Як і ў людзей: малыя гусяняты — малыя і клопаты. Чацвёра старых гусей, іх матак, ці то на вадзе, ці то на беразе, марудліва, з асцярогай, трымаючы напагатове чырвоныя кусастыя дзюбы, суправаджалі зялёных маленькіх няўклюд-гусянят. Вакол кругамі хадзіў растапыраны, заўсёды гатовы для любога адпору гусак, пасыкваючы на суседскія чароды ды на чужых пастухоў.

І колькі было занятку замурзаным пастухам па звонкагалосых чэрвеньскіх раніцах! Мы гойсалі паўсюд — лавілі пузатых карасёў у тарфяных раскопах, карчавалі цэлыя снапы пахкага маладога плюшнікуаеру, не вылазілі з даўняе панскае канавы, дзе густа перапляталіся ліяны драпкага ажынніку. Былі ў вечным пошуку новых і новых прыгод, чынячы немалую шкоду вясковым садам, градам, калгаснаму далекаватаму полю з першымі зялёнымі яшчэ пуставатымі гарохавымі стручкамі. А блізкі хвойнік, што ад балаціны наўскос, паўставаў таемнай прывабай за крайнімі вясковымі хатамі, сцінаўся гулкім нашым галасам аж да вечароў і ўжо, калі рушылі каровы з пашы, заміраў нейк раптоўна пад назіркам позніх дробненькіх зорак.

Хвойнік гэты быў не лясніцкі, а калгасны. Ён толькі вонкава, з аддалення, выдаваў вабназялёным масівам. А пройдзеш некалькі метраў углыб, за некранутыя сякерамі разлапістыя хваіны, і вачам адкрыецца жахотлівая расцярэба: пні ды збуцвелыя лаўжы, маладзенькі падрост бярозавага самасею ды раздзёртае гусеніцамі трактароў верасовішча. Тут дазволена было секчы ўсім без разбору. Без усялякіх дакументаў на тое і без аплаты. Вязанкамі адсюль насілі на плячах сушняк старыя нямоглыя бабулі, пазней ужо, больш жвавыя і дабітныя дзяцюкі, тралявалі не сухастой, а свежы павал, цэлымі вазамі. А вось ужо і да трактароў дайшло: Іван Рыжкоў як ні штовечар валачэ на сваім ДТ-54 ахопленыя тросам камлюкі то на Талашова, то на Кокурава селішча.

І мы — гусіныя пастухі, — дружным хаўрусам гойсаючы па расцярэбіне, разумеючы, што хутка не застанецца ніводнае ладнае хвоі, спахопліва і апантана заняліся рэалізацыяй нашага даўняга агульнага жадання: будаўніцтвам прыдатнай для схову ад залеўных дажджоў зямлянкі. І цяпер штодня на плячах, стаўшы шчыльна ў строй, паперамена змяняючы адзін аднаго, як руплівыя мурашы, неслі на аколіцу да ўжо вырытай яміны сукаватыя камлюкі — матэрыял для будучых бэлек.

Дык дзе ж там было часцяком да гусей? Яны дабаўляліся самі на селішча вядомымі толькі ім адным сцежкамі: то праз калгасны палетак, то з другога боку вёскі, з Малое Пелі, то як не з-пад саміх вокнаў калгаснай канторы…

Гусяняты неўпрыкмет падрасталі — падрастала і сама колькасць гусіных спакус. Не паспееш загнаць чараду на балаціну, сесці паснедаць, як адно згаварыўшыся, па чарзе ўлятаюць у хату гарластыя суседкі Якубіха і Біраніха: — "Гусі ў гародзе! Сядзяць от, ласуюцца!" І матка, угневаная паведамленнем, хапаецца адразу ж за папругу, а ты стрымгалоў, па ранішняй золкай расе ляціш на ўвесь дух ратаваць суседскія агароды ад нязванай патравы. Гусі паводзяць сябе гэтак нахабна, неслухмяна, не хочучы зусім выбірацца з маладога бульбоўніку, што ты і сам ужо шалееш не меней за раз'юшаных баб, што пасыпаюць тваё няўклюднае старанне адборнымі мацюкамі з падворку, ганяешся за гусямі, чыніш бульбоўніку куды большай бяды за гусіную. У ім застаюцца цэлыя сцежкі-разоры.

— Ну от ліха мінула! — уздыхаеш з палёгкай, калі гусіная чарада зноўку замірае на раздольным балотным плёсе.

Ужо не спяшаешся дадому — цікуеш з прыбярэжжа, стрыжэш вачамі, быццам шукаеш заваб для дзённых гульняў, бо вось-вось збяруцца тут, на аколіцы, паўсонныя твае хаўруснікі.

І ўсё гэта было б паўбяды. Ну, падумаеш, гусі ў суседскі агарод ублыталіся. Ты счакаеш моманту не менш гучнае помсты: біранава рабая свіння, швэндаючы днямі па вуліцы, так і наравіць знайсці дзірку ў плоце ды ўбіцца ў чый агарод. А Якубішына карова, пра якую гавораць, што гэткая гуляшчая, як і сама гаспадыня, варочаецца не з чарадой вуліцай, а пазаагароддзю, добра нацягаўшыся па калгасных палях. Аднарогая шэльміна (другі рог зламаны, асобная гаворка) заўсёды ўваб'ецца ў чый-небудзь суседскі гарод. І вось ужо ты, поўны непакойлівага справядлівага гневу, падлятаеш да вечна занятай маткі: — "Унь палюбуйся!" І тая, выпускаючы з рук анучыну, ляціць ужо да суседзяў, быццам толькі й чакала падобнай нагоды.

Шумныя налёты завяршаюцца вечна адным. Матка ці то з Біраніхай, ці то з Якубіхай выбаўляюцца нарэшце з хат лепшымі сяброўкамі, так прачула-задаўга яшчэ размаўляюць на вуліцы, пытаючыся, што каму пазычыць, што ты і праўда пачынаеш верыць — свет гэты Божы з аднаго хараства твораны.

— У мяне ж шчэ сала як не кубел. Дам кусок.

— Да свайго поўна. От, цётка, карасёў мой налавіў, хадземце, насмажыла…

Гэта з Якубіхай.

А з Біраніхай:

— Мёд выбіраць будзе — пазаву!

— Аге ж, Ганна! Ад леташняга яшчэ не адышла!

Гэта матка пра тое, як летась, выбраўшы мёд, Іван Біран, сусед, паклікаўшы ўсіх нас на "свята пчалы", так разышоўся пасля ў сваім дурным хмелю, што Ганна, бедная, ледзьве ўцёкшы ад п'яных дуракаватых выхадак раз'юшанага мужа, пераседзела ноч у нашым хляве. Яе раз'ятраны Біран шукаў паўсюд. Некалькі разоў уступаўся і ў нашу хату. Нават і ў калодзежны зруб зазірнуў: — "Мо дзе ведзьміна ўжэ ўтапілася!"

Госпадзі! Раніцай, працвяразелы, зусім другі чалавек. Клянецца-божыцца, што нічога не памятае. Нават аднаго разу запусціўшы ў майго сябрука, уласнага сына Колю, сякеру наўздагон і параніўшы яму руку — не памятае! Во ўжо хмель-буян чалавечы!

Бядой жа сапраўднай было тое, як нарываўся на патраву аднавокі Хіляк, брыгадзір калгасны. Аднавокі сыч, калі гэта былі, скажам, гусі, якія ўблыталіся ў авёс, ганяў-таптаў іх матацыклам да ўморы. Калі каровы — гнаў іх да нядбайлівых гаспадароў, распякаў іх так гучна-сярдзіта, што трэслася вёска. Адно калі патрапляла ў патраву Баварышына карова, яго матацыклет падоўгу застойваўся каля хаты злоснай на ўвесь белы свет маладзіцы, саламянае ўдавы, і тая, показна выхваляючыся перад суседзямі, праводзіла за перакошаную браму Хіляка, дапамагала п'янаму ўздзёрці нагу — пасадзіць на матацыклета.

— От ты ўжэ, Хвядора, і пастаралася! — пакепвалі суседзі.

— Вам што, маёй м… шкода?! — абуралася тая.

Колькі разоў Хіляк патрашыў і нашых гусей! Асабліва, калі тут, пры аколіцы, на абложных палях сеялі ці то авёс, ці то жыта. Гусі настырліва чакалі, калі адвернешся толькі на момант. І ўжо іх галовы пасярод аўса, ужо так спрытна абшморгваюць аўсяныя мяцёлкі, што ўскіпаеш злосцю не меншай за Хіляковую, кідаешся ў росны мокры травастой, бяжыш, цікуючы, каб хоць аднавокі сыч дзе не нарваўся. А той, як коршак, кідаецца адусюль. Толькі й цікуе, каб адыграцца, вымясціць чалавеканенавісніцкі гнеў. Такія барозны-каляіны нарэжа на аўсянішчы альбо жытнішчы, што дзе там гусінаму ценькаму следу зраўняцца. Во ўжо хіжак, во ўжо пачвара драпежная! Гэта ж восенню нейк што ўздумаў, учыніў што — падкраўся ззаду, вязку саломы на плячах глухой дачкі Багушоўкі, Вольгі, падпаліў. Тая і так на розум небагатая, зусім памуцілася — з бальніц не вылазіць. Уся вёска заспачувала беднай кабеце. Ды дзе тут гору паможаш, ніхто ў брыгадзірскі бок нат не кіўнуў. Саломы зашкода! Збуцвееасунецца за зіму ў сціртах, самі папаляць увесну. А чалавеку каб даць — не патыкайся.

Гэтак горка я раздумваў пасля чарговага брыгадзірскага налёту на гусей. Седзячы ў адзіноце на разгаліне старэчай таполі, упіваючыся ў акружжа ўсёй сілаю зроку, сочачы, ці не бяжыць матка, каб як след усыпаць за патаптаных гусей, і, канечне ж, сюды, на таполю, не ўзлезе, я мройліва думаў-гадаў, што б гэтакае ўчыніць, каб аднавокі і ўсёвідушчы Хіляк і зусім страціў зрок — белага свету не бачыў. Такой непамерна вялікай была мая крыўда на гняўлівага брыгадзіра. "От кеб дзе ў дрыгву праваліўся, з матацыклетам прапаў. Быў і не было!"

Мой помслівы гнеў вёў над Хіляком свой судовы працэс. У доказ сваёй праваты, якая была неабвержнай падставай для помсты, я прыводзіў і прыводзіў у згадках усё новыя і новыя доказы ягоных злачынстваў, вартых самага суровага, як здавалася мне, пакарання. Нюра леташняй восенню матыкай насекла бульбы на перакапаным калгасным бульбянішчы за агародам, дык змусіў, сыч аднавокі, у калгасны бурт валакчы — гнаў як скаціну перад сабой па ўсёй вёсцы. А як летам запарваў нас у гаросе, як пагнаўся за Шопнікавым Валодзем! Збіў на горкі яблык. Той і цяпер у сады лазіць аднекваецца. А гусей Еўжыных як паматлошыў! Хіба адзін гусак і ацалеў. Дзень цэлы падбірала старая пер'е на Жукаўцы. Аднак самым вялікім брыгадзіравым злачынствам, у дадатак да падпаленай на плячах Багушоўчынай Вольгі вязанкі саломы, здавалася мне сапраўднае кашчунства, учыненае ім і ягонай паляўнічай хеўрай леташняю зімой. Уся вёска гняўліва абурылася, жахнулася: учыніць на зайцоў паляванне на могілках!

Звысоку, седзячы на ўсё той жа таполі, я горка глядзеў на далекаваты за полем могілкавы астравок і як бы чуў галасы нябожчыкаў, дзеда Яўхіма і бабулі Антосі, якія так і прасілі мяне: за нас зняважаных, унучак, гаду адпомсці!

Аднак дадумацца я змог толькі да аднаго. Ужо ўвосень, калі пачалі рэзаць гусей, захапляцца смакатой іх тлушчу з бліцамі, я асцярожліва, каб не западозрыла хітрасці, пачаў даказваць матцы, што шэрыя гусі, у адрозненне ад белых і пярэстых, куды болей рахманыя, паслухмяныя, нават на вагу большыя. У маці была і сапраўды ў любіміцах адна шэрая гуска, якую яна пакідала на развод ужо некалькі зім, баючыся, што тая сканае ад старасці. Гуска гэтая так цешыла матку, так з ёй паразумелася, што слухмяней, здаецца, і быць не можа. Асабліва, калі гусі, убраўшыся ў сілу і пер'е, пачыналі лятаць. Яна і тады не імкнулася ўслед за астатнімі. Як бы і астатніх спыняла ад такога разгону. Давала магчымасць своечасова папешыць чараду: крыло на калодку і сячы пер'е. Памахаюць разы са тры крыламі і забудуцца, што лятаць былі здольныя. Зноў хадзіць пехам будуць.

— Мо і праўда шэрыя больш важкія, — пагадзілася матка.

Яна падабрала ў хаўрус шэрай яшчэ трох маладых гусак. Нават зірнула на мяне ўсёй цеплынёй воч — падзячыла за падказку. Прыгадала смяшлівае зімовае, як быў у нас у хаце ляснік Вусь (во супадзенне, у маленстве замест "гусь" вымаўляў "вусь", прыліпла пажыццёвай мянушкай) і як сядзеў на лаве, а потым ускочыў ледзь не да самай столі з прарэзлівым пакутлівым крыкам. Гэта якраз яго з-пад лаўкі шэрая гуска шчыканула за тое самае, пра што і казаць сорамна.

Шэрыя гускі і гэткі ж шэры гусак апраўдалі матчын давер цалкам. Вясной яны несліся ахвотна, вывадак гусянят быў значна большы. Піскаляты цешылі і маё вока. Пакуль бавіліся на падворку, квола перавальваючыся з лапкі на лапку, я ўсё пазіраў і гадаў: а ці будуць яны ўсе гэткімі ж шэрымі, як і іх бацькі? Нават і ў неграў, кажуць, бываюць не зусім чорныя дзеці. Але мае сумненні сам час выстудзіў: ужо ладнымі гусянятамі яны неўпрыкмет пашарэлі, убраліся гэткім жа бацькоўскім пер'ем, што не адрозніць. Цяпер я мог безаглядна гойсаць дзе заўгодна або сядзець у зямлянцы з сябрамі ў час непагодны і рэзацца ў карты, мала думаючы пра гусей. А тут яшчэ (якая радасць!) побач з аколіцай, на жукаўскім полі, авёс пасеялі. Гусі туды, наб'юць валлякі і зноў на ваду. Дзе там Хіляк іх убачыць, сам, бывае, знайсці не магу. Дый матка, кмечу, радуецца — з гусямі ніякіх клопатаў. Мабыць, сын падрос, думае, паразумнеў, ля гусей прападае, не бадзяецца абы-дзе.

У тую раніцу ўсё гэтак жа было спакойна і ціха. Я загнаў гусей на аколіцу і сядзеў снедаў. Маці штосьці рабіла ў сенцах. Пачуў, як бразнула фортка, як па двары, што вецер, пранеслася Біраніха.

— Валета, вашых гусей аднавокі матлошыць! Каля Раменнага…

Матка ўляцела ў пакой, зірнула загадна — бяжым!

Мы кінуліся па агародзе разорай да поля на сцежку, якая і праставала ў той бок. Ужо зводдалі я згледзеў: матацыкл робіць кругі на аўсянішчы. Хіляк у стракатай кашулі, угнуўшыся, увайшоў у небывалы азарт. Роў матацыкла натужны, хрыпаты.

Ён толькі зыркнуў на матку. Не спыніўся.

— А Васілька, завошта? — заламаўшы рукі, лямантавала матка.

Сыч аднавокі нават не глянуў. Круг за кругам налятаў на гусей, што выбавіліся ўжо на дарогу. Таптаў коламі, біў нагамі. Са звярыным ашчэрам пранёсся побач, не супыніўся.

Перад вачамі была жахотная карціна: скрываўленыя, без галоў, гусяняты, дранае і ўтаптанае ў гразь пер'е, кульгавыя, з пахілымі галовамі, ацалелыя гусі.

Матка ад неймавернай роспачы асунулася-села на ўтравелы насып канавы. Яна бязгучна плакала, не падымала вачэй. І толькі шаптала:

— Шэрыя гусі… Шэрыя гусі…

Потым яна нейк парыўна паднялася на ногі. Хапіла бліз канавы нейкі драўляны абрубак і апынулася каля мяне. Узрушаны і разбіты не менш за матку, бяссільны, я нават не кінуўся наўцёк, толькі пачуў, як па спіне прайшлася балюча яе патарчака.

— Я т-табе пакажу шэрыя гусі!

Я вяртаўся назад цераз поле, адзін (матка ўсё яшчэ сядзела каля гусей) і нёс неймаверны боль у душы. Яго не гасілі нават ні чутае ныццё спіны, ні прыгажосць летняга ранку, ні далекаватыя галасы хаўруснікаў каля зямлянкі. Хацелася праваліцца ў самую глыбокую дрыгву, не быць на гэтым свеце.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Некалькі прыпынкаў ад метро "Інстытут культуры" ў бок густанаселенага мікрараёна "Паўднёвы Захад". Невялікая зала — усяго на 50 месцаў. Не вельмі зручная для самастойнай тэатральнай пляцоўкі, бо не мае асобнага ўвахода, а месціцца ў будынку Галоўнага гаспадарчага Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аднак яе запаўнялі прадстаўнікі інтэлігенцыі — настаўнікі, урачы. Сюды прыводзілі гасцей сталіцы і прыходзілі з сябрамі — каб адпачыць душой. Тут выступалі выканаўцы фламенка, гучалі бардаўская песня і раманс. Прэм'ера монаспектакля "Развітанне з дваранствам" у выкананні Сяргея Трахімёнка тут, на пляцоўцы Тэатра рускага раманса, завяршыла сезон. І прагучала трагічнай нотай развітання з культурным асяродкам. Каму перашкаджала яго існаванне? Гутарым з дырэктарам Тэатра рускага раманса Ірынай ФАШЧЫЛІНАЙ.**



# Развітанне з тэатрам?

**— Ірына Мікалаеўна, як нарадзіўся ў Мінску Тэатр рускага раманса?**

— Спачатку гэта быў сямейны праект. Ён вядзе адлік свайго існавання з 2002 года. Я — выканаўца, мой сын — прадзюсар, нявестка, на той час студэнтка БДУКіМ — менеджар. Мы аб'ездзілі ўсю краіну, працавалі на многіх пляцоўках нашай сталіцы. Нават у начных клубах перад пачаткам іх асноўных праграм. Выступленні мелі вялікі поспех. Клубы запаўняліся цалкам, чаго там ніколі не бачылі. Нашы канцэрты ішлі ў філармоніі, Палацы Рэспублікі. У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі выконвалі спектакль "Пакуль гарыць свечка" (створаны на аснове рэальнай перапіскі двух людзей — мяне і мужа). Да выступленняў на вялікай сцэне прыцягвалі памочнікаў. У мяне была моцная група: Андрэй Лабчэўскі — канцэртмайстар, Карэн Карапецян — скрыпач, Ігар Чарнін (фартэпіяна і клавішы), Сяргей Ісакоў (гітара). Падчас канцэртаў у Белдзяржфілармоніі былі яшчэ саксафон, флейта, у залежнасці ад умоў музычная афарбоўка мянялася. Гастралявалі доўга, але ўрэшце ўзнікла ідэя зрабіць у Мінску сталую пляцоўку.

Са старога склада зрабілі тэатр — уласнымі рукамі і з дапамогай сяброў. Паставілі сваю апаратуру (каб яе набыць, сын прадаў машыну). На нас выйшла Асацыяцыя хворых на рассеяны склероз. І на нашай пляцоўцы пачалі праводзіцца культурна-гуманітарныя мерапрыемствы для інвалідаў. Апошні год асацыяцыя часткова дапамагала аплачваць арэнду памяшкання.

**— Якія мерапрыемствы і як часта праходзілі?**

— Здаралася, за месяц — дванаццаць адзін канцэрт і восем семінараў. І арганізацыйна-упраўленчыя, і творчыя праблемы вырашалі самі. І гэтак з 2007 года.

Два разы на месяц ладзілі сустрэчы для інвалідаў з разнастайнай культурнай праграмай: высокамастацкія канцэрты (у тым ліку сольныя канцэрты вядомых беларускіх выканаўцаў), запрашалі навучэнцаў рэспубліканскай гімназіі-каледжа мастацтваў імя В. Ахрэмчыка. Для людзей, што пакутуюць на рассеяны склероз, наведацца сюды — ужо подзвіг. Такія сустрэчы давалі ім сілы жыць. Кожны з іх мог паказаць сябе — выступіць на сцэне, арганізаваць выстаўку сваіх самаробак, нават прадэманстраваць прысутным, што ён зноў можа прысядаць. (А гэтая жудасная хвароба робіць нерухомымі і маладых людзей.) Да нашых сустрэч і дзеці інвалідаў рыхтавалі канцэртныя нумары. Тут ладзіліся сустрэчы з вядомымі спецыялістамі-медыкамі, прадстаўнікамі замежных асацыяцый.

І асобна ставіліся спектаклі — не толькі мае, працавала музычная студыя і студыя па пастаноўцы голасу. Наталля Клімковіч, урач, пасля двух гадоў заняткаў у студыі на Усерасійскім фестывалі раманса ў Кінешме стала лаўрэатам.

Прымалі артыстаў з іншых краін. Выканаўцам з Піцера вельмі падабалася акустыка залы, у нас прафесійная апаратура. На гэтай сцэне ішлі і дзіцячыя спектаклі (у тым ліку лялечныя), і навагоднія, выступалі выканаўцы фламенка, групы псіхадэлічнай музыкі. Даведаўшыся пра нас праз Інтэрнэт, звярталіся многія артысты — і замежныя, і расійскія, але памеры залы іх не задавальнялі. Затое выканаўцы вершаў яе вельмі ўпадабалі, таму што некаторым з іх нязручна працаваць з мікрафонам.

Студэнты БДУ культуры і мастацтваў праходзілі ў нас практыку. Я сама доўга выкладала ў ім, на маім рахунку 149 дыпломнікаў...

**— Колькі гадзін доўжыўся ваш працоўны дзень?**

— Калі маеш свой творчы бізнес, з часам не лічышся. У цябе ёсць спектакль, да яго пачатку ты вымушаны працаваць так, каб працавала зала, а не толькі — падрыхтаваць свой праект, вывучыць яго, паклапаціцца пра святло- і гукарэжысуру, цэласнасць і вартасць. Усё гэта вымагае выдаткаў — часавых, і матэрыяльных, і фізічных. Працавалі з вялікай нагрузкай. Зала на 50 месцаў. Танныя білеты: на кожным спектаклі праводзілі анкетаванне — людзі прагаласавалі за прымальны для іх кошт 10—12 тыс. рублёў. Мы бясконца павышаць кошт і страціць нашу публіку не маглі. Збіраліся ў нас і дзеці, і моладзь. І аматары альтэрнатыўнай музыкі, і класічнай, і драматычнага мастацтва. І пенсіянеры — паслухаць народную музыку. Амаль кожны спектакль наведвала група дактароў: "Калі адчуваем, што скончыліся псіхалагічныя сілы, мы проста прыходзім падзараджацца". Адна жанчына расказвала: "Я ніколі не бачыла, як плача мой муж. Ён выйшаў з гэтай залы іншым чалавекам".

**— І вось ваш тэатр вымушаны спыніць сваё існаванне…**

— З-за фінансавых умоў памяшканне давядзецца пакінуць. Пры ўсіх ільготах (у мяне працуюць інваліды) Тэатр рускага раманса не здатны самастойна аплачваць паслугі і арэнду. Чаго толькі не спрабавалі: "напакавалі" залу мерапрыемствамі да такой мяжы, калі ўжо спаць не маглі — столькі працавалі, а з аплатай арэнды не здолелі справіцца, не кажучы пра плату выканаўцам. Мы звярталіся па дапамогу да прадпрыемстваў…

**— Значыць, вашай пастаяннай публіцы давядзецца слухаць толькі запісы былых канцэртаў?**

— У Маскве і Санкт-Пецярбургу маленькія тэатры выжываюць. Але там непараўнальны з мінскімі кошт білетаў. Прыватны Тэатр рускага раманса пагадзіўся б на пастаянную пляцоўку нават у падвальным памяшканні з асобным уваходам, каб нікому не перашкаджаць: удзень — рэпетыцыі, па вечарах і па выхадных — мерапрыемствы. Абжылі ж і гэтае не самае прыдатнае памяшканне для канцэртнай пляцоўкі, на нас ніхто не скардзіўся…

Праект "Тэатр рускага раманса" будзе існаваць. Нас зноў чакае "вандроўнае жыццё". А тэатральнай сцэны — з заслонай, апаратурай — ужо не будзе: давядзецца разманціраваць…

***На здымку: Ірына Фашчыліна ў монаспектаклі "Кіно-Раманс".***

***Скажаце, ці варта разгляду праблема знікнення маленькага тэатра ў Мінску, дзе хапае сцэнічных пляцовак? Але… За чатыры з паловай гады яго існавання тут адбылося больш як 800 культурна-забаўляльных мерапрыемстваў (канцэртаў, спектакляў, творчых сустрэч) і больш як 100 дабрачынных мерапрыемстваў. (Памножце на 50 — колькасць месцаў у зале.) Далёка не кожны з яго гледачоў дазволіць сабе рэгулярна наведваць папулярныя імпрэзы ў цэнтры горада. Да таго ж, менавіта такога кшталту іх не вельмі шмат у сталічнай афішы. Ніша, якую запаўняў у духоўнай культуры адна-го са спальных раёнаў Тэатр рускага раманса, застаецца…***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,**
**фота аўтара**
**і Віктара Кавалёва**

Сезон летніх вакацый у разгары, але НАВТ оперы і балета Беларусі рэкамендуе прыхільнікам класікі ўжо зараз паклапаціцца пра білеты. Бо нядаўняй прэм'ерай — "Аідай" Дж. Вердзі — ён адкрые ў першы восеньскі вечар свой 79-ы сезон. А 9 вера-




сня пакажа новую пастаноўку "Севільскага цырульніка" Дж. Расіні — твора, неад'емнага ад гісторыі нашага Вялікага тэатра. Сваю версію оперы, найпапулярнейшай ва ўсім свеце сярод выканаўцаў і публікі, прапануюць дырыжор-пастаноўшчык Джанлука Марчыяна (Італія), рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ, хормайстар Ніна Ламановіч, сцэнограф Аляксандр Касцючэнка, мастак па касцюмах Элеанора Грыгарук.

Прэм'ера меладрамы "Сястра мая" паводле аповесці польскага класіка Генрыка Сянкевіча "Таня" завяршыла сезон у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры. Спектакль паставілі рэжысёр Кацярына Аверкава (яна ж — аўтар інсцэніроўкі) ды мастак Людміла Скітовіч, ролі выконваюць Дзмітрый Сямёнаў, Вікторыя Чумак, Аляксандр Шароў, Алена Зуй-Вайцяхоўская, іншыя артысты тэатра.

Працягваецца X міжнародны пленэр па кераміцы "ART-Жыжаль", зладкаваны паблізу Чыгірынскага вадасховішча. З 2003 года праходзяць такія форумы творцаў. Іх арганізуюць аддзел культуры гарвыканкама, гарадская арганізацыя Беларускага саюза мастакоў. Тэма сёлетняга пленэру — "Кераміка ў архітэктурнай праста-



ры". Беларускія керамісты, сярод якіх заснавальнік "ART-Жыжаля" Валерый Калтыгін, паслядоўнік бабкавай творчасці Максім Калтыгін, вядомыя мастакі Анатоль Концуб, Алег Ткачоў, Яўген Адзіночанка, працуюць з глінай, вадой ды адкрытым агнём на прыродзе поруч з іншаземнымі калегамі, а гэта больш як два дзясяткі гасцей з дзесяці краін. Выніковы вернісаж — 8 жніўня. А падарункам Бабруйску ад інтэрнацыянальнай творчай сям'і будзе калектыўная кампазіцыя для інтэр'ера кафэ.

***На здымках: галоўны фасад Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі; кампазіцыя Анатоля Концуба "Тульня ў кубікі" з леташняга пленэру.***

# Con anima, або Самае душэўнае кіно

## Рысы творчасці беларускіх аніматараў

**Знаёмае кожнаму з маленства слова “мультфільм” неяк неўпрыкмет пасунулася (калі не сказаць — замянілася) іншым вызначэннем папулярнага кінавідовішча: “анімацыя”. Усё ж, мабыць, невыпадкова? Дазволю сабе параўнаць стварэнне мультыплікацыйнага фільма з працай над сімфанічнай партытурай, з карпатлівым працэсам — ад задумы, праз напісанне нотнага тэксту, да ўвасаблення ў жывым гучанні, напоўненым пачуццём. Дарэчы, музычны тэрмін con anima, своеасаблівая кампазітарская падказка пэўнага нюанса для выканаўцаў, з італьянскай перакладаецца як “з душой”, або “з пачуццём”. Con — “разам”, anima — “душа”... Рэжысёры-мультыплікатары ды мастакі, ствараючы з мноства карцінак ілюзію жывога руху, надаюць кадру вобразнасць і дораць душу сваім экранным персанажам.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

Два гады таму ў сталічным Доме кіно айчынныя аніматары, асвойваючы новае жытло доўгі час беспрытульнага Беларускага саюза кінематаграфістаў, наладзілі сваю творчую вечарыну. Атрымалася проста выдатна! Рэй вёў знаны майстар анімацыйнага мастацтва, дасціпны і артыстычны Міхась Тумеля ў дуэце з калегам Яўгенам Надточаем. На святочнай і сур'ёзнай прэзентацыі знайшоўся час і для паказу новых фільмаў, і для прафесійнай размовы, і для згадкі пра незалежную мінскую студыю “АФ-Цэнтр”, дзе таксама займаюцца анімацыяй. І — для вясёлага капусніка з пародыяй на традыцыйную вытворчасць “мульцікаў” ды аўральную пераробку сцэны з фільма “Вожык у смятане”.

Дарэчы, тады ў мультыплікатараў Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм” была нагода для ўрачыстага настрою: цыкл фільмаў “Аповесць мінулых гадоў-3” (2009) стаў лаўрэатам XIV фестывалю анімацыйнага кіно, які прайшоў у расійскім горадзе Суздалі. Трэцяя частка гэтага доўгатэрміновага праекта (аўтар ідэі, мастацкі кіраўнік Ігар Волчак), які складаецца з пазнавальных і захапляльных анімацыйных кароткаметражак пра паходжанне гербаў беларускіх гарадоў і мястэчак, перамагла ў намінацыі “лепшае выяўленчае вырашэнне”. У цыкле “Аповесць мінулых гадоў-3” — гісторыі гербаў Чэрвеня, Шклова, Полацка, Навагрудка ды Пружан, увасобленыя даходліва і дасціпна, з выкарыстаннем старадаўняй беларускай музыкі. Гэта праца групы таленавітых мастакоў і рэжысёраў, у ліку якіх Ганна Емяльянава, Таццяна Кубліцкая, Міхась Тумеля, Наталля Касцючэнка, Яўген Надточай... А яшчэ на тым самым фестывалі спецыяльны дыплом за цыкл “Беларускія прымаўкі” (2008), створаны (не без уплыву знаёмства мультыплікатара з незабыўным Вячаславам Дубінкам) у тэхніцы беларускай выцінанкі, атрымаў аўтар сцэнарыя і рэжысёр Міхась Тумеля.

Прысутныя на вечарыне ўбачылі, апроч фільмаў з праекта “Аповесць мінулых гадоў”, цудоўную работу Аляксандра Ленкіна для маленькіх гледачоў “Пра сяброўства, Шарыка і лятаючую талерку” (2008), сучасны ўрбаністычна-тэхнагенны кантэкст якой не заглушыў, а нават падкрэсліў шчыры лейтматыў дабрыні, душэўнасці, узаемадапамогі, заўжды актуальную тэму ўвагі, павагі, прыязнасці да тых, хто зусім не такі, як ты сам, але можа стаць для цябе адданым сябрам. Адбылося і кароткае знаёмства з серыялам Ігара Волчака пра Несцерку, “у якога было дзяцей шэсцерка”. Выдатны майстар, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў, працуе над фільмамі пра нашага каларытнага нацыянальнага героя з 2003 года; вядучую ролю ва ўвасабленні гэтага праекта адыгрывае мастак Ала Мацюшэўская. (Стварэнне такога “мульціка” доўжыцца ў сярэднім год, і ўжо на сённяшні дзень ёсць шэсць серый: “Як Несцерка скарб знайшоў”, “Як Несцерка на кірмаш збіраўся”, як ён гаршкі прадаваў, з кірмашу ехаў, як шукаў заручальны пярсцёнак ды сваю нарачоную...). Сярод іншага дэманстравалася чародка вясёлых, афарыстычных, напоўненых мяккім гумарам ды музыкай “Троіцы” пад кіраўніцтвам Івана Кірчука, ажыўленых выцінанак — экранных мініяцюр пад назвай “Беларускія прымаўкі” (2008). Гэты праект, паводле слоў М. Тумелі, задумваўся для паказу па тэлебачанні. Ды з нейкай прычыны ўнікальная творчая работа засталася ляжаць на паліцы...

Але ж такі лёс не толькі ў “Беларускіх прымавак”. Шматлікія аматары анімацыйных кінавідовішчаў (а “мульцікі” надзвычай папулярныя не толькі ў дзятвы і ствараюцца, як вядома, нават для элітарнага інтэлектуальнага гледача) часта не ведаюць пра само існаванне айчынных мультфільмаў. Калі ж і чулі прозвішчы, напрыклад, І. Волчака, А. Ленкіна, І. Кадзюковай, М. Тумелі, У. Пяткевіча, Я. Надточая, Т. Кубліцкай, А. Пяткевіч, М. Карпавай, дык наўрад ці маюць уяўленне пра іх творчасць. Бо дзе можна паглядзець работы беларускіх аніматараў, калі іх не прапагандуе роднае тэлебачанне і абмінае, не рэкламуе кінапракат? Зрэшты, нават прыгаданая тут колішняя вечарына ў Доме кіно не мела належнай рэкламы: калі залу скалануў вокліч вядучага: “Хопіць прыкідвацца гледачамі!!!” і на сцэну выйшлі два дзясяткі супрацоўнікаў студыі мультыплікацыйных фільмаў, публікі ў крэслах засталося не нашмат больш. А мог жа быць аншлаг...



Дык дзе можна паглядзець работы беларускіх аніматараў? Пытанне пытанняў! Яно рэфрэнам гучала падчас нядаўняй размовы пра сённяшнюю беларускую анімацыю, наладжанай прэс-цэнтрам газеты “Аргументы и факты в Белоруссии”.

Размове папярэднічаў прэс-прагляд: амаль паўтарагадзінная праграма складалася з набыткаў “Беларусьфільма” ў мультыплікацыі за 2008—2011 гады. Тут і ўжо знаёмыя “Беларускія прымаўкі”, і завершаны сёлета чацвёрты цыкл праекта “Аповесць мінулых гадоў” (расповед пра паходжанне гербаў Лагішына, Карэлічаў, Браслава, Заслаўя, Горак ды Брагіна — шэсць гісторый у рэжысёрскай інтэрпрэтацыі Я. Надточая, Н. Хаткевіч, А. Ленкіна, І. Кадзюковай, Н. Касцючэнкі, М. Тумелі), і новая казка для самых маленькіх “Сараканожка” (сцэнарыст і рэжысёр Т. Кубліцкая), і нечакана дасціпны, жыццёва-філасофскі погляд на вядомую народную байку “Лісіца і Журавель” як на сучасны... мезальянс (аўтар своеасаблівага рымейка Д. Якутовіч, рэжысёр У. Пяткевіч), і музычна-візуальны партрэт Сяргея Пракоф'ева (ідэя І. Волчака, сцэнарый І. Марголінай, І. Волчака і Ю. Цітовай, рэжысёр Ю. Цітова) — з сумеснага расійска-беларускага праекта “Казкі старога піяніна”... Дэманстраваўся і фільм “Птаха” (сцэнарый А. Ленкіна, С. Кацьера, рэжысёр А. Ленкін), пранікнёна агучаны артыстам А. Памазанам. Кранае да слёз гісторыя-прыпавесць пра птушаня, якое выпала з гнязда, і вяскоўца, які пашкадаваў крылатага знайдыша, выгадаваў ластаўку, а тая не паляцела ў вырай і зрабілася для чалавека даражэй за жонку ды гарадскую радню, а потым... прапала і не вярнулася, пакінуўшы старога ў смутку і горкім самасуцяшэнні: “Калі хтосьці цябе любіць — гэта і ёсць тваё жыццё”. Гэты кінатвор адзначаны прызам “Бронзавы віцязь” на нядаўнім міжнародным фестывалі “Залаты віцязь”.

*“Лепшыя беларускія аніматары годна і паспяхова прадстаўляюць нашу нацыянальную кінастудыю на міжнародным узроўні, атрымліваюць прызы прэстыжных прафесійных форумаў. Эрудыты, фантазёры, падзвіжнікі, сціплыя працаўнікі, яны сваімі адмысловымі сродкамі ствараюць сапраўды нацыянальныя і сапраўды мастацкія стужкі, дзе, у адрозненне ад многіх “прадуктаў ігравога кіно”, столькі творчай выключнасці, глыбіні, душэўнай шчырасці — і няма фальшу!*



Размова, удзельнікамі якой былі дырэктар студыі мультыплікацыйных фільмаў Сяргей Сычоў, рэжысёры-аніматары Аляксандр Ленкін, Уладзімір Пяткевіч ды Таццяна Кубліцкая, закранула праблемы стварэння і папулярызацыі такіх стужак.

Як правіла, у працэсе фарміравання тэматычнага плана рэжысёры прапануюць уласныя ідэі і свой сцэнарый; нярэдка ў рэжысуру прыходзяць таленавітыя мастакі-мультыплікатары. Аднак арганізацыйна-фінансавыя і кадравыя праблемы пакуль не дазваляюць выпускаць больш як 7—10 фільмаў на год. Для таго, каб павялічыць вытворчасць мультфільмаў, студыя мае патрэбу і ў пэўнай тэхнічнай мадэрнізацыі, і ў маладых спецыялістах, і ў дадатковым фінансаванні. Класічная перакладка можа здымацца толькі на кінаплёнку, а гэта каштуе даражэй за камп'ютарную перакладку. Выдаткі на фільм залежаць і ад яго фармату. Як паведаміў С. Сычоў, адзін сюжэт цыкла пра беларускія гербы доўжыцца крыху больш як паўтары хвіліны (а чаму б не паказваць іх у праймтайм, як гэта робіцца з рэкламнымі ці музычнымі кліпамі?), бываюць 6-хвілінныя фільмы, а вось пра стварэнне “паўнаметражнага серыяла” гаварыць пакуль рана, як і пра засваенне 3D (зрэшты, на думку С. Сычова, гэта не напрамак мастацтва, а проста модны фармат, які можа імкліва змяніцца нечым новым). Дарэчы, менавіта ў хвілінах, а не ў колькасці найменняў, вядзе студыя сваю статыстыку. У 2009 г. аб'ём беларускай анімацыі склаў 44 хвіліны, летась — 66 хвілін. На 2011-ы планавалася лічба “90”, але рэальна атрымаецца 81 з паловай хвіліны эксклюзіўнага і такога працаёмкага мультыплікацыйнага кіно.

Дзе ўсё гэта паглядзець? На жаль, мінскі міжнародны фестываль дзіцячага і юнацкага кіно “Лістападзік” не выказвае цікавасці да беларускіх анімацыйных праграм. Больш увагі да сваёй творчасці чакаюць майстры айчыннай анімацыі з боку арганізатараў вядомага міжнароднага фестывалю “Анімаёўка” ў Магілёве: недастаткова проста паказаць фільм, гэта абавязкова трэба рабіць у кантэксце жывой сустрэчы гледачоў з яго стваральнікамі! Хіба не абсурдная сітуацыя, калі на “Анімаёўцы” прымаюць замежных гасцей-аніматараў, а іх беларускіх калег на фестываль не запрашаюць... у мэтах эканоміі! У той жа час А. Ленкіну давялося павандраваць са сваімі фільмамі: запрашалі на Гродзеншчыну, Магілёўшчыну... Дзецям вельмі падабаецца і глядзець нашы “мульцікі”, і слухаць аповед рэжысёра...

З часам мы (спадзяюся!) убачым працяг “Беларускіх прымавак” і ўсяго “Несцерку”, “Аповесць мінулых гадоў-5”, казку пра курку Рабу і “Музычную скарбонку” з навеламі пра калыханку, калядныя, застольныя ды вясельныя беларускія песні; і партрэт суровага і геніяльнага Баха ў цыкле “Казкі старога піяніна”, і ўвасобленыя ў малюнках вобразы паэзіі С. Маршака...

Неўзабаве пасля сустрэчы ў прэс-цэнтры “АиФ” штодзённыя СМІ распаўсюдзілі першае інтэрв'ю новага генеральнага дырэктара Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм” Алега Сільвановіча. Ён, у прыватнасці, даў высокую ацэнку працы айчынных аніматараў і сказаў, што ў бліжэйшы час будзе звяртацца да кіраўніцтва беларускіх тэлеканалаў — каб актывізаваць паказ у эфіры беларускіх анімацыйных фільмаў. Вядзецца таксама праца з кампаніямі, якія тыражуюць іх і выпускаюць у пракат: трэба, каб з'явіліся зборнікі нашых мультфільмаў для дзяцей. Таксама будуць вырашацца праблемы, якія на сённяшні дзень замінаюць пераводу айчыннай анімацыі ў лічбавы фармат, выпуску яе на DVD.

Як падкрэсліў Алег Сільвановіч, у нас ёсць прафесіяналы неверагодна высокага ўзроўню, яны дасканала валодаюць мастацтвам класічнай перакладкі, не карыстаючыся камп'ютарам: робяць рукатворную анімацыю. Такія фільмы ўражваюць па-сапраўднаму, асабліва на фоне растыражаванай па свеце прадукцыі ў г.зв. фармаце 3D. Генеральны дырэктар “Беларусьфільма” перакананы: “Нашы мультфільмы знаходзяцца на высокім узроўні, таму мы будзем працаваць у бок павелічэння іх вытворчасці”.

І апошняя навіна: кінастудыя “Беларусьфільм” абвясціла маладзёжны конкурс на стварэнне сцэнарыя мультыплікацыйнага фільма нацыянальнай тэматыкі. Узрост прэтэндэнтаў — ад паўналецця да 31 года. Падрабязнасці — на інтэрнэт-сайце кінастудыі.

***На здымках: дырэктар студыі мультыплікацыйных фільмаў Сяргей Сычоў; рэжысёры-аніматары Уладзімір Пяткевіч ды Аляксандр Ленкін; кадр з фільма “Беларускія прымаўкі”.***

Віталь СКАЛАБАН,
Хведар ЛАЗОЎСКІ

# «Я не зрабіў таго, што

**У студзені 1952 года ў ЦК КП(б) Беларусі прыходзіць ліст ад галоўнага рэдактара “Литературной газеты” Канстанціна Сіманава. Вядомы паэт, празаік, драматург, які кіраваў галоўнай пісьменніцкай газетай Савецкага Саюза, коратка, лаканічна праінфармаваў рэспубліканскае ЦК па двух надзённых клопатах “Литературки”.**



*Алесь Бачыла. 1953 г.*

Вось што пісаў шасцікратны лаўрэат Сталінскай прэміі сакратару ЦК Міхаілу Васільевічу Зіміняну: “Шматпаважаны Міхаіл Васільевіч! У сакавіку 1951 года ЦК КП(б) Беларусі рэкамендаваў нам на работу ў якасці ўласнага карэспандэнта “Литературной газеты” па БССР члена партыі тав. Бачыла А. М., папярэдне мы пра гэта гутарылі з Вамі.

На жаль, т. Бачыла не апраўдаў аказанага яму даверу, і рэдкалегія “Литературной газеты” пастанавіла яго зволіць.

Накіроўваю Вам пастанову і стэнаграму пасяджэння рэдкалегіі. Вельмі прашу Вас асабіста азнаёміцца з тым і з другім, паколькі справа, на мой погляд, носіць характар прынцыповы.

Адначасова просім рэкамендаваць нам, замест т. Бачыла, другога таварыша — вопытнага літаратара-журналіста…”

Ліст, напісаны К. Сіманавым 4 студзеня, у Мінску атрымалі 10-га. Адразу сакратаром ЦК была накладзена рэзалюцыя, адрасаваная Петрусю Броўку, старшыні ССП БССР, а таксама загадчыку аддзела літаратуры і мастацтва ЦК Казіміру Буславу. Махавік закруціўся. Праўда, неяк вельмі марудна як для сістэмы. Толькі ў другой палове мая загадчык аддзела піша сакратару ЦК кароткую дакладную запіску: “Бюро партыйнай арганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР абмеркавала нездавальняючую работу былога карэспандэнта “Литературной газеты” т. Бачыла. За развал работы карэспандэнцкага пункта і няправільныя паводзіны на пасяджэнні рэдкалегіі “Литературной газеты” т. Бачылу А. М. аб’яўлена вымова. У якасці карэспандэнта “Литературной газеты” рэкамендаваны журналіст тав. Шчарбатаў…” Махавік круціўся амаль пяць месяцаў. Алесь Мікалаевіч Бачыла працаваў у “Литгазете” ўсяго сем месяцаў. Ды і рашэнне пісьменнікаў-камуністаў (наўрад ці папярэдне яго не ўзгаднілі ў ЦК, у таго ж Буслава ці нават самога Зіміняна) было не самым жорсткім. Праўда, пасяджэнне бюро партыйнай арганізацыі ССП БССР адбылося яшчэ ў лютым. Персанальную справу Бачылы разглядалі сярод іншых пытанняў: “**1.** Аб рабоце рускай секцыі. **2.** Справаздача члена ВКП(б)Б Маўзона аб яго рабоце па павышэнню свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. **3.** Персанальная справа Бачылы”.

Лёс свайго таварыша вырашалі прысутныя Іван Шамякін, Пятрусь Броўка, Ілья Гурскі, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Васіль Вітка, Мікола Ткачоў, Аляксей Русецкі, Аляксандр Міронаў, Алесь Есакоў, Пётр Валкадаеў, Янка Шарахоўскі, Мікалай Гарулёў, Дзмітрый Кавалёў, Яфім Радоўскі. І рашэнне, трэба думаць, яны прынялі самае мяккае з усіх магчымых у той сітуацыі.

Але ж напачатку “маскоўская ініцыятыва” пытанне звальнення і пакарання беларускага паэта ўзняла на вышыні самыя сур’ёзныя.

…У “Литгазету” Алесь Бачыла ўладкаваўся ў красавіку 1951 г. Новага супрацоўніка К. Сіманаву рэкамендавала беларускае ЦК. Паэт з 1946 года працаваў у “Літаратуры і мастацтве”. У друку з вершамі Алесь Бачыла пачаў выступаць яшчэ ў 1934 годзе. Працаваў настаўнікам. З 1939 — у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у паходзе ў Іран, ваяваў на Крымскім, Паўночна-Каўказскім, Варонежскім, 2-м Беларускім і 1-м Прыбалтыйскім франтах.

Першая кніга вершаў выйшла ў 1947 — “Шляхі”. Другі зборнік — “Подых вясны” — выдадзены ў 1950 годзе. Паэт выходзіў да сваіх галоўных сцежак, намацваў той шлях, які пазней зробіць яго аўтарытэтным творцам. А “Литературка”, карэспандэнцкая праца… Не, гэта, канечне ж, далёка не галоўнае, а мо і зусім не яго… Ужо была напісана легендарная песня “Радзіма мая дарагая”. Праз шмат гадоў Алесь Бачыла згадае, як пісаліся класічныя радкі: “…пра той настрой і ўмовы, у якіх нараджаліся словы песні.

Гэта былі першыя пасляваенныя гады. Мінск яшчэ ляжаў у руінах. Цяперашнія прыгожыя вуліцы і будынкі існавалі толькі ў праектах. Руінамі былі пазначаны і многія іншыя гарады. Мільёны людзей не мелі даху над галавой і туліліся ў наспех выкананых, прадымленых зямлянках. І словы: “Красуйся і ў шчасці жыві” датычыліся краю заўтрашняга, таго, які будзе, які нам належала яшчэ стварыць.

Сам я тады жыў у адным пакойчыку каркасна-засыпнага барака на Старажоўскай вуліцы. Барак пабудаваны задоўга да вайны. У дажджы прамакала столь, а ў ветраныя зімовыя дні цяпло настолькі выдзімалася, што можна было працаваць толькі ў паліто.

Не ў шыкоўных умовах жыў і аўтар музыкі — кампазітар Уладзімір Алоўнікаў. І ўсё ж гонар за нядаўнюю вялікую перамогу над ворагам і светлая надзея сагравалі нашы сэрцы. Не пра сябе быў галоўны клопат. Самі мы маглі цярпець, абы толькі добра жылося ёй, Радзіме. Абы яна адчула сябе шчаслівай і надзейнай. Гэтым жаданнем і былі прасякнуты нешматлікія радкі верша. Верш напісаўся за адзін вечар. Назаўтра я аднёс яго кампазітару”.

І ўсё ж у красавіку 1951 года таленавіты паэт становіцца шараговым журналістам. Да месца будзе нагадаць, хто з беларускіх літаратараў увогуле працаваў карэспандэнтам “Литгазеты”: Уладзімір Юрэвіч, Валянцін Панамароў, Анатоль Казловіч, Алесь Кажадуб, Пётр Валкадаеў. У кожнага з іх праца ў “Литгазете” была больш паспяховай, чым у Алеся Мікалаевіча.

І ўсё ж вернемся да пасяджэння рэдкалегіі.

6 снежня 1951 года. Першаму прадастаўляюць слова ўласнаму карэспандэнту. “Я працую ў “Литературной газете” сем месяцаў і за гэты час не зрабіў нічога саліднага. За гэты час надрукаваны мой артыкул “Званне абавязвае”; падрыхтаваны і знаходзіцца ў рэдакцыі артыкул сакратара ЦК КП(б)Б Ц. Гарбунова пра майстэрства ў беларускай літаратуры, рыхтуецца мой і Шкрабы артыкул пра Хрэстаматыю па беларускай літаратуры, артыкул Кулакоўскага “Творчую лабараторыю пісьменніка зрабіць творчай” і артыкул Лынькова “На польскіх землях”.

На хвіліну выйдзем з пакоя рэдакцыі, дзе акрамя Канстанціна Сіманава прысутнічаюць П. Нікіціч, Б. Рурыкаў, Г. Гулія, М. Атараў. На жаль, не ведаем пра творчую і партыйную кар’еру П. Нікіціча. А вось астатнія ўдзельнікі разбіральніцтва — людзі вядомыя. Барыс Сяргеевіч Рурыкаў (1909 — 1969) — савецкі крытык. У партыю ўступіў яшчэ ў 1932 годзе. У 1953 — 1955 — галоўны рэдактар “Литературной газеты”. Пасля працаваў у апараце ЦК КПСС. У 1963 — 1969 — галоўны рэдактар часопіса “Иностранная литература”. У 1964 выйшла яго кніга “Камунізм, культура і мастацтва”, а ў 1972 — “Рэальны гуманізм”.

> *Алесь Бачыла: “Я сам, як паэт, пішу па-беларуску. У “Литературной газете” даводзіцца пісаць па-руску. Пераклад гэты для мяне цяжкі. У выніку мая ўласная літаратурная работа пакутуе. За той час, што я працую ўласным карэспандэнтам на Беларусі, для сябе, як паэт, я не змог нічога зрабіць. Таму законная прэтэнзія, калі мяне пытаюць: паэт ты ці не паэт?”*

Мікалай Атараў (1907 — 1978) — рускі савецкі празаік. У журналістыцы — з 1930, пачынаў у часопісе “Наши достижения”. У 1948 — 1956 — член рэдкалегіі “Литературной газеты”. У 1957 годзе Атараў становіцца першым галоўным рэдактарам часопіса “Москва”. Ад пасады Мікалая Атарава вызваляць “за адыход ад партыйнай лініі”. Пісьменнік выступаў у друку і з артыкуламі пра Паўстоўскага, Гросмана, Катаева, у якіх выявіў разуменне каштоўнасцей сапраўднай літаратуры.

Георгій Дзмітрыевіч Гулія (1913 — 1989) — рускі савецкі пісьменнік. На час разгляду справы Бачылы — аўтар шэрагу аповесцей пра жыццё ў абхазскай вёсцы, лаўрэат Сталінскай прэміі. У 1948 годзе “Новый мир”, які тады рэдагаваў Канстанцін Сіманаў, надрукаваў яго раман “Вясна ў Сакене”. У партыі Гулія з 1940 года.

…Наколькі ўважліва яны слухалі Бачылу — малавядомага на той час літаратара з правінцыйнай Беларусі? Алесь Мікалаевіч расказаў і пра тое, што са зробленага па незразумелых яму прычынах нешта і не друкуецца, адхілена рэдакцыяй. “…Не надрукаваны быў мой артыкул “Лёс ураджая” пра матэрыяльную адказнасць за брак у калгасах. Тав. Хахлоў мне адказаў, што я напісаў нядрэнна, але не падняўся да праблемнасці. Мне здаецца, што ўзнятае мною пытанне для Беларускай рэспублікі мае значэнне. Многія калгаснікі зусім нічога не атрымліваюць на працадні ці атрымліваюць нязначную колькасць, пра што было спецыяльнае рашэнне нашага ЦК партыі”.

“Працадзень… Адзінка ўліку працы ў калгасах, якая вызначала долю калгасніка ў даходах”. У паэта Петруся Броўкі чытаем: “Насыпаем сваё збожжа // Ганарымся працаднямі… // Хутка вернецца машына // І ў наступны пойдзе рэйс”. А як было Алесю Бачылу не пісаць пра працадні, калі нават ЦК Беларусі ўздымала праблему?! І нават афіцыйная статыстыка была настолькі ўражальная… У 1950 годзе 73 працэнты працоўнага часу калгаснікі аддавалі грамадскім работам у калгасе, 10 працэнтаў — у дзяржаўных і кааператыўных арганізацыях і 17 — на сваіх прысядзібных гаспадарках. А грашовыя даходы ў тым жа годзе атрымалі наступныя: ад калгаса — 19,5 працэнта; ад продажу прадукцыі з уласных прысядзібных гаспадарак — 46,1 працэнта прыбытку (трэба ж было з нечага плаціць падаткі!); за кошт пенсіі, іншых дзяржаўных крыніц — 10 працэнтаў; яшчэ 5 — ад родзічаў і г.д. Здаючы дзяржаве малако, хатнюю жывёлу, самі спажывалі ў год усяго толькі 16,7 кг мяса і 156 літраў малака. Гэта ў сярэднім. А хтосьці, пэўна, жыў у нішчымніцы.

“Яшчэ я дасылаў крытычную карэспандэнцыю аб працы Белдзяржвыдата “У палоне самацёку” — пра тое, што няма сістэматычнай работы з аўтарамі, што работа не планавалася, — трымае справаздачу Алесь Бачыла. — Самацёк, які існуе ў выдавецтве, прывёў да таго, што выдавецкі план не выконваецца своечасова ці зусім не выконваецца. Пра гэты матэрыял мне сказалі, што спрабавалі яго выкарыстаць, але не змаглі”. І яшчэ: “Дасылаў я артыкул члена-карэспандэнта Акадэміі Архітэктуры Воінава пра кнігу Асмалоўскага пра архітэктуру Мінска, дзе скажаецца гісторыя сталіцы. Тав. Анастасьеў быў у Мінску, ён гутарыў з аўтарам і дамовіўся, што матэрыял будзе выкарыстаны. Але матэрыял вернуты аўтару. Па якой прычыне, невядома…”

Згадваліся і іншыя прыклады, калі напісанае Бачылам не знаходзіла месца на газетных старонках. Карэспандэнт сябе не апраўдвае і наадварот — гатовы павініцца: “Я разумею, што таго, што патрэбна газеце, я не зрабіў. Часткова тут вінаваты мой характар. Цяжкасці маёй працы заключаюцца ў тым, што калі я працую над нейкім адным матэрыялам, я не магу паралельна рыхтаваць іншы матэрыял. Калі я адхіляюся, я губляюся ў гэтым матэрыяле”.

Здавалася б, нягледзячы ні на што, разгляд работы ўласнага карэспандэнта — звычайная справа. Заўвагі на тое і заўвагі, каб іх выпраўляць. Асабліва — на пачатку работы. Вось і Георгій Гулія, відавочна, не зразумеўшы пазіцыю галоўнага рэдактара і яго бліжэйшага атачэння, гаворыць зусім не ва ўнісон астатнім: “Мне здаецца, трэба сказаць тав. Бачыла, што мы яго не адпускаем, патрэбна пакласці на яго строгае пакаранне і паведаміць у ЦК Кампартыі Беларусі і Саюз пісьменнікаў, што калі ён у бліжэйшы час не выправіцца, то мы здымем яго з працы. Я думаю, што т. Бачыла можа і павінен працаваць, можа і павінен выпраўляцца”.

Знешне спакойны, здавалася б, надзвычай мяккі, паэт цвёрды ва ўласных перакананнях. Даючы ацэнку сваім сілам, аналізуючы час работы ў “Литгазете”, Алесь Мікалаевіч сумленна гаворыць і пра прычыны, якія паўплывалі на вынікі (і гэта не толькі асаблівасць творчай тэхналогіі: “калі я

# патрэбна газеце…»

адхіляюся, я губляюся ў гэтым матэрыяле"). "Другое — тое, што я сам, як паэт, пішу па-беларуску. У "Литературной газете" даводзіцца пісаць па-руску. Пераклад гэты для мяне цяжкі. У выніку мая ўласная літаратурная работа пакутуе. За той час, што я працую ўласным карэспандэнтам на Беларусі, для сябе, як паэт, я не змог нічога зрабіць. Таму законная прэтэнзія, калі мяне пытаюць: паэт ты ці не паэт?"

Тут яшчэ трэба ўлічваць, відавочна, псіхалогію Канстанціна Сіманава. Газета, карэспандэнцкая праца былі для яго неаддзельнай часткай жыцця. З успамінаў К. Сіманава пра А. Твардоўскага: "Пасля Халхін-Гола я ўжо не жыў так "всецело" паэзіяй, як і ў папярэднія гады. І жыў інакш, і пра бліжэйшую будучыню думаў канкрэтна — як пра вайну". І літаратура, створаная Сіманавым, і нават яго паэзія вытокамі сваімі — з журналістыкі, журналісцкага ведання жыцця. Было і другое, што, магчыма, кіравала Сіманавым, — сама рэдакцыйная атмасфера, характар зносін газеты і пісьменнікаў. Некаторае святло на гэта пралівае адзін з пісьмовых зваротаў Канстанціна Федзіна да галоўнага рэдактара "Літгазеты": "Пішу Вам цалкам па-сяброўску і таму ўпэўнены, што Вы прабачыце мяне, калі я выкажу даўно складзенае перакананне: дробязнае апякунства над пісьменніцкім пяром заўсёды мяшала і, на жаль, працягвае мяшаць літаратарам супрацоўнічаць у "Литературной газете". Я ведаю, Вы не можаце быць згодны з гэтым і, упэўнены, — змагаецеся за тое, каб пісьменнік адчуваў сябе ў газеце менавіта літаратарам. Але я не заўважаў, каб работнікі "Лит(ературной) газеты" добра разумелі, наколькі важныя для літаратара нават нязначныя асаблівасці яго почырку, стылю, манеры і інш. Размова пра гэта іх толькі раздражняе, і раздражненне адбіваецца на газеце.

Ці не думаеце Вы, што варта было б калі-небудзь правесці вялікую размову, напрыклад, у Ц(энтральным) Доме літаратараў, на тэму "пісьменнік і пісьменніцкая газета"?.."

Магчыма, усё ж такі Сіманаў і правёў бы тое пасяджэнне ад 6 снежня 1951 года больш спакойна. Можа быць, Бачылу прабачылі і наступны "пралік". Яго агучыў П. Нікіціч: "Тав. Бачыла звычайна не можа адказаць ні на адно пытанне. Ён дрэнна звязаны з ЦК Беларусі, міністэрствамі, з навуковымі арганізацыямі. Больш таго, — ён паэт, член ССП, знаходзіцца на ўліку ў партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў, але ці мала ведае пра тое, што там робіцца, ці лічыць патрэбным трымаць свае веды пры сабе. Ва ўсялякім выпадку пра становішча ў беларускай пісьменніцкай арганізацыі рэдакцыя інфармавана дрэнна. Владко з Кіева нас інфармуе, Данжашвілі з Тбілісі таксама, Бачыла — не, хаця мы не раз прасілі яго аб гэтым і патрабавалі ад яго неабходную інфармацыю". Што ж, адна з форм работы цэнтра з рэгіёнамі — валодаць веданнем становішча, мець розныя крыніцы інфармацыі.

Асабіста Канстанціна Міхайлавіча найбольш істотна зачапіла іншае. Алесь Бачыла прызнаўся: "Складаецца нейкая непераадольная для мяне перашкода, звязаная з мовай і маім, магчыма, характарам. Я вымушаны прасіць аб вызваленні мяне. Мне не ўдаецца сумяшчаць тое і другое". І яшчэ: "Я на самым пачатку гаварыў, што мне боязна брацца за гэтую работу. Я ўвесь час працаваў на беларускай мове і пішу па-беларуску.

Цяжкасць у тым, што гэтыя мовы блізкія. Калі б яны былі далёкія, было б лягчэй. Калі я пісаў першы артыкул, мне прыйшлося тыдні на два зусім перайсці на рускую мову. Калі я пераходжу на работу па-руску, у мяне зусім выключаецца мая работа. Я і тут не змог зрабіць нічога прыкметнага, і са сваёй работы зусім выключыўся".

Дзякуючы падтрымцы з Масквы, Алесь Мікалаевіч атрымаў кватэру. Сапраўды, вялікае шчасце — пераехаць з аднапакаёўкі ў бараку ў нармальнае жыллё. Схадзіў раней, чым дазвалялася, у адпачынак. І толькі пасля прызнаўся ў тым, што працаваць у "Литгазете" не можа. Крытык Барыс Рурыкаў, "рэальны гуманіст", звяртаючы ўвагу і на гэтыя акалічнасці, пераканаў, што "справа не ў цяжкасці сумяшчэння беларускай і рускай моў, а ў тым, што ў тав. Бачыла няма пачуцця партыйнага доўгу".

Падсумоўваючы размову на пасяджэнні, Сіманаў усё яшчэ выказвае спадзяванне на тое, што Бачыла зразумее, што яго паводзіны няправільныя. "…Трэба працаваць добра, трэба выпраўляць памылкі. Іншага парадку ў нас няма". Значыць, як журналіст, аўтар, беларускі паэт можа і задаволіць рэдакцыю ўсесаюзнай газеты?.. Рэдкалегія чакае пакаяння. Прынцыпам, унутранай творчай пазіцыі тут не месца. Канстанцін Міхайлавіч дае апошнія словы "падсуднаму".

"Збег абставін для мяне такі, — гаворыць Алесь Бачыла, — што ўсе тут прысутныя маюць права думаць так, як яны пра гэта гаварылі. Сказаць, што гэта не так, я не магу, таму што абставіны супраць мяне. Калі я пісаў заяву, я думаў над гэтым пытаннем…" Паэт кланяецца сваім працадаўцам. Кланяецца і… застаецца самім сабою. "Але калі я сам узважыў усе абставіны і перада мною стаў выбар — быць карэспандэнтам і адмовіцца ад літаратурнай працы, таму што я не магу сумяшчаць гэтыя дзве працы, ці адмовіцца ад пасады карэспандэнцкай — я быў вымушаны падаць заяву <…> Можа быць, мае ўчынкі і даюць нагоду для высновы, што я капітулянт, але перада мною стаіць выбар паміж адным і другім, я нешта павінен выбраць. Быць беларускім пісьменнікам для мяне асноўнае, на мяне так глядзяць. Вось чаму я і выбраў такі шлях і падаў заяву…"

Такой цвёрдасці ад паэта з правінцыі, відаць, не чакалі. Мікалай Атараў нават перапытвае: "Я правільна зразумеў матывы вашай заявы? Вы як беларускі паэт церпіце "ущерб" ад таго, што Вам даводзіцца пісаць для рэдакцыі па-руску? Гэта сапраўды Вам вельмі мяшае?" Пачуўшы лаканічнае бачылаўскае "Так, мяшае", Атараў проста абураны: "Як вядома, Тарас Шаўчэнка перапісваўся з рускімі дзеячамі па-руску, а пісаў па-ўкраінску. У XIX стагоддзі Тарас Шаўчэнка згарэў бы ад сораму, пачуўшы такую заяву, як заява Бачылы. Гэта беспрэцэдэнтная заява! Гэта заява — для партыйнага разбіральніцтва". А будучы галоўны рэдактар "Літгазеты" Барыс Рурыкаў тут як тут: "Нам давядзецца, відаць, паслаць стэнаграму ў Мінск". Хто б сумняваўся! І сын пачынальніка сучаснай абхазскай літаратуры, аднаго са стваральнікаў сучаснай абхазскай мовы Дзмітрыя Гуліа — Георгій Гуліа спяшаецца змяніць свой нядаўні пункт гледжання: "Я не ведаў пра заяву т. Бачыла — зусім абуральную, нацыяналістычную, я лічу, заяву. Я сваю прапанову здымаю. Трэба Бачылу зволіць з працы і аб усім паведаміць у ЦК Беларусі. Няхай там таварышы паглядзяць, які член партыі ў іх працуе…"

> *Звольніўшы А. Бачылу з працы, Канстанцін Сіманаў адправіў у ЦК КП(б)Б і стэнаграму пасяджэння рэдкалегіі. У Мінску высновы зрабілі. На шчасце, нацыяналістам беларускія таварышы паэта, аўтара слоў песні "Радзіма мая дарагая", не зрабілі.*

Звольніўшы А. Бачылу з працы, Канстанцін Міхайлавіч адправіў у ЦК КП(б)Б і стэнаграму пасяджэння рэдкалегіі. У Мінску высновы зрабілі. На шчасце, нацыяналістам беларускія таварышы паэта, аўтара слоў песні "Радзіма мая дарагая", не зрабілі. Партыйная арганізацыя Саюза Савецкіх пісьменнікаў БССР прыняла наступную пастанову: "**1.** Асудзіць заяву т. Бачыла А. М. пра тое, што праца ў рускай газеце мяшае яму пісаць па-беларуску. Улічваючы тое, што ва ўсёй папярэдняй паэтычнай, грамадскай і рэдактарскай дзейнасці т. Бачыла А. М. ніякіх праяў нацыяналізма не было, не лічыць падобную заяву вынікам нацыяналістычных поглядаў Бачылы А. М. Кваліфікаваць яго як вынік "недомыслия" і палітычнай бязграматнасці.

**2.** За халатную работу на пасадзе карэспандэнта і за шкодную заяву аб'явіць тав. Бачылу Аляксандру Мікалаевічу вымову без занясення ва ўліковую картку".

Рашэнне паведамілі ў рэдакцыю "Литературной газеты". Наступным карэспандэнтам галоўнай пісьменніцкай газеты Савецкага Саюза ад БССР стаў (зразумела, па рэкамендацыі ЦК КП(б)Б) Георгій Шчарбатаў (1919 — 1957). Пра гэта М. В. Зімянін піша ў лісце К. М. Сіманаву: "Тав. Шчарбатаў Г. М., які рэкамендаваны карэспандэнтам "Литературной газеты", з'яўляецца правераным, вопытным журналістам і работу забяспечыць".

А паэт Алесь Бачыла вярнуўся да напружанай творчай працы. У 1954 годзе пабачыла свет новая кніга вершаў — "Зоры вясення". І пакуль не пайшоў з жыцця (у студзені 1983 года), Алесь Мікалаевіч выдаў яшчэ каля дваццаці кніг. У 1986 — 1987 гадах выйшаў збор твораў Алеся Бачылы ў трох тамах. У 1985 годзе пад адной вокладкай у кнізе "Крыло неспакою" былі аб'яднаны літаратуразнаўчае эсэ "Дарогамі Максіма", артыкулы, рэцэнзіі, успаміны пра вядомых беларускіх пісьменнікаў. У 1973 годзе "нацыяналіст" Алесь Бачыла напісаў верш "Роднаму краю":

*Памылюся — сурова судзі,*
*Не кідай аднаго на панурасць.*
*Дуб і той, калі ў маі адзін,*
*Не заўсёды адольвае буру.*

*А вяртацца адтуль,*
*з забыцця,*
*Могуць толькі*
*ў прыдуманых казках.*
*Я ж не ўсё яшчэ ўзяў*
*ад жыцця*
*І ўсяе не аддаў яшчэ ласкі.*

*Ты — адзінае шчасце,*
*мой край,*
*Новай песні*
*няспетыя словы…*
*Памылюся — судзі і карай.*
*Не пазбаў толькі*
*сына любові.*

Відаць, і тады, выслухоўваючы крытыку сталічных мэтраў, "литгазетовцев", беларускі паэт думаў пра родны край, пра свае галоўныя жыццёвыя і мастацкія прыярытэты.

***Выкарыстаны дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці.***

***Фотаздымкі прадстаўлены Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.***



**Алесь Бачыла, Яўгенія Бачыла, Васіль Вітка. 1982 г.**

## Яе душы цяпло зямное

**Аляксандр ХАЗЯНІН**

І ў сваіх кнігах, і пры сустрэчах з чытачамі неадназова даводзілася паўтараць: людзі ўсё больш пачалі расчалавечвацца. Не хацелася б прызнавацца нават сабе, але факт застаецца фактам: колькі сярод нас тых, хто ўжо згубіў чалавечае аблічча або зусім блізка падступіўся да гэтай мяжы. Асобныя губляюць унутраны стрыжань, душу сваю, забываючы пра гармонію і духоўнасць, без якіх немагчыма будаваць здаровае грамадства.

Каму і якая будзе карысць, калі ў перыяд глабалізацыі "чалавек здабудзе ўвесь свет" і… стане дзікуном. Але ж мы хочам жыць у цывілізаваным грамадстве. Таму варта ўзрошчваць высокі духоўны аўтарытэт, выхоўваць вернасць маральным прынцыпам. Хоць крышачку святла кожнаму з нас трэба несці кожны дзень. Каб падабрэў свет і чалавек у ім!..

Цёплымі, душэўнымі і шчырымі вершамі з паэтычных зборнікаў "Я адкрываю Вам душу", "Пад зоркаю лёсу", "Мовай сэрца" паэтэса Валянціна Гіруць-Русакевіч, адкрываючы светлую збалелую сваю душу, кранае чытацкія сэрцы. Кранае лірычнасцю, жыццесцвярджальнасцю, аптымізмам, нейкай, уласцівай толькі ёй, асветленасцю, пяшчотнасцю і сардэчнасцю, вялікім пачуццём, імя якому — любоў, каханне.

Паэтэса прызнаецца, што не стоміцца верыць у дабрыню, не разгубіць яе сярод дарогі і на выбоінах жыцця не растрасе… Яна — яе духоўна-маральны ідэал, галоўны эстэтычны аспект.

У жыццёвым полі, адчуваючы сябе, як сама прызнаецца, "вольнаю птушкаю родных нябёс", на што звярнуў увагу чытача ў прадмове да другой кнігі лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа В. Гардзей, паэтэсе бачацца сумётна-марозныя зімы, бярозкі ў карункавых хустках. Гэтыя родныя мясціны дарагія яе сэрцу.

*Тут мне песні спявалі сосны,*
*Калыхала арэшын голле,*
*Тут адкрыўся мне свет,*
*дзівосны —*
*Лёсу край і палёў раздолле.*

В. Гіруць-Русакевіч заўсёды шчыра глядзела жыццю ў вочы. Не журылася. Бо ведала, што абавязкова пасля хмарнай навальніцы сонейка ззяе… Мо таму такія светлыя радкі яе вершаў. А як узвышана піша яна пра чыстае каханне, падзеленае на дваіх. У адным са сваіх вершаў аўтаркамудра заўважае: "Шлях жыццёвы — не дошка з крэйдаю, што напісана ў ім — не сцерці…" Лёс не заўсёды ласкавы быў да яе. І ўсё ж паэтэса навучылася радавацца гэтаму цудоўнаму свету, нягледзячы ні на што.

Творчасць Валянціны Гіруць-Русакевіч прасякнута мелодыяй любові да людзей, Бацькаўшчыны, сям'і, да ўсяго харастваа зямнога. Яе пачуццё — "пяшчотна-светлашчырае". Сэрца да каханага "нібы кветка да сонца імкнецца". У вершы "А вочы — цеплыні азерцы" прызнаецца:

*А мне з табою хораша і лёгка так,*
*Здаецца, ўсё магу і ўсё адолею.*
*Вясна чаруе замецю пялёсткавай,*
*А ты — вачэй-валошак*
*сінім полымем.*

Каханне ў яе паэзіі высакароднае… Мо таму што застаецца сарамлівым, а тыя двое, ён і яна, умеюць чакаць у выпрабаваннях і быць цярплівымі, не прычыняючы адно аднаму аніякай крыўды: пакуль людзі кахаюць, яны ўмеюць прабачаць. А калі ўмеюць кахаць — значыць, усё ўмеюць!

**Сёння пазнаёмім чытачоў з дзейнасцю Брэсцкага абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў і асобных творцаў. Пралогам хочацца ўзяць словы тамтэйшага мастака-эмальера Мікалая Кузьміча, які падкрэсліваў, што Берасцейшчына мае даўнія традыцыі, багатую і шматвобразную гісторыю выяўленчага мастацтва, якое абапіраецца на тыя добрыя традыцыі, што былі напрацаваныя папярэднікамі: Пятром Данэлія, Іванам Рудчыкам, Мікалаем Чураба, Эдуардам Куфко і многімі іншымі, пра чые творчасць і жыццё грамадскасць горада Брэста і вобласці ніколі не забывае, праводзячы вечарыны, прысвечаныя іх дзейнасці.**

**Мастакі-берасцейцы, кожны ў сваёй галіне: адны ў жывапісе, другія ў графіцы, трэція ў габелене, чацвёртыя ў дызайне, пятыя ў скульптуры і гэтак надалей — нясуць сваю культуру, свой адмысловы сэнс творчасці, свае ідэі да грамадства, да кожнага чалавека паасобку… І на кожнага творцу неадназначны, няпросты час накладвае свой адбітак, асабліва калі гэты час выпаў на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў, на пераломе эпох… Прадстаўляе Брэсцкае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў яго старшыня Мікалай ГУРШЧАНКОЎ.**



# Жыць, марыць, ствараць

**АБЛАСНОЕ** аддзяленне было ўтворана больш як шэсцьдзясят гадоў таму, у 1948-м. Цяпер у складзе суполкі налічваецца 54 мастакі: жывапісцы, графікі, скульптары, майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва… У самім Брэсце жывуць 44 творцы і 10 — у вобласці. Але, як і паўсюль, большасць з іх пенсіянеры — 32 чалавекі. Самы старэйшы — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Пётр Данэлія, якому пайшоў 92-гі год. Яго творчасць разнастайная: пейзаж, партрэт, нацюрморт, манументальны роспіс, скульптура, лірычны і эпічны пейзажы, медальернае мастацтва. Дарэчы, Пётр Аляксеевіч — адзін з заснавальнікаў Брэсцкай абласной арганізацыі БСМ.

**ГАЛОЎНАЯ** праблема мастакоў, і не толькі нашых, — утрыманне творчых майстэрань. Асабліва гэта цяжка і складана для пенсіянераў. Таму многія вымушаны ад іх адмаўляцца, як тое зрабілі мастачка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Дзіяна Вымаркава, жывапісец Уладзіслаў Куфко, скульптары Алеся Гуршчанкова ды Павел Герасіменка.

Другая праблема — няма ратацыі кадраў. Маладыя мастакі амаль не едуць: за апошнія гадоў шэсць ніводзін выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў не прыехаў у Брэст. Тое ж датычыцць і іншых абласцей. Прэстыж нашага занятку ўжо не такі, як быў раней, бо, акрамя творчасці, трэба мець іншую прафесію, каб зарабляць на жыццё.

Але мы імкнёмся нешта рабіць. Вось нядаўна прайшоў невялікі пленэр у Бярозаўскім раёне, дзе бралі ўдзел чатыры нашы мастакі. Плануем напрыканцы жніўня правесці ў Ляхавіцкім раёне пленэр на тэму родных мясцін. На яго мы запрасілі двух мастакоў з Познані, таму што з гэтым горадам некалькі гадоў таму наладзілі добрыя творчыя сувязі. У адрозненне ад некаторых іншых абласцей, упраўленне культуры Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта на чале з начальнікам Рыгорам Бысюком і яго намесніцай Тамарай Паўлюковіч нам ва ўсім спрыяе, дапамагае.

**АСАБЛІВАГА** дэфіцыту наконт выставачных плошчаў мы не маем. Да нашых паслуг тры асноўныя пляцоўкі — зала абласнога грамадска-культурнага цэнтра, музей "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці" і Мастацкі музей. На гэты год запланавана пяць абласных выставак. Да таго ж, сёлета ў нас шмат юбіляраў. З гэтай нагоды ладзім персанальныя выстаўкі такіх, прыкладам, мастакоў, як Валерый Кавальчук, Тамара Дзянісава, Леанід Валасюк, Мікалай Кузьміч, Леанід Рацько, напярэдадзе персанальныя экспазіцыі Леаніда Салаўёва, Наталлі Чорнагаловай.

Бяром удзел у рэспубліканскіх выстаўках, але гэта вельмі складана, асабліва для сталых творцаў: за свой кошт завезці, прывезці карціны і да т.п. Гэтымі днямі ў Львове дэманструецца экспазіцыя ста беларускіх мастакоў. Там выстаўляюцца работы і двух творцаў з нашай арганізацыі: мае і пінчаніна Яўгена Шатохіна.

Калі жывапісцам і майстрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва наладзіць выстаўку нескладана, то са скульптарамі, асабліва манументалістамі, іншая справа. Яны, у сваю чаргу, сваімі работамі аздабляюць і ўпрыгожваюць наш горад, напрыклад, "Мелодыя" Алесі Гуршчанковай, манумент да 1000-годдзя Брэста Аляксея Паўлючочка… Увогуле, мастакі розныя па стылях, жанрах, тэхніках. Усіх не пералічыш, але хацелася б назваць некаторых з іх: Міхаіл Канькоў, Павел Рабаў, Аксана Гайдуковіч, Леў Алімаў, Аляксандр Фалей, Іван Рамановіч, Ігар Скавародка…

**МЫ** падрыхтавалі і выдалі альбом "Мастакі Брэстчыны". Інфармацыя, змешчаная ў ім, дазнясе да чытача, да аматараў мастацтва дастатковае сведчанне пра высокае майстэрства нашых мастакоў як старэйшага пакалення, так і маладых мастакоў, якія сваёй творчасцю дапаўняюць багатую палітру мастацтва нашага краю, без якіх немагчыма далейшае папаўненне і развіццё абласной арганізацыі.

З прадмовай у выданні выступіў старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар, які, прынамсі, адзначыў, што гісторыя выяўленчага мастацтва Берасцейшчыны багатая і разнастайная. Нямала створана нашымі мастакамі за тыя 60 год, якія мінулі з часу стварэння абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў. Ва ўсіх відах і жанрах выяўленчага мастацтва мы маем вартыя прыклады высокага майстэрства, натхнення і творчай самааддачы.

**ЗРАЗУМЕЛА**, што паўнату нацыянальна-дзяржаўнага існавання можа забяспечыць разумнае спалучэнне клопату пра матэрыяльную і духоўную культуру. Таму абласны выканаўчы камітэт, органы ўлады на месцах усяляк садзейнічаюць развіццю нацыянальнай культуры і мастацтва, што ў цэлым з'яўляецца адбіткам палітыкі сучаснай Беларусі, заяўленай кіраўніком дзяржавы Аляксандрам Лукашэнка.

Пастаянная выставачная дзейнасць на Бацькаўшчыне і за мяжой, стварэнне мастацкіх галерэй, дапамога ў захаванні культурнай спадчыны, аднаўленне хрысціянскіх святыняў, эстэтызацыя навакольнага асяроддзя мастацкімі сродкамі — вось некаторыя фрагменты дзейнасці арганізацыі мастакоў.

**СЯРОД** найбольш значных культурных падзей вобласці апошніх год варта назваць стварэнне карціннай галерэі на радзіме знакамітага земляка Напалеона Орды ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна і аднаўленне Крыжа і Ракі святой Еўфрасінні Полацкай. Гэтыя падзеі з'яўляюцца прыкладам сувязі паміж творчымі пакаленнямі сучаснасці і мінулага, прыкладам памяці пра тых, хто сваёю працаю спрычыніўся да стварэння цудоўнага будынка беларускага мастацтва.

Творчая дзейнасць брэсцкіх мастакоў гаворыць пра тое, што незалежна ад узросту, прафесіяналізму, вядомасці іх аб'ядноўваюць шчырая любоў да роднага краю — зямлі, на якой яны жывуць, мараць, ствараюць, і жаданне паказаць навакольны свет ва ўсёй яго складанасці і прыгажосці.

**Запісаў**
**Віктар КАВАЛЁЎ,**
***фота аўтара***



***На здымках: Мікалай Гуршчанкоў; скульптура Алесі Гуршчанковай "Мелодыя".***

# Увасабленне прыгажосці

Леў Талстой сцвярджаў: "Чалавек — гэта дроб, у лічніку якога — тое, што кажуць пра яго людзі, а ў назоўніку — тое, што кажа ён пра сябе сам". Любы школьнік ведае: чым большы лічнік, тым большы дроб. Выказванне класіка рускай літаратуры будзе вельмі дарэчы, калі паспрабаваць намаляваць творчы і педагагічны партрэт дацэнта кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Валерыя Кавальчука. За гэтым чалавекам трывала замацавалася рэпутацыя майстра выяўленчага мастацтва, майстра педагагічнай працы, майстра прапаганды мастацтвазнаўчых ведаў.

В. Кавальчук працуе ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве, станковым жывапісе, у жанрах партрэта, пейзажа. Яго карціны знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, у музеі гісторыі горада Брэста, у прыватных калекцыях у Чэхіі, Германіі, Польшчы. Валерыю Яўгенавічу заўсёды ўдавалася адлюстроўваць любы цікавы момант у руху, паводзінах, ракурсе чалавека. Ён здольны бачыць прыгажосць, якую хочацца ўвасабляць.

Каб ацаніць тое, што зрабіў Валерый Кавальчук у галіне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, дастаткова наведаць у Брэсце цыркавую студыю Палаца культуры прафсаюзаў, прадпрыемства "Савушкін прадукт", кінатэатр "1 Мая", музей касманаўтыкі ў вёсцы Тамашоўка (Брэсцкі раён), школу ў вёсцы Чыжэўшчына і Дом культуры ў вёсцы Ракітніца (абедзьве ў Жабінкаўскім раёне). Непаўторная мазаіка сцен, якую можна тут убачыць, — вынік творчых высілкаў гэтага майстра.

Творчасць стала для яго прадметам працы, якая прыносіць духоўнае задавальненне. Дачка Аляксандра бачыць сакрэт поспехаў у наступным: "Тата — вельмі працавіты чалавек у дасягненні мэты. Вельмі абавязковы, вельмі адказны. Галоўнае жыццёвае крэда — рабіць усё так, каб не было сорамна за тое, што ты зрабіў".

Студэнты БрДТУ пастаянна адчуваюць, што ў Валерыю Яўгенавічу жыве настаўнік, які здольны навучыць. Кажучы пра педагагічную практыку Валерыя Яўгенавіча, трэба вылучыць галоўнае — рабі, як я, гэта значыць, па-майстэрску.

Вытокі для творчай і педагагічнай працы Валерый Кавальчук бачыць у сваіх родных, сям'і.

**Людміла БАЮРА,**
**Міхаіл СТРАЛЕЦ**

# Шануйма сваё!

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Мастацкі музей, дырэктар якога Васіль ГУЛЯЕЎ, — філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Іншыя яго філіялы — музеі "Бярэсце", "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці" і "Камянецкая вежа". Але ж мы спынімся на Мастацкім музеі.**





Як зазначыў Васіль Васільевіч, ідэя стварэння такога музея ўзнікла даўно. У фондах абласнога краязнаўчага музея сабрана больш як 2,5 тысячы карцін, некалькі соцень скульптур, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва майстроў Брэстчыны, але не было прыдатнага памяшкання. Задума адкрыцця музея ў Паўднёвай казарме Брэсцкай крэпасці ўзнікла спантанна і належала былому губернатару Уладзіміру Заламаю. Але памяшканне было амаль разбуранае: абваліліся зводы, не было падлогі, вокнаў, дзвярэй. За пасляваенныя гады тут ніхто нічога не рабіў.

У 1999 годзе пачалася рэстаўрацыя будыніны. Прыязджаў былы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп, агледзеў усё і выказаў сваё меркаванне, што тут работы будзе не менш як на дзесяць гадоў. Але неяк за тры гады закончылі рэстаўрацыю. Увесну 2002-га пачалі афармленне экспазіцыі залаў. А само адкрыццё адбылося 17 мая 2002 года напярэдадні Дня музеяў. Усяго налічваецца дванаццаць залаў: дзесяць з пастаяннымі экспазіцыямі і дзве выставачныя. Практычна штомесяц ладзіцца чарговая новая выстаўка. Працавала экспазіцыя работ Івана Шышкіна (33 творы) з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, дэманстраваліся арыгіналы работ Рэрыхаў, экспазіцыі маскоўскіх, піцерскіх мастакоў. У асноўным жа праводзяцца выстаўкі айчынных, брэсцкіх мастакоў. Бо гэты музей адкрыты менавіта для мастакоў вобласці. Да таго ж 99 працэнтаў экспанатаў — работы брэстчан.

Выстаўляюцца не толькі сучасныя творцы-землякі, а ўвогуле ўраджэнцы Брэстчыны: Аляксей і Мікалай Кузьмічы, Іван Рэй, Фёдар Дарашэвіч… Супрацоўнікі музея звязваюцца з мастакамі, іх сваякамі, частку работ яны дораць, перадаюць, частка набываецца.

"Нам канкураваць з музеямі "Бярэсце" ці абароны Брэсцкай крэпасці-героя складана, але ў сярэднім штогод нас наведвае каля 30 тысяч чалавек. Так што не ўсё так блага. Знайшлі новы, правільней сказаць, забыты стары, напрамак у рабоце: выязджаем у дзіцячыя садкі, навучальныя ўстановы горада, вобласці, разгортваем экспазіцыі і праводзім экскурсіі. Падрыхтавана сем выязных экспазіцый, прыкладам, ваенная тэма, гісторыя горада XI — XX стагоддзяў, горад сучасны…", — распавядае Васіль Гуляеў.

Агляд пачынаецца з першай тэматычнай, гістарычнай, залы. Тут прадстаўлены макет старажытнага Брэста XVII стагоддзя, выкананы навучэнцамі Брэсцкага політэхнічнага каледжа па праекце Анастасіі Фяцісавай. Побач месяцца яе карціны з цыкла "Таямніцы старога горада" з краявідамі Брэста, партрэтамі палітычных і дзяржаўных дзеячаў сярэднявечча — "Князь Вітаўт", "Манастыр бернардынак"…

Потым ідзе экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне: подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці, мужнасці беларускага народа. Работы Аляксея Кузьміча "Жыві і памятай", Мікалая Аўчыннікава "Берлін. 1945 год", скульптура Сяргея Вакара "Рэйкавая вайна", творы мастакоў-франтавікоў Міхаіла Савіцкага, Пятра Данэліі, Івана Фяцісава.

Наступныя — дзве залы жывапісу. У адной з экспазіцый распавядаецца пра станаўленне выяўленчага мастацтва Брэстчыны ў першыя пасляваенныя гады, дэманструюцца работы заснавальнікаў абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў: Івана Фяцісава, Мікалая Чурабы, Мікалая Аўчыннікава, Васіля Шыкіна, Канстанціна Максімцава, "Навальнічная трывожнасць" Пятра Данэліі, "Квітнеючы сад" Івана Рудчыка. Побач у вітрынах размешчаны фотаздымкі і дакументы, якія сведчаць пра культурнае жыццё брэсцкага краю таго часу, пра мастакоў-франтавікоў.

Далей ідуць работы творцаў, якія пачыналі працаваць на Брэстчыне ў 1960-1980-х гадах, і работы з 1990-х гадоў і па сённяшні дзень: "Стагі ўзімку" Васіля Сабалеўскага, "Партрэт Салжаніцына" Эдуарда Куфко, "Сляды часу" Генадзя Сурмы, "Мадонна Чарнобыля" Тамары Паўлючук, "Пейзаж з адзінокай лодкай" Міхаіла Канькова, "Блізкі далёкі бераг" Мікалая Маеўскага, "Шыпшына" Івана Рэя, макет помніка Аляксандра Дранца "Францыск Скарына", які ўсталяваны ля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Сярод іншага прыцягвае ўвагу палатно Івана Фяцісава "Прыходзьце заўтра", датаванае 1954 годам. На ім напісана сталая разгубленая простая сялянская кабета, а на пярэднім фоне, спінай да яе — выкшталцона апрануты, у паліто, у белай кашулі з гальштукам, з партфелем у руцэ пыхлівы чыноўнік. Гэтую карціну некалькі дзесяткаў гадоў забаранялі выстаўляць, бо, як лічылася, у Савецкім Саюзе бюракратаў няма.

У асобным раздзеле з дзвюх залаў — мастацтва графікі. Ганарам калекцыі з'яўляюцца экслібрысы і работы "Вяртанне" з серыі "Падарожжа" Паўла Татарнікава, аўтапартрэт "Народжаны ў масцы" акадэміка графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Льва Алімава, за які ён быў ганараваны Міжнародным біяграфічным цэнтрам (Кембрыдж, Вялікабрытанія) званнем "Чалавек года ў мастацтве", "Партрэт М. С. Талмачова" Уладзіміра Тулупава. Дарэчы, дзясятага жніўня ў музеі плануецца зрабіць вечарыну памяці Юрыя Татарнікава, бацькі Паўла, а таксама зборную выстаўку бацькоў і сына. Побач месяцца творы Міхаіла Канькова, Мікалая Чурабы… У экспазіцыі — некалькі студэнцкіх графічных работ Мікалая Селешчука, якія падараваў Мастацкаму музею Леў Алімаў. На жаль, кіраўніцтву ўстановы ніяк не атрымоўваецца набыць яшчэ хоць якія-небудзь творы Мікалая Селешчука: іх, як кажуць, проста нідзе няма.

Далей — залы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і самадзейнай творчасці, тое, на што багатая Брэстчына. Са слоў Васіля Васільевіча, калі ў XVI стагоддзі нашы продкі ў дадзеным рэгіёне ведалі пяцьдзясят сем розных рамёстваў і промыслаў, то цяпер у вобласці захавалася каля сарака.

Шмат чаго робіцца для адраджэння народнага мастацтва. Але калі раней тут былі пяць моцных цэнтраў па вырабе керамікі, то цяпер захаваўся толькі адзін у вёсцы Гарадная Столінскага раёна. Можна падзівіцца на мясцовыя чорна-задымленыя, з белай і чырвонай гліны мамэзлькі, гаршчкі, злівачы, гарлачы, збанкі, місы…

Марыя Кулецкая з Пружанаў адкрыла падзабыты від мастацтва — роспіс па шкле.



Неяк у сябе на гарышчы яна знайшла адну карцінку, разабралася ў тэхніцы выканання, пачала дзяцей навучаць і ладзіць як персанальныя, так і сумесныя з выхаванцамі выстаўкі. Некаторыя з прадстаўленых ёю работ, якія яна падаравала музею, — "Муха і Вец", "Пружанскі палацык", "Макі ў кошыку". Таксама лашчаць вока вырабы падвойнага ткацтва, якія ствараюць у адным, так бы мовіць, з апошніх цэнтраў гэтага рамяства ў Камянецкім раёне, адмысловы куфар з Іванаўскага раёна, работы сучаснага інсітнага майстра Мікалая Тарасюка з Пружанскага раёна, цацкі-свісцёлкі, выцінанкі, габелены, роспіс па шоўку.

Адметны народны майстар-разьбяр з вёскі Цярэблічы Столінскага раёна Іван Супрунчык. Іван Піліпавіч працуе толькі сякерай. Асноўныя накіды некаторых будучых скульптур ён робіць прама ў лесе: знаходзіць засохлае дрэва, працуе, потым спілоўвае і ўжо дарабляе дома. Іван Супрунчык стварыў у сябе на радзіме этнаграфічны музей, дзе ёсць такія рэчы, якіх не мае нават абласны краязнаўчы музей. Таксама ўражвае яго серыя выяўленчых твораў, напісаная пастэллю і алоўкам, дзе адлюстроўваецца, як дзед з бабаю страцілі лік дням і прыгадваюць, што яны рабілі штодня: "У панядзелак паехалі араць, у аўторак аралі, у сераду саху зламалі, у чацвер валоў згубілі, у пятніцу валоў знайшлі, у суботу дамоў прыйшлі". Увазе цікаўных — музычныя інструменты: самаробныя дудкі, ражкі, званочкі і скрыпка майстра з Бярозы Якава Шаўчука. Прычым скрыпка, паводле экспертызы, нічым не саступае прафесійным ленінградскім. Дзіва, Якаў Іванавіч музыкантам не быў, але знайшоў сябе ў гэтай справе. Таксама прадстаўленыя ручнікі, рэгіянальныя жаночыя строі: брэсцкі, драгічанскі, кобрынскі…

Вабіць "Партрэт В. І. Гаўрылюк", напісаны Уладзімірам Тулупавым. Веру Гаўрылюк лічаць у Беларусі адраджэнкай у 1960-х гадах мастацтва саламапляцення. А справа вось у чым: Вера Ільінічна прыйшла на Брэсцкую фабрыку мастацкіх вырабаў, прапанавала набраць вучняў, навучыць іх і адкрыць цэх саламапляцення. Ёй адказалі, што, па-першае, вам ужо 60 гадоў, а па-другое, у вас няма вышэйшай адукацыі. Тады яна паступіла ў Маскоўскі завочны інстытут мастацтваў імя Н. Крупскай, які скончыла ў 66 (!) год, набрала вучняў і распачала сваю працу.

За час работы Мастацкага музея ў яго выставачных залах арганізавана больш як 70 выставак мастакоў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Традыцыйнымі формамі работы музея сталі творчыя сустрэчы з мастакамі і народнымі творцамі, майстар-класы, навукова-практычныя канферэнцыі, музейныя ўрокі, выступленні творчых калектываў і, канечне ж, юбілейныя вечарыны памяці.

***На здымках: Васіль Гуляеў; Іван Супрунчык "Лірнік"; Мікалай Аўчыннікаў "Берлін. 1945 год".***

# Натхненне сям'і Курачыцкіх

Лідзія ГОЛУБ,
г. Гомель

**У Карцінңай галерэі імя Г. Х. Вашчанкі г. Гомеля ў рамках праекта "Культурная сталіца Беларусі" адбылося адкрыццё выстаўкі беларускай керамісткі Тамары Курачыцкай.**

Тамара Мікалаеўна нарадзілася ў 1949 годзе ва Украіне. Скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, аддзяленне керамікі. Выкладала ў мастацкім каледжы горада Мінска. У 1975—2000 гадах працавала на камбінаце прыкладнога мастацтва горада Барысава. Прыняла ўдзел у трыццаці рэспубліканскіх выстаўках, пяці замежных (Дрэздэн, Херсонес, Швейцарыя, Франкфурт-на-Майне, Ташкент). Акрамя таго, праведзена дзесяць яе персанальных выставак. Мастачка стварае свае работы ў асноўным для экспазіцый. Час ад часу працуе над заказамі дзяржаўных і прыватных арганізацый: падбірае гатовыя або стварае новыя вырабы для офісаў, жылых памяшканняў. Ёю створана каля васьмідзесяці эталонаў для камбіната прыкладнога мастацтва. Тамара Мікалаеўна займалася афармленнем Прэзідэнт-цэнтра ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, фае канферэнц-залы ў Мірскім замку. Яе творчыя работы набылі Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, мастацкі музей імя П.В.Масленікава горада Магілёва, гасцініца "Еўропа".

Т. Курачыцкая была ўзнагароджана ў 2008 годзе ганаровай граматай "За асаблівы ўнёсак у развіццё выяўленчага мастацтва Беларусі і за афармленне Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі", у 2010-м — граматай "За выдатныя творчыя дасягненні ў галіне мастацтва Беларусі і актыўны ўдзел у мастацкім жыцці Рэспублікі Беларусь".



На выстаўцы прадстаўлены яе работы, выкананыя ў тэхніцы мазаічнага выкладвання, аб'ёмныя творы з шамотный масы, дробная пластыка з гліны. Кожны кавалачак гліны падфарбоўваецца рознымі колерамі, глазур мастачка рэдка выкарыстоўвае ў працы. Гледзячы на творы, прадстаўленыя на выстаўцы, складана ўявіць, што ўсё гэта выканана рукамі жанчыны, бо працэс стварэння керамічнай скульптуры даволі складаны. Праца над некаторымі творамі забірае каля паўгода. Керамічныя пано і скульптуры Тамары Курачыцкай захапляюць сваёй пяшчотай, вытанчанасцю. Пераважаюць работы на марскую тэму: розныя па формах ракавінкі, рыбы. Тамара Мікалаеўна тлумачыць: "Мне не хапае вады ў шырокім сэнсе гэтага слова, я сумую па моры". Тэма дзяцінства, раслінны і жывёльны свет надаюць асаблівую атмасферу выстаўцы, напаўняюць станоўчымі эмоцыямі, пазітывам. Захаваць момант, яго непаўторнасць — галоўнае для мастачкі ў творчым працэсе.

Такія работы, як "Начная фіялка", прысвечаная нараджэнню ўнучкі мастачкі Магдалене, "Сям'я", скульптура жанчыны з дзіцем ствараюць адчуванне утульнасці, цяпла, хатняга спакою. Некаторыя творы выглядаюць як нерукатворныя, народжаныя самой прыродай. Тамара Курачыцкая хоча даказаць не толькі самой сабе, але і іншым, што кераміка — гэта не толькі стварэнне гліняных гаршчкоў, і яе работы — яскравае пацвярджэнне таму. Творы мастачкі вытрыманыя ў пяшчотных, пастэльных танах, таму гарманічна глядзяцца ў любым інтэр'еры.

Дарэчы, на выстаўцы прадстаўленыя таксама жывапісныя творы мужа Тамары Мікалаеўны Івана Курачыцкага і іх сына Андрэя, скульптура.

Іван Курачыцкі нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Завостравічы Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце. Яго работы прадстаўлены ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Творца працуе ў розных напрамках: жывапіс, вітражы, кераміка. На выстаўцы прадстаўленыя яго пейзажы, якія перадаюць усю прыгажосць беларускага краю. Прамень заходзячага сонца, золата восеньскай лістоты, серабрыстая раса — усё тое, што мы так рэдка заўважаем у паўсядзённым жыцці, зачароўвае сваёй чысцінёй і першародный прыгажосцю на яго палотнах. Жывапісныя творы Івана Курачыцкага перадаюць яго захапленне, трапяткое стаўленне, любоў да прыроды і творчасці. Пейзажы мастака адрозніваюць майстэрская перадача ледзь заўважных станаў прыроды, лірызм. Гэта адна з агульных выставак, на якой прадстаўлены работы ўсёй творчай сям'і.

## Вандроўкі

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

# «Узгоркі» пад Калугай

**"Пустыя ўзгоркі", міжнародны фестываль свабоднай творчасці, адбыўся пад Калугай, за дзвесце кіламетраў ад расійскай сталіцы. Пяць насычаных дзён змясцілі ў сабе шмат фарбаў: музыку (фолк, народныя хоры, духавыя аркестры, рэгі, рок, джаз, блюз…), кіно, тэатр і аўтарскую інтэлектуальную мультыплікацыю, майстар-класы па жывапісе, танцах, тэатры, хатха-ёзе і гранні на шаманскім варгане, чытанне вершаў.**

Гэты фестываль традыцыйна праходзіць пад адкрытым небам, і стваральнікі яго добраахвотнікі. Прыязджаючы загадзя, валанцёры будуюць сцэны і масты праз рэчку. А скончыцца свята — можна застацца прыбіраць смецце і разбіраць часовыя пабудовы.

Сюды не трэба набываць білет, усе мерапрыемствы бясплатныя. "Чалавечкі не прадаюцца!" — такі дэвіз тых драўляных стварэнняў, сімвалаў фестывалю, якіх можна набыць, ахвяраваўшы грошы на яго патрэбы. Тут штогод — свая канцэпцыя. "Пустыя ўзгоркі-2011" — гэта Дом: сцэны "Кухня", "Спальня", "Веранда", "Прыступкі", "Паддашак", "Сенцы". Кіно можна было паглядзець у "Гасцёўні", а вершы паслухаць у "Дзівосным садзе". Фестываль заўжды годна афармляецца, упрыгожваецца ўсемагчымымі арт-аб'ектамі.

На кожных "Пустых узгорках" прысутнічаюць беларусы. Сёлета гэта былі музычныя калектывы "Петля пристрастия", "The Toobes", "Гурзуф", "Fratres", "Vuraj". "Vuraj" — цікавы праект, заснаваны ў 2009 годзе. Свой стыль удзельнік і характарызуюць як "казачны фолк", "інструментальны тэатр". Іх творчасць — гэта меладыі беларускага фальклору, міфалагічныя вобразы, гукапераймання. Тут гучаць флейта, бубны, гітара, скрыпка, тамбак, дарбука, кантрабас.

Увогуле, "вясёлкавая" разнастайнасць музыкі —адметнасць фестывалю "Пустыя ўзгоркі".

## Афарызм

*Па словах вашых мяркуюць пра вас, а вось уздасца вам – па дзеях вашых.*
*А на іх яшчэ трэба будзе паглядзець.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# У свята — паэтычны твар

Урачыста і парадна Горацкі раён адзначыў адну з самых яркіх падзей — дзень вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На свята з'ехалася шмат гасцей — з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы і Азербайджана. У якасці ганаровага госця яшчэ напярэдадні свята ў Горкі прыбыў Дзяржаўны ансамбль Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, які выступаў на многіх адкрытых пляцоўках горада і раёна.

Адметна, што ў даволі насычаны і разнастайнай святочнай праграме былі адведзены значнае месца і час горацкім творцам. У дзіцячым парку дэманстраваліся выстаўкі карцін народнага аматарскага аб'яднання "Мастацтва", а эстрадную пляцоўку занялі паэты — члены народнага аматарскага аб'яднання "Роднае слова".

На працягу амаль дзвюх гадзін горацкую грамадскасць і гасцей займала літаратурна-музычная кампазіцыя "Горкі — радзіма паэтаў". Выступалі аўтары са сваімі творамі, лепшыя самадзейныя артысты і ансамбль "Спадчына" знаёмілі публіку з песнямі на словы мясцовых паэтаў.

У імпрэзе прыняў актыўны ўдзел паэт-сатырык Міхаіл Уласенка. Вершы другой прафесійнай паэткі, неаднаразовага лаўрэата літаратурных прэмій Ніны Кавалёвай гучалі з вуснаў тутэйшых чытальнікаў — сама паэтка па стане здароўя не можа асабіста прысутнічаць на мерапрыемствах. Са сваімі новымі творамі выступілі Алесь Клачкоў, Лідзія Андрэева і Лія Родная. Са святочнай узнёсласцю чыталі ўласныя вершы маладыя паэткі Алеся Цэван і Таццяна Гаўрыленка.

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА,**
**Горацкі раён**

# У госці да дзяцей

Цікавая сустрэча адбылася ў Доме культуры аграгарадка Лясны з навучэнцамі Бараўлянскай школы і гімназіі, што адпачываць у летніку "Добры дзень, лета!". Штодня тут ладзяцца канцэрты, праводзяцца інтэлектуальныя гульні, казачныя вiктарыны, конкурсы малюнкаў. А нядаўна да дзяцей завітаў пісьменнік Аркадзь Жураўлёў.

Школьнікі прыхільна ўспрымалі лірычныя мініяцюры, быаліцы, гумарыстычныя творы (аўтар пастаянна выступае ў альманаху "Вожык" у выкананні аўтара і неаднаразова "заліваліся" дружным смехам.

Аркадзь Жураўлёў прызнаўся дзецям, чаму ён гэтак ахвотна піша для іх. Па-першае, ён дзед, а дзяды часта сачыняюць для ўнукаў. Па-другое, пісьменнік не забыўся, як сам быў дзіцёнкам.

Напрыканцы сустрэчы была праведзена віктарына па творчасці Аркадзя Жураўлёва. Самы ўважлівы вучань, Дзмітрый Радчанка, атрымаў кнігу з аўтографам аўтара і здымак на памяць.

**Марына ДАМІНО,**
**Мінскі раён**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
наместнік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04,
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2801
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.07.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3596
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12